—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
11
ВЕРАСНЯ
1992 г.
№ 37 (3655)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## БЭТЭЭРЫ ПА ПЛЯЖЫ НЕ ХОДЗЯЦЬ?

Абхазскі дзённік Уладзіміра СІЎЧЫКАВА.

СТАРОНКІ 2—4

## СУНІЧНІК НА КУДЗІНАВЫМ ПОЛІ

Валянцін ТАРАС: «Сёння, калі імперыя ляснула, няма, думаецца, іншага шляху наперад, акрамя вяртання ад калгаснага сялянства да п р о с т а сялянства. Да таго сялянства, чые сядзібы зараслі за шэсцьдзесят год дзе бур'яном, дзе валохай, дзе сунічнікам».

СТАРОНКІ 5, 10—11

## ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ

Апавяданне Генрыха ДАЛІДОВІЧА з цыкла апавяданняў пра жанчын.

СТАРОНКІ 8—9

## ЧАЦВЁРТЫ СЯРОД ПЕРШЫХ

Заір АЗГУР пра Расціслава ЯНКОЎСКАГА.

СТАРОНКІ 10—11

## МОЎНАЯ РЭФОРМА 1933 ГОДА: ІДЭАЛАГІЧНЫ АСПЕКТ

Нататкі Леаніда ЛЫЧА.

СТАРОНКІ 12—15

## ДАРОГА ДА ХРАМА ПРАЛЯГЛА ПА МУЗЕІ

Алесь КРАЎЦЭВІЧ: «Я ганаруся, што жыву ў незалежнай Беларусі. Мне сорамна за маю дзяржаву».

СТАРОНКА 16



Шмат у нас паэтаў. Лірыкаў і публіцыстаў. Прыхільнікаў традыцыйнай формы пісьма і аматараў свабодных, раскаваных жанраў. Паэтаў шмат, а Максім Танк—адзін. Непаўторны, ні з кім не параўнальны, глыбока самабытны, неардынарны. І разам з тым ён як бы акумулюе ў сваёй індывідуальнасці рысы, характэрныя многім. Бо ён—Асоба, сапраўдны волат паэтычнага духу. Філосаф і лірык сусветнага ўзроўню.

У паэзіі ягонай адбіўся час—супярэчлівы, складаны. Пры ўважлівым чытанні можна знайсці ў ёй і тое, што пісалася, як кажуць, «на злобу дня», як непасрэдны водгук на канкрэтныя падзеі. Але і яно таксама прапушчана праз сэрца і з'явілася не з кан'юнктурных меркаванняў, а як пошук ісціны. Пошукі ж яе — пакутлівыя і не беспамылковыя. Паэты тут не выключэнне.

Пры ўсім пры тым Максім Танк ніколі не забываў, што галоўная яго справа—творчасць. Нават займаючы высокія пасады (шмат гадоў ён быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі), не абдзелены званнямі і ўзнагародамі (Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай прэміі), ён перш за ўсё заставаўся, як і ў гады сваёй рэвалюцыйнай маладосці, Паэтам.

**З 80-годдзем, дарагі Яўген Іванавіч! Здароўя Вам! Здароўя і поспехаў.**

Словы пра юбіляра сяброў і паплечнікаў—на стар. 6—7.

# Кола Дзён

Як і прагназавалася, з пачаткам верасня актывізавалася палітычнае жыццё рэспублікі. Па-ранейшаму яго эпіцэнтр знаходзіцца на пляцы Незалежнасці ў сталіцы. Пляц — апірышча дэмакратычнай апазіцыі, Беларускага народнага фронту, іншых дэмакратычных партый і рухаў. Пляц — месца, з якога пачалося фарміраванне Беларускага войска... Але пакуль што на гэты пляц не ступіла нага дзяржавы, дзяржаўнага чыноўніцтва, якое толькі назірае за падзеямі на пляцы з будынка насупраць.

Тыдзень пакінуў яскравую адмеціну ў грамадскай свядомасці рэспублікі — 8 верасня, калі на пляцы Незалежнасці прыгожа святкавалася свята вайсковай славы. На гэты раз дзяржава ў асобе Міністэрства абароны не праігнаравала падзею, але выступіла супраць яе, чым у чарговы раз прадэманстравала сваю аддаленасць ад нацыянальна-культурных працэсаў, што развіваюцца ў Беларусі. Караван наш, аднак, ідзе наперад...

**2 ВЕРАСНЯ**

У Гомелі адкрылася першая ў рэспубліцы беларуска-амерыканская школа. Усе прадметы ў ёй выкладаюцца па-ангельску. Тэрмін навучання — 12 гадоў.

**3 ВЕРАСНЯ**

У друку апублікаваны Зварот Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны да жыхароў Беларусі — падпісчыкаў перыядычных рэспубліканскіх выданняў. У Звароце звернута ўвага падпісчыкаў на беларускамоўныя выданні, заклікана падтрымаць газеты «Звязда», «Чырвоная Змена», «ЛіМ», «Наша слова», «Наша Ніва», «Культура», часопісы «Полымя», «Маладосць», «Спадчына» і іншыя рэспубліканскія выданні. Тым часам незразумела, чаму большасць беларускамоўных выданняў Беларусі не патрапілі ў каталог выданняў СНД.

**4 ВЕРАСНЯ**

Адбылася сустрэча кіраўніцтва агенцтва «Белінфарм» з прадстаўнікамі кітайскага інфармацыйнага агенцтва «Сіньхуа», якія знаходзіліся ў Беларусі з дзелавым візітам. Дамоўлена аб узаемадзеянні і творчым супрацоўніцтве двух агенцтваў.

Падпісана пагадненне паміж беларускім КДБ і Службай знешняй разведкі Расіі ў галіне разведвальнай дзейнасці. Дакумент падпісалі кіраўнікі службаў Э. Шыркоўскі і Я. Прымакоў. Апошні быў прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам і Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебічам.

**5 ВЕРАСНЯ**

«Радыёфакт» паведаміў, што праваслаўныя Літвы застаюцца вернікамі-прыхаджанамі Рускай Праваслаўнай Царквы і не маюць патрэбы ў аўтаноміі ад маскоўскага Патрыярхату. Такое рашэнне прынята на сходзе праваслаўнага духавенства Летувы, які адбыўся ў Віленскім Свята-Духавым манастыры. Цікава, як павядуць сябе летувіскія праваслаўныя ў выпадку аўтакефалізацыі Беларускай Праваслаўнай Царквы?

Прэзідэнт Туркменістана С. Ніязаў выказаў меркаванне на карысць пераводу туркменскай мовы на лацінскую графіку. Туркменскі алфавіт, як вядома, удасканальваецца, і праблемы туркменскай мовы дзіўным чынам падобныя да праблемаў мовы беларускай.

**6 ВЕРАСНЯ**

На плошчы Незалежнасці ў Мінску ўрачыста прыведзены да прысягі 480 курсантаў першага набору будучых беларускіх афіцэраў. Гучаў тэкст Прысягі, зацверджаны пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у студзені. Незразумела, чаму гэты тэкст разлічаны толькі на «маладых салдат і курсантаў»: усе ваеннаслужачыя служаць адной Айчыне і дзяржаве — суверэннай Рэспубліцы Беларусь.

Украіна стала членам Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка. Міністр фінансаў Украіны звярнуўся да МВФ з просьбай аказаць валютную дапамогу рэспубліцы.

**7 ВЕРАСНЯ**

У Злучаных Штатах Амерыкі (Нью-Брансуік) прайшла XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Ладзяць такія сустрэчы праз кожныя два гады Беларуска-амерыканскае Задзіночанне і Згуртаванне беларусаў Канады.

**8 ВЕРАСНЯ**

У Мінску адкрыта аддзяленне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — першае ў краінах СНД. Аддзяленне мае сваёй мэтай падтрымку «нацыянальных намаганняў рэспублікі, накіраваных на вырашэнне праблем эканамічнага развіцця, пераходу да рынку». Адна з важнейшых задач аддзялення — рэалізацыя статуса Беларусі — дзяржавы-атрымальніцы дапамогі.

У Мінску на пляцы Незалежнасці адбылося свята беларускай вайсковай славы, прымеркаванае да ўгодкаў Аршанскай бітвы 1514 года. На свяце выступілі З. Пазняк, М. Ткачоў, М. Статкевіч, В. Быкаў, А. Грыцкевіч, А. Вольскі і іншыя. Прысягу на вернасць рэспубліцы як патрыятычны акт прынялі народныя дэпутаты, сябры палітычных партый, многія іншыя грамадзяне рэспублікі.



# ПРЫСЯГА

«Я, гражданин Союза Советских Социалистических Республик, вступая в ряды Вооруженных сил, принимаю присягу и торжественно клянусь...» Мала хто з паўналетніх грамадзян суверэннай Беларусі не вымаўляў калісьці гэтых слоў. Мы прымалі прысягу не ведаючы, чым ёсць дзяржава, дзеля абароны якой абяцалі не шкадаваць ні крыві, ні жыцця. І дзяржава пасылала сваіх сыноў выконваць клятву — у Будапешт, Прагу, Кабул, Тбілісі, Вільню...

Мы па-рознаму глядзім на рэчаіснасць. Усе памятаюць, якое абурэнне выклікаў выступ на рэспубліканскай тэлевізіі старшыні ЛДП СССР Жырыноўскага, які абяцаў прыняць жорсткія меры дзеля аднаўлення Саюза. Затое нікога не абурае тое, што «служыць Савецкаму Саюзу» амаль 200-тысячнае войска, размешчанае на Беларусі. Мала хто думае пра тое, што час заняпаду эканомікі, культуры і маралі можа зрабіцца часам уздыму чацвёртай улады. Не прэсы — арміі. Армія, верная прысязе, здолее навесці парадак у дзяржаве — такі пункт гледжання не губляе сваёй папулярнасці.

Армія і дзяржава, армія і палітыка... Ці, стварыўшы ўласнае Міністэрства абароны, рэспубліка сапраўды падпарадкавала сабе Чырванасцяжную беларускую вайсковую акругу? Ці, скасаваўшы інстытут паліт-работнікаў, дзяржава паставіла армію па-за палітыкай? Ці ў інтарэсах Беларусі захаванне афіцэрскім корпусам арміі вернасці Саюзу? Ці павінна вайсковае кіраўніцтва атаясамліваць жаданне служыць Радзіме з удзелам у палітычным руху?

Афіцэры, стварыўшыя Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, вырашылі для сябе гэтае пытанне. Кожны з іх зрабіў свой выбар і пацвердзіў яго, калі ўвечары 8 верасня на мінскім пляцы Незалежнасці ўголас паўтарыў словы прысягі на вернасць Беларусі і яе народу. Як мала іх было...

Акцыя працягвалася гадзіны. Са сцэны пасярод пляца гучала музыка, моладзь тачыла, а да сталоў, што стаялі далей, цягнуліся чэргі людзей. Яны ставілі свае подпісы пад тэкстам прысягі. Гэта, вядома ж, быў не юрыдычны, а патрыятычны акт.

На наступны дзень радыё «Маяк» паведаміла: «Кіраўніцтва Міністэрства абароны Беларусі лічыць праведзеную акцыю дэстабілізуючым фактарам...»

Тэкст і фота
У. ПАНАДЫ.



АБХАЗСКІ ДЗЁННІК

# БЭТЭЭРЫ ПА ПЛЯЖЫ НЕ ХОДЗЯЦЬ?

**Такой паўжартоўнаю фразаю, толькі са сцвярджальнай інтанацыяй, адказваў я на пытанні знаёмых, ці не баюся ехаць адпачываць на поўдзень. Як картвелолаг я ведаў, што грузінска-абхазскія супярэчнасці наспявалі здаўна, але так ці інакш крывавых сутыкненняў раней удавалася ўнікаць. Сёлета абхазскі парламент абвясціў былую аўтаномную рэспубліку суверэннай дзяржаваю. Але і гэта не паўплывала на рашэнне паехаць 3 жніўня з сям'ёю ў літфондаўскі Дом творчасці, што ў Піцундзе.**

**Падаю тут суб'ектыўныя нататкі і ўрыўкі з дзённікавых запісаў другой паловы жнівеньскага «адпачынку», праведзенага ў Абхазіі. Па зразумелых прычынах выбраны найперш тыя, што датычаць Беларусі, а таксама падзей, якія не маглі не хваляваць мяне ні як чалавека, ні як грузініста.**

**9 жніўня 1992 г.** Ідзе тут барацьба за ўладу. Покуль Гугушы Тарасавіч Багатурыя быў у Маскве, абхазы ўзламалі дзверы кабінета, пасадзілі свайго дырэктара, якога, праўда, аднаго разу ўжо выводзілі адтуль аўтаматчыкі. Аднак Сухумі хоча бачыць свайго, незалежнага дырэктара, а той будзе фарміраваць адпаведную «каманду», і ўжо павыжываў некалькі славян з персанала, паціху бярэцца за грузінаў (а працу ў Піцундзе знайсці амаль немагчыма). А Масква падтрымлівае старога грузіна, пагражае перапыніць літфондаўскае фінансаванне, без якога, мякка кажучы, нялёгка будзе Пілії Даўлету Канстанцінавічу ўтрымаць Дом творчасці, нягледзячы на немалы кошт пуцёвак...

**11.08.92.** Куплялі ажыны ў

## НОВЫ ТВАР «КРЫНІЦЫ»

**Даўно чакала другая праграма Беларускага радыё «Крыніца», калі праб'е яе час. Дагэтуль яна была толькі дадаткам да першай праграмы і спрабавала капіраваць «Маяк» — музычныя падборкі з невялічкімі блокамі інфармацыі, ды яшчэ паўторы перадач першай беларускай радыёпраграмы. Музыка і інфармацыя «Крыніцы» таксама не былі арыгінальнымі, таму што рыхтаваліся ўсё тымі ж супрацоўнікамі першай праграмы. І вось нарэшце вырашана, што такая вялікая краіна, як Беларусь, павінна мець не адну нацыянальную радыёпраграму, а хоць бы дзве. Цалкам арыгінальнай 2-я праграма радыё стане з пачаткам наступнага года, а пакуль наваствораная рэдакцыя «Крыніцы» будзе спрабаваць сілы ў ранішняй інфармацыйна - музычнай перадачы. Яна так і будзе звацца—радыё «Крыніца». 16 верасня—у сераду—у 8 гадзін адбудзецца першы эфір, і далей кожны дзень, акрамя суботы і нядзелі, з 8 да 9 гадзін. Асноўны прынцып ранішняй перадачы «Крыніца» — свежая арыгінальная інфармацыя і добрая музыка. Для першых выпускаў супрацоўнікі рэдакцыі ўжо прыпаслі і некалькі сенсацый. Радыё «Крыніца» выходзіць на сярэдніх хвалях 250,6 м, на УКВ —4,26 м, або 1197 кГц і 70,4 мГц, а таксама на хвалях, якія транслююцца перадатчыкамі і радыёвузламі абласцей. Тэлефон для сувязі: 33-88-29.**

**У сераду 16 верасня ў 8 гадзін «Крыніца» пачынае новае жыццё!**

**Н. КУДРЭЙКА.**

## І РАДЫЁТЭЛЕФОНЫ, І ВЕЛАСІПЕДЫ

**І радыётэлефоны, і веласіпеды ў наш час, як ні дзіўна, аднолькава неабходны, каб забяспечваць патрэбы сувязі. У чым гэтыя патрэбы? Якія праблемы найбольш турбуюць сёння беларускіх сувязістаў? І чаго ў бліжэйшы час чакаць нам — абанентам і падпісчыкам? Гэтым пытанням была прысвечана прэс-канферэнцыя міністра сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь Івана ГРЫЦУКА.**

Немагчыма ўявіць развітую эканоміку без сучасных сродкаў сувязі, якія дазваляюць хутка звязацца з любой кропкай на планеце. Між тым, дагэтуль міжнародная тэлефонная сувязь у нашай рэспубліцы на 75 працэнтаў ажыццяўляецца праз Маскву. Таму, паведаміў міністр, беларускі ўрад нядаўна ўзяў тэрміновы крэдыт у Еўрапейскім банку рэканструкцыі і развіцця (38,7 мільёна долараў) для стварэння ўласнай міжнароднай сувязі. У прыватнасці, будзе створана спадарожнікавая станцыя ў Мінску, міжнародная тэлефонная станцыя з самым новым абсталяваннем у Віцебску і г. д. Гэта, па словах І. Грыцука, выгадна, бо найбольшы прыбытак дае менавіта міжнародная сувязь.

У той жа час унутраныя тэлефонныя сеткі на Беларусі, найперш — на сяле, канстатаваў міністр, сёння прыносяць страты. Пашырэнне гэтых сетак апошнім часам замарудзілася. А на 94 год мантаж абсталявання не заказала наогул ніводнае прадпрыемства — няма грошай. Дзіва што! Выдаткі на стварэнне аднаго тэлефоннага нумара сёння складаюць 23 тысячы рублёў. Кіламетр кабеля каштуе 1 мільён 350 тысяч рублёў. У чарзе на ўстаноўку кватэрных тэлефонаў зараз каля 750 тысяч жыхароў рэспублікі, у тым ліку некалькі тысяч інвалідаў.

І. Грыцук назваў перспектыўным развіццё радыётэлефоннай сувязі з дапамогай сумесных прадпрыемстваў. Асабліва важна гэта для ўладальнікаў дач і садовых участкаў. У бліжэйшы час мяркуецца задзейнічаць каля 400 тысяч апаратаў. Колькі будзе каштаваць радыётэлефон, міністр не ўдакладніў.

Агромністую лічбу складаюць сёння транспартныя выдаткі на перавозку пошты і перыёдыкі (экспедзіраванне). Яе развозяць галоўным чынам на аўтамашынах. А ў той жа час не хапае сродкаў на веласіпеды для вясковых паштальёнаў, на форменнае адзенне і многае іншае.

Па словах І. Грыцука, пошта зацікаўлена ў падпісчыках на перыядычныя выданні. Бо калі не будзе чаго насіць, паштальёны застануцца без работы. Ужо зараз скарачэнне пагражае 7 тысячам паштавікам. З другога боку, урад пайшоў на тое, каб не ўключаць паштовыя выдаткі ў кошт падпіскі на выданні, якія знаходзяцца на датацыі, выдзеліўшы на гэта бюджэтныя асігнаванні. Але афіцыйнага рашэння ў выглядзе нейкага дакумента пакуль няма. Таму сёння цяжка сказаць, у колькі на самай справе абыдзецца нам падпіска на наступны год. Тым не менш, падкрэсліў міністр сувязі, падпіска ідзе. Па звестках Мінскпошты, на 1 верасня ў параўнанні з мінулым годам падпісалася 39 працэнтаў. Пры гэтым колькасць падпісчыкаў, напрыклад, «Известий», склала 3,5 працэнта ад мінулагодняй лічбы, «Правды» — 2 працэнты. А на «Звязду» ўжо падпісалася ўтрая больш, чым летась. Трэба тут адзначыць, што «Літаратура і мастацтва» апынулася ў вельмі нявыгадным становішчы, бо ў каталозе выданняў на наступны год цана нашага тыднёвіка была да апошняга часу не пазначана. Гэтая прыкрая недарэчнасць была выпраўлена толькі днямі.

Міністр сувязі адказаў на некаторыя пытанні журналістаў. У прыватнасці, ён паведаміў, што прынята рашэнне зноў аплачваць грашовыя пераводы з Расіі і Казахстана на Беларусь (за межамі яе, як вядома, працуе шмат нашых грамадзян). Неўзабаве будзе скасавана і забарона на адпраўку пасылак жыхарамі рэспублікі.

І яшчэ адна «дробная» праблема закранался на прэс-канферэнцыі: як пазваніць па тэлефоне-аўтамаце? Міністр паведаміў, што хутка з'явяцца жэтоны. Але гарантый, што жэтоны, вырабленыя з дэфіцытнага металу, не скупяць адразу ж розныя дзялкі, міністэрства, зразумела, даць не можа...

**Віталь ТАРАС.**

## З ТРЫВОГАЙ АБ БУДУЧЫНІ

**На чарговым пасяджэнні рады Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое вёў старшыня творчага саюза В. Зуёнак, абмеркаваны надзённыя пытанні жыцця пісьменніцкай арганізацыі. Гаварылася аб неабходнасці склікання чарговага агульнага сходу літаратараў, на якім поруч з іншымі пытаннямі будзе абмяркоўвацца і стан рэцэнзавання беларускай мастацкай кнігі на старонках друку. Ішла гаворка таксама аб рабоце Дома літаратара і кавярні ў ім, функцыяніраванні Дома творчасці «Іслач» ва ўмовах рынку.**

## КАЛІ Ж ПАТУШЫМ ПАЖАРЫ?

### Заява Беларускай сялянскай партыі

**На двары ўжо восень, а па Беларусі не перастаюць шугаць лясныя пажары. Гіне ў агні наша нацыянальнае багацце—лес, ператвараюцца ў попел тарфянікі, наносяцца велізарныя страты прыродзе, гарады і вёскі літаральна задыхаюцца ад дыму. Гэта ж не што іншае, як новае нацыянальнае бедства. Здавалася б, у такой экстрэмальнай сітуацыі ўрад рэспублікі павінен бы аб'явіць нешта накшталт надзвычайнага становішча, арганізаваць шырокую мабілізацыю насельніцтва на тушэнне пажараў, прыняць самыя дзейсныя захады супраць падпальшчыкаў лесу. Але ён, як бачым, абмежаваўся традыцыйнымі сродкамі і захадамі. Нават звычайны амаль дэкларацыйны зварот Савета Міністраў да насельніцтва Беларусі, дарэчы, падпісаны намеснікам старшыні ўрада, быў апублікаваны толькі пад канец лета, калі паспела ўжо згарэць велізарная частка лясных масіваў. Але і з гэтага звароту відаць, што нічога эфектыўнага ўрад так і не адшукаў. Штрафы на падпальшчыкаў лесу ці тых, хто неасцярожна абыходзіцца з агнём, проста смехатворныя, сімвалічныя. Такі лібералізм улад проста не даравальны.**

**Гэтак жа, як і ў нядаўнія часы партыйна-савецкая наменклатура ўсе няўдачы ў сельскай гаспадарцы спісвала на «неблагоприятные погодные условия», так і сёння віну за велізарныя матэрыяльныя страты, што наносяць Беларусі пажары, улады ўскладваюць на «небывалую засуху», апраўдваючы ёю сваё няўменне арганізаваць эфектыўную барацьбу з імі, сваё бяссілле супраць стыхіі і тых, хто праяўляе злачынную неасцярожнасць з агнём. Пасля ўсяго гэтага паўстае пытанне: ці заслугоўвае народнага даверу такі ўрад?**

**ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА БСП.**
1.9.1992 г.

## «Песняй вітаю я вас!»

На плошчы Якуба Коласа ў Мінску прайшло гарадское коласаўскае свята паэзіі «Песняй вітаю я вас!» Дзень быў святы — пачатак вучобы. І дзеці з бліжэйшых школ Савецкага і Першамайскага раёнаў дружна запоўнілі пляц супраць філармоніі. Дабраліся сюды і далейшыя вучні (пэўна, пачулі абвестку па тэлебачанні ці радыё). Запыняліся ж, вядома, і проста прахожыя. Некалькі груп сваіх выхаванцаў прыслала Мінскае гандлёвае вучылішча, з якім сябруе музей народнага песняра.

Свята прысвячалася Дню веды. І, зразумела, гаворка ішла пра Коласа не толькі як пра вялікага майстра слова, але і як пра асветніка, педагога. З увагай слухалі святкоўцы выступленні С. Законнікава (ён быў вядучым свята), С. Грахоўскага, М. Аўрамчыка, М. Татура, Я. Хвалея, М. Мятліцкага, сына Якуба Коласа Д. Міцкевіча. Слова сказалі і настаўнікі роднай мовы і літаратуры 68-й школы Мінска і Бараўлянскай СШ № 2 П. Валкавец і Э. Ярчак.

Сімпатычна «аздобіў» свята ансамбль музыкаў «Гармонікі» пад кіраўніцтвам Івана Раманчука. Дзвюма песнямі прывітаў слухачоў бард Анатоль Кудласевіч.

**Іван КУРБЕКА.**





старой бабулі, гадоў пад восемдзесят. А яна кажа: «Ягада спелая, дык патроцца...» Пытаемся: «Бабка, ці не з Беларусі будзеце?» — «Ага, дзеткі, з Гомельскай вобласці». Расказала яна, што пасёлак Піцунда збудавалі пераважна славяне, што прыехалі сюды пасля вайны, утварылі саўгас. Пачалі з асушэння суцэльных балотаў, а зямля тут урадлівая. Цяпла і спорных дажджоў хапала. Хамсы, бывала, прыбівала столькі, што насілі й салілі вёдрамі, толькі не лянуйся. Старэйшая сястра слала адтуль на разбураную вайною Гомельшчыну пасылкі з крупамі і рыбаю, а ў канцы пяцідзесятых угаварыла, перацягнула туды і яе разам з сынам, які адслужыў тэрміновую.

**13.08.92.** Хадзіў з Максімам Клімковічам кіламетры за чатыры ў вёску Лідзава па-за возера Інкыт. Па аддегласці гэта амаль тое самае, як да піцундскага базара. Не адразу патрапілі, але ў двух грузінскіх двара прадалі нам ружовага віна, прычым па цэнах разы ў паўтары ніжэйшых за базарныя, а ў старой армянкі купілі буйныя салодкія сакаўныя грушы, лімоны, проста з дрэва рвалі гібрыд персіка са сліваю. Адчувалася, праўда, насцярожанасць да нас, нават калі загаворваў да вяскоўцаў па-грузінску...

**14.08.92.** У небе трывожна. Шнуруюць самалёты, а ніжэй кружаць, проста прасуюць перадгор'і грузінскія верталёты. Пагаворваюць пра ваенныя дзеянні пад Сухумі, за восемдзесят кіламетраў ад нас. Грузіны нібыта падвялі туды сваю нацыянальную гвардыю — мхедрыёні, а абхазы нібыта абвясцілі мабілізацыю мужчын да 40 гадоў. Пасёлак Піцунда нагадвае разварушаны мурашнік. Асабліва шматлюдна каля манастыра і будынка пасялковага савета.

**15.08.92.** Адам Глобус, мабыць, не можа прыляцець — бастуюць расейскія авіядыспетчары, патрабуючы 60-тысячнай (!) зарплаты. Кажуць, што ўчора Адлер не прыняў ніводнага самалёта. Спадзяюся, што Глобус глядзіць тэлевізар і не возьме пад увагу маю тэлеграму тыднёвай даўніны з тэкстам: «Багдадзе ўсё спакойна». Некаторыя тут ужо нервуюцца, пагаворваюць пра ад'езд.

**16.08.92.** Нязвыкла бачыць БМП на вуліцах курортнага пасёлка кулямётчыкаў, апярэзаных стужкамі з патронамі буйнога калібру. Пазачыненыя ўсе летнія кавярні, крамы і кіёскі, базар як вымер. Па шашы раз'язджаюць патрульныя легкавічкі з дэманстратыўна выстаўленымі ў вокны дуламі аўтаматаў. Пяцёрка такіх патрульных зайшла са зброяй у адзіны адчынены рэстаран, дык усе наведвальнікі адзін за адным павыходзілі. Мы вярталіся ў Дом творчасці берагам мора, хоць гэта значна далей, чым па шашы. Яшчэ некалькі дзён гэткай напружанасці і не ўяўляю, хто прыездзе сюды наступным летам!..

**17.08.92.** Сапсавалася надвор'е — раніцою прайшла сапраўдная залева. Можа, яна прытушыла абхазска-грузінскі канфлікт? Ноччу з боку Гагры, а гэта за нейкія дваццаць кіламетраў, былі чуваць толькі рэдкія бязладныя стрэлы. Але настрой па-ранейшаму трывожны: зноў назаляюць самалёты і верталёты...

Максім з Міраславам Адамчыкам прачыталі напісаную тут дэтэктыўную тэлеп'есу «Прывід у Гайцюнішках». Хлопцы збіраюцца дахаты і гэта засмучае, дае знак, што і мне хутка належыць патурбавацца пра ад'езд. Пагаворваюць, што і грузіны, і абхазы могуць узарваць мост праз рэчку Бзып...

(Працяг на стар. 4).

# БЭТЭЭРЫ ПА ПЛЯЖЫ НЕ ХОДЗЯЦЬ?

(Пачатак на стар. 2—3).

**18.08.92.** Каля шаснаццаці гадзін прагучала слова «эвакуацыя», але адміністрацыя ўсіх заспакойвае, кажа, што такі варыянт не выключаны, але покуль што на тое няма падстаў. Паабяцалі нам, што да Адлера будуць вазіць аўтобусамі Дома творчасці.

**19.08.92.** Раніцой правялі Максіма з Міраславам, і цяпер яны, мусіць, у Мінскім аэрапорце.

Бегаем да тэлевізара глядзець навіны. Расейцы святкуюць у Маскве перамогу над путчыстамі. Па-рознаму можна ставіцца да яе, але перамога тая паспрыяла ўсталяванню суверэнітэту Беларусі. А ў нас тут свае «салюты». Паказваюць перастрэлкі ў Сухумі, кажуць пра марадзёраў, а таксама пра горцаў, гатовых ваяваць у Абхазіі.

**20.08.92.** Літфондаўскі аўтобус спраўна возіць раніцою людзей у аэрапорт. Аднак некаторыя палічылі за лепшае з'ехаць адсюль раней тэрміну.

**21.08.92.** Грузіны, што жывуць у Абхазіі і на Паўночным Каўказе, абвешчаны заложнікамі горскіх народаў. Абхазскія заставы не выпускаюць, вяртаюць іх. Звыклым у постсавецкім лексіконе стала слова «бежанец», а цяпер да яго дадаецца яшчэ адно, не менш страшнае — «заложнік».

**22.08.92.** Развіваецца тэма заложнікаў. У санаторыі «Амра» нібыта прымусова ўтрымліваюць каля 300 грузінаў. Праўда гэта ці плёткі? Многія ў нас перабраліся з дзіцячага ў высотны корпус, калі пачулі, што па суседстве, у пансіянаце «Правда», узброеныя марадзёры вынеслі проста з хола каляровы тэлевізар. Гэта аказалася, мякка кажучы, перабольшаннем. Затое праўда тое, што абвешчана каменданцкая гадзіна з 23.00 да 6 гадзін раніцы. Купацца ходзім як па інерцыі, без ранейшага імпэту. Сёння ў сталоўцы з'явіліся навічкі, бацька з дзесяцігадовым сынам. Дык на іх пазіралі, як на вар'ятаў...

**23.08.92, нядзеля.**

Па першай праграме тэлебачання праскочыла паведамленне, *што ўсе курортнікі з Гагры* і з Піцунды вывезены. Няўцямна паціскаем плячыма: «А мы хто, «мёртвыя душы»?»

**24.08.92.** Не дайшоў да Адлера, вярнуўся з-за перастрэлкі на дарозе наш аўтобус. Гэта ўжо больш чым сур'ёзны званок. Усё цяжэй прымусіць сябе садзіцца пісаць. Якая тут проза, калі не ведаеш, як вывезці сям'ю, якім чуткам верыць, а якім не.

Адзін з камандзіраў мхедрыёні палкоўнік Каркарашвілі заявіў па мясцовым тэлебачанні, што гвардзейцы не будуць браць палонных, што загіне кожны, хто сустрэне іх са зброяй у руках, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці. А яшчэ ён *сказаў, што* гатовы пакласці сто тысяч грузінаў, але вынішчыць дзевяноста сем тысяч (а гэта значыць усіх!) абхазаў! Што ж тады называць генацыдам?!

**25.08.92.** Зноў прагучала слова «эвакуацыя». На гэты раз усур'ёз. Вывозіць, хутчэй за ўсё, будуць па паветры або морам з дапамогаю міжнароднага Чырвонага Крыжа. Нават не верыцца, што пры такім сонцы, паветры і моры хтосьці намерваецца праліваць вялікую кроў.

Часам складваецца ўражанне, што сцэнарый падзей узгоднены ў Маскве і ў Тбілісі (вялікая імперыя салідарная з меншай?). Бачыцца правакацыйная роля як расейскага тэлебачання, так і тэлекампаніі «Астанкіна» — нярэдка яны як бы апярэджваюць сваімі паведамленнямі дзеянні Дзяржсавета Грузіі, развязваюць рукі Шэварднадзе. Старажытныя рымляне ў падобных выпадках задаваліся пытаннямі «Cui bono? — Каму гэта на карысць? Хто ад гэтага выйграе?» Відавочна, што нагнятанне атмасферы (пагрозы, ультыматумы, патрабаванне адстаўкі Уладзіслава Ардзінбы) выгадныя найперш Шэварднадзе. Ён ужо мае з канфлікту пэўны плён — абвясціў складаную абстаноўку ў рэспубліцы і перанёс прэзідэнцкія выбары на няпэўны тэрмін, захаваўшы за сабою ўладу. Здаецца, што расіяне маральна, зброяй і нават людзьмі (горцы — грамадзяне Расійскай Федэрацыі) падтрымліваюць, раздзімаюць канфлікт.

**26.08.92.** Учора ўвечары выпілі каньяку «Эніселі» за ад'езд. На балконе, пры свечцы (*святло згасла*), *пад акампанемент* аўтаматнай стралянiны на недалёкім кукурузным полі.

Не прыйшлі прыбіраць пакаёўкі, мужы не пусцілі працаваць у сталоўку дзвюх афіцыянтак з недалёкіх паселішчаў. Хлеб, пераважна лавашы-праснакі, пякуць ноччу ў нас у сталоўцы, бо піцундская хлебапякарня стала — няма мукі. Сабралі нас толькі а палове адзінаццатай, каб сказаць, што «Енисей» мусіць быць у Піцундзе толькі заўтра каля васьмі *гадзін*. Як інфантыльны лопат гучаць запэўніванні дырэктара, 40-гадовага маладзёна, што ўсё ідзе някепска, што наша бяспека гарантуецца. Між тым усё мацней чуваць артылерыйска-мінамётная кананада. Але нам кажуць, што калі баі змесцяцца *сюды, можна* пайсці ў сховішча. Маскоўскі літапаратчык Мікалай Пліско бачыў яго — падвал са старымі трубамі, без вентыляцыі і з адзіным уваходам. Ягоная жонка, якая перажыла ў свой час віленскія студзеньскія падзеі, дазванілася *да мэра Сочы, а той кажа*, што нічога не можа зрабіць. Ідуць тэлефонныя перамовы Ельцына з Шэварднадзе, і апошні сцвярджае, што небяспека адпачынннікам не пагражае, што не трэба ўмешвацца, прысылаючы якія б там ні было *караблі...! Першы імітуе* актыўную дзейнасць, а на справе паўтараюцца сцэнарыі прыднястроўскага і паўднёва-асецінскага канфліктаў! А хто другі? Узурпатар улады, прапісаны, дарэчы, у Маскве. Цяпер гэты былы кіраўнік грузінскага МУС, *былы першы сакратар рэспубліканскай* кампартыі зноў парушае закон, каб застацца ў кіраўнічым крэсле. Амерыканскі прэзідэнт вунь спыніў сваю передвыбарчую кампанію і вылецеў у раёны, што пацярпелі ад урагану «Эндру». Той жа Буш не спыняецца *ні* перад чым, каб абараніць жыццё і гонар сваіх суграмадзян. А ў нас чалавечае жыццё даўно абясцэнена. Праўда, вельмі ўсцешыліся мы, калі пачулі, што беларускае МЗС даслала ноту МЗС Грузіі ў сувязі з тым, што ў зоне вайсковых дзеянняў знаходзяцца сотні грамадзян Беларусі, запатрабавала зрабіць усё магчымае, каб эвакуіраваць іх. Аднак грузіны не толькі не вывозяць людзей, але і пагражаюць абстрэльваць чужыя караблі. Ім, як і абхазам, відаць, выгадна разыгрываць карту з чужымі грамадзянамі, прыкрывацца імі як жывым шчытом. А людзей гэтых у адной толькі Піцундзе каля 1600!

Турбуе і тое, што не маем ні сувязі з домам, дзе за нас хвалююцца, ні надзейнай інфармацыі. Тэлебачанне перадае звесткі недакладныя, смакуе складанасці бакоў. А дыктарскія каментарыі! Як далёка ім да аб'ектыўнасці англійскай «Бі-Бі-Сі!»..

**Тут мае дзённікавыя запісы абрываюцца, бо ў наступныя дні не было магчымасці сесці з нататнікам *і* ручкаю. Таму аднаўляю іх па памяці зараз.**

Увечары 26-га даведаліся выпадкова, што адпачыннікі з «Правды» ўтварылі свой камітэт па эвакуацыі. Ягоныя сустаршыні пабывалі ў бліжэйшай *вайсковай частцы, дамовіліся*, што і цывільных з бліжэйшых пансіянатаў эвакуіруюць ноччу разам з вайскоўцамі. Пабеглі да Саіда, намесніка нашага дырэктара. Той кудысьці патэлефанаваў, пагаварыў па-абхазску і стаў даводзіць, што аніякага *вайскова-транспартнага* карабля не будзе. Але мы ўжо не далі веры, зноў пайшлі ў «Правду» — шукаць праўды. Аднак на рагу каля бара мяне і Янку Сіпакова спынілі грубым воклічам «Стоять!» Пачуўся ляскат затвораў, і трое ў плямістай форме дэсантнікаў з аўтаматамі наперавес рушылі нам насустрач. У такой сітуацыі лепш не пярэчыць (па сабе ведаю — калі трымаеш зараджаную зброю, пачуваешся дзікуном, уладарным і агрэсіўным). Нам загадалі пакласці рукі за галаў, праканваіравалі да старэйшага па імені Ібрагім. Той правёў нас далей і толькі на ганку дазволіў апусціць рукі. На шчасце, у мяне з сабою аказалася курортная картка, пазналі нас і тамтэйшыя адміністраткі. Пад спачувальнымі і насцярожанымі позіркамі «праўдзістаў» патлумачылі мы, чаму парушылі каменданцкую гадзіну. Далёка не адразу, але дапамаглі нам адшукаць аднаго з сустаршынь эвакуацыйнага камітэта, маскоўскага камерсанта Валянціна Бірукова. Той пагадзіўся ўнесці Івана Данілавіча і маю сям'ю ў спісы, пад строгім сакрэтам пацвердзіў звесткі пра транспарт, які можа з'явіцца і праз некалькі хвілін, і праз некалькі гадзін...

Літаральна праз дваццаць пяць мінут мы са спакаванымі чамаданамі і з паўсоннымі дзецьмі зноў апынуліся ў холе «Правды». Пацягнуліся цяжкія мінуты, а потым і гадзіны чакання, а надзея своечасова патрапіць у аэрапорт рабілася ўсё больш эфемернай. Не распранаючыся правялі трывожную ноч на канапах і ў крэслах. Прахопліваліся ад перастрэлкі дзесьці на моры, напружана ўслухоўваліся ў адказы дзяжурных на тэлефонныя званкі. Раніцою ўстанавілі сваё пагадзіннае дзяжурства, па чарзе *сталі хадзіць* на сняданак і на пляж, каб асвяжыцца пасля бяссоннае ночы. Марна спрабавалі дазваніцца ў Мінск з кабінета Пілії, затое ўведалі, што Даўлет Канстанцінавіч — каардынатар канфедэрацыі горскіх народаў.

Не адразу ўсвядомілі сувязь паміж караблём на рэйдзе і калонаю вайсковых грузавікоў, якая рушыла каля дванаццаці дня ў бок Гагры. Але калі з пляжа насупраць шыкоўнага гмаха *пансіяната* «Самшитовая роща», узведзенага турэцкімі будаўнікамі для колішняга ўсесаюзнага КДБ, узвілася ракета, і карабель пайшоў туды, мы зразумелі: гэта ж наш карабель! Карабель, якога мы чакалі ўсю ноч!

Калі мы пад'ехалі на «праўдзінскім» «ПАЗіку», на карабель, што прычаліў проста да берага, паспелі пагрузіцца вайскоўцы. Нас не здзівілі маракі з «калашнікававымі» і ў бронежылетах, праз *якія выдавалі* тоўстымі і няўклюднымі. Здзівіла, што менавіта наш дырэктар у першую чаргу садзіць разам з Саідам сваякоў ці знаёмых. Калі ўбачыў нас, дык збянтэжыўся, але ненадоўга, адразу стаў адгаворваць ехаць. Маўляў, гэты транспарт ідзе ў Наварасійск, а ўвечары прыйдзе іншы і з камфортам адвязе нас ў Сочы. Аднак пасля нядоўгіх ваганняў сышлі мы ў трум. Ужо пасля таго, як падняўся адкідны мост і трум ператварыўся ў задушліва-цёмную апраметную, напоўненую дзіцячым плачам, пасля таго, як пасажыры падняліся па адным праз вузкія люкі на палубу, пабачылі мы яшчэ адну «літфондаўскую» сям'ю. Расказалі яны, што паспелі толькі дзякуючы таму, што далі шалёныя грошы прыватніку, каб давёз да імправізаванага прычала. Астатнія ўпрошвалі літфондаўскага шафёра, каб «падкінуў» іх з рэчамі на «ЛАЗе», але той адмовіў, сказаў, што не мае на гэта дырэктарскага загаду. А можа, некаму з іх трэба было менавіта ў Наварасійск? Засталіся там між іншых Мікалай Пліско з сям'ёю, дачка Уладзіміра Огнева. Цяжка ўявіць, як яны разбіраліся з Пілiем, калі даведаліся, што эвакуіраваліся адпачыннікі Дома творчасці кінематаграфістаў, пансіянатаў «Правда» і «Самшитовая роща», а таксама шмат жыхароў з навакольных вёсак.

Наш БДК-151 *даволі хутка* пашыбаваў з тэрытарыяльных водаў Грузіі і, мусіць, нездарма — праз колькі гадзін мы даведаліся, што пад Сухумі абстралялі «Камету», што ёсць параненыя і нават забіты пасажыр. З палёгкаю ўздыхнулі, калі мінулі Гагры і *знік* бераг, захутаны смугою ці то ад спёкі, ці то ад пажараў.

Плысці трэба было не менш за пятнаццаць гадзін, а таму паступова пачалі ўладкоўвацца. Жанчыны з дзецьмі занялі некаторыя матроскія і нават афіцэрскія каюты. Мужчыны размяшчаліся на палубах хто як мог. Адны на сваіх валізках і чамаданах, другія надзімалі матрацы, трэція ішлі да матросаў па іхнія паралонавыя матрацы. Тыя з радасцю саступалі іх за «дзякуй», за цыгарэты і за рублі. Як аказалася, карабель прыпісаны ў Еўпаторыі. Маракі атрымлівалі жалаванне ўкраінскімі купонамі, на якія, калі і ўдавалася ступіць на бераг, нічога не маглі набыць ні ў расійскіх, ні ў грузінскіх портах.

Разгаварыўся я з адным вайскоўцам, старшым лейтэнантам. Той раіў дзякаваць Богу, што нас вывезлі. Ягоны прагноз быў самы змрочны: як толькі будуць выведзены з Абхазіі расійскія войскі (а найперш авіядэсантны полк), ператворыцца яна ў крывавы кацёл. Грузінская нацыянальная гвардыя атрымала ў спадчыну ад Закаўказскай вайсковай акругі баявыя верталёты, артылерыю, танкі і іншую бранятэхніку, гранаты і безліч стралковай зброі. А што могуць супрацьпаставіць гэтаму так званыя апалчэнцы-інтэрнацыяналісты? Аўтаматы ды паляўнічыя стрэльбы? Да таго ж грузіны, якія нямала паваявалі пад Цхінвалам, маюць намер прызваць і ветэранаў, што маюць вопыт баёў з маджахедамі. Хаця, з другога боку, Афганістан паказаў, што немагчыма выйграць вайну з партызанамі ў гарах. Асеціны паўцякалі з Грузіі ў Паўночную Асецію, а абхазам — няма куды. Але і пра свой далейшы лёс не мог той старшы лейтэнант казаць вельмі пэўна. Не ведаў ён, ні ў якім гарнізоне служыцьме, ні дзе паселіць сям'ю...

Уначы мы нарэшце дапялі Наварасійска. Наіўна спадзяваліся, што неўзабаве ступім на бераг. Толькі ў восем раніцы пайшоў да начальніка порта запыт пра кацеры, каб высадзіць нас. Чакалі. Гадзіну, дзве, тры... Дванаццаць! Так, толькі праз дванаццаць гадзін вызвалілі для нас прычал. А адна з прычын на тое — каб паспела пад'ехаць здымачная брыгада з тэлепраграмы «Вести»! Пяцьсот чалавек чакалі, каб аператар мог зняць момант, як намеснік галавы гарадской адміністрацыі сустракае бежанцаў і клапоціцца пра іх!

А як нас сустракалі! Столькі міліцыі я даўнавата ўжо не бачыў. Наладзілі анкетаванне, праверку дакументаў, пагранічны і мытны дагляд — як на сапраўднай мяжы... Большасць з пасажыраў вярталася з адпачынку, везлі дзяцей у школы, але былі сярод нас і бежанцы. Расія прапаноўвала ім жыхарства і працу ў некалькіх рэгіёнах. А мы заганарыліся, як пачулі, што ўрад Беларусі запрасіў вярнуцца на радзіму, дакляраваў падтрымку ўсім суайчыннікам— бежанцам з Абхазіі. З падобнай заявай не выступіла больш ніводная з краін СНД.

Намеснік галавы гарадской адміністрацыі (па ўсім было відаць — былы партфункцыянер) перад аб'ектывам тэлекамеры патэтычна паабяцаў усялякую дапамогу і садзейнічанне. Тых, хто хацеў трапіць на чыгуначны ці аўтавакзал, павывозілі аўтобусамі. А тых, хто хацеў бы патрапіць у Сочы, папрасілі яшчэ крыху пачакаць, паабяцаўшы бясплатна пакарміць, пасяліць у прыстойным інтэрнаце з чыстай бялізнай дый (зноў жа бясплатна!) адвезці раніцай на «Ікарусах» у Адлерскі аэрапорт. Галодныя, зноў паселі мы чакаць пры высозных гурбах цэменту, які грузілі на ганконгаўскі сухагруз «Exemplar». Мімаволі параўноўвалі нашых вайскоўцаў і маракоў, што сталі на палубе, з кітайскімі грузчыкамі. І параўнанне тое было на карысць апошніх. Сытыя і задаволеныя, здзекліва пазіралі яны ў наш бок, рагаталі, елі кавуны дый палілі дарагія цыгарэты. Жанчыны нашыя першыя не вытрымалі — махнулі на міліцыянтаў і, парушаючы пагранічныя парадкі, пайшлі ў партовы буфет. Панакуплялі малака, ліманаду, памідораў, вэнджаных курэй, кілбасы і не толькі накармілі дзяцей, а і падзяліліся з маракамі. Ім зноў належала ісці ў паход, зноў рызыкаваць маладымі жыццямі.

Падняўся ў нас настрой, калі пачулі, што транспарт «Даурия» вывез з Піцунды ў Сочы астатніх адпачыннікаў. Нам жа дапяць туды было цяжэй. Тым болей, што словы пра бясплатны праезд, харчаванне і прыстойны інтэрнат аказаліся наскрозь хлуслівымі, сказанымі для тэлекамеры. Абураныя, людзі выгналі са сталоўкі апаратара.

Але на эвакуацыйным пункце нам пашанцавала: сустрэлі земляка, падпалкоўніка Алега Уладзіміравіча Шчэрбу, які нарадзіўся ў вёсцы Мётча, што на Барысаўшчыне. Ён сказаў, што аэрапорт у Адлеры перагружаны, вылецець будзе няпроста, а таму зрабіў нам належныя даведкі і параіў ехаць цягніком. Больш за тое — адвёз на «Ніве» на вакзал. Калі развітваліся, дык паўжартам запрасілі яго служыць у беларускае войска. А ён цалкам усур'ёз і па-беларуску запэўніў, што гатовы, хай толькі радзіма пакліча.

Трыццаць шэсць гадзін у перанаселеным плацкартным вагоне цягніка «Наварасійск — Рыга» — гэта, канечне, не цукар. Але калі згадаў я ў ім падпалкоўніка Шчэрбу, падумалася: «Дай, Божа, паболей такіх афіцэраў у беларускае войска! І не дай, Божа, каб давялося працаваць яму яшчэ ў якім бы то ні эвакуацыйным камітэце! Дай, Божа, каб ніколі і нікому не ўдалося развязаць на нашай зямлі канфлікту, падобнага абхазска-грузінскаму!»

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**

# Сунічнік на Кудзінавым полі

Валянцін ТАРАС

У МАІ 1944 ГОДА, у партызанскім дазоры, я, чатырнаццацігадовы ў той час «народны мсціўца», бабахнуў з карабіна ў свайго ж партызана, сялянскага хлопца Міхася Гаспера, і ледзь яго не забіў...

Дазор стаяў на беразе Іслачы, на супрацьлеглым беразе былі некалі тры вёсачкі — Яцкава, Пяскі і Баркі. У блакаду 1943 года немцы іх спалілі, і засталіся пасярод поля толькі чорныя коміны, пудзілы на колішніх гародах ды ўцалелыя там-сям платы. Далёка за папялішчамі вёсачак быў відзён чырвоны шпіль касцёла ў Пяршаі. Там, у Пяршаі, стаяў паліцэйскі гарнізон, але паліцаі сядзелі ціха, не высоўваліся, а калі б надумаліся пасунуцца да лесу над Іслаччу, мы іх адразу заўважылі б — наперадзе голае поле. Спакойны быў дазор. Сядзелі сабе каля вогнішча, пазіралі вакол і тачылі лясы. За размовамі і праходзіў час. Міхась у размовах амаль не ўдзельнічаў, больш слухаў, прычым слухаў з вялікім недаверам, што мяне дужа злавала. Пра што б хлопцы ні расказвалі, ён глядзеў на іх з хітрай недаверлівай усмешкай, як на цыганоў, якія божацца, што старая кляча, выстаўленая імі на продаж, — спраўны малады конь. Дзяцюк толькі хмыкаў, калі камандзір дазору Куканаў, які некалі служыў на Поўначы і на Далёкім Усходзе, расказваў пра жыццё чукчаў, эвенкаў і ніўхаў. Чукчы, ніўхі і наогул усе невядомыя Міхасю народы ўяўляліся яму казачнымі, ён сумняваўся ў рэальнасці іх існавання. «А што яны ядуць, гэтыя людзі? — пытаўся ён у Куканава. — Адну рыбу? Як жа яны зусім без хлеба?» І зноў-такі ўсміхаўся хітра: маўляў, мяне не падманеш, няма і не можа быць такіх людзей, якія абыходзяцца без хлеба, без бульбы і сала, якія жывуць не ў хатах, а ў нейкіх чумах, і не аруць зямлю. Але калі такое яго невуцтва я яшчэ мог сцярпець, дык невуцтва палітычнае даводзіла мяне да шаленства. Якраз з прычыны яго жахлівага палітычнага невуцтва я ў яго і бабахнуў.

Размова зайшла пра калгасы, і Міхась сказаў: «Кажуць, пасля вайны калгасаў не будзе. У вас, у Расіі, можа, і будуць, а ў нас — не!» Тут я ўвесь і натапырыўся: «Табе што, калгасы не падабаюцца? Чаму ж ты ў партызаны пайшоў? Ідзі ў Пяршай, да паліцаяў!» Ён ваўкавата зірнуў на мяне, апусціў галаву, стаў порхаць кіёчкам прысак вогнішча. Я стукнуў па кіёчку нагой: «Што маўчыш?» «Спокойно, — спагадліва сказаў Куканаў, — ну не понимает парень. Придет время — поймет». «Не, няхай ён скажа, чаму да нас прыйшоў, а не ў Пяршай! Калгасы яму не падабаюцца! — І я зноў стукнуў па кіёчку нагой. — Кулак!» Хлапец раптам успыхнуў, замахнуўся на мяне кіёчкам, як на сабаку: «Адчапіся, шчанё!»

Кроў кінулася мне ў твар. Я ўскочыў, ірвануў з пляча карабін, адступіў на крок. Дзякаваць Богу, у Куканава рэакцыя была імгненная — ў апошні міг ён паспеў мыском бота штурхнуць ствол карабіна. Грымнуў стрэл, і Міхась здзіўлена, яшчэ не разумеючы, што здарылася, утаропіўся на прастрэленую кісць сваёй левай рукі, — у гэты апошні міг ён інстынктыўна ўскінуў рукі, каб засланіцца ад кулі. Хлопцы ўскочылі, кінуліся да мяне, адабралі карабін, нехта заехаў мне ў вуха, Куканаў, белы, як палатно, схапіў мяне за грудкі: «Псих... твою мать! Убью!» А я ўвесь яшчэ кіпеў класавай нянавісцю і раз'юшана крыкнуў у твар Куканаву: «А чаго ён супраць калгасаў?!»

Потым, я, вядома, спалохаўся: за гэта мала мне не будзе! Да таго ж — стрэл у дазоры. Гэта ж я трывогу падняў!.. Але адбылося дзіўнае. Пасля таго, як Міхасю забінтавалі руку, Куканаў, параіўшыся з хлопцамі, загадаў мне, каб я маўчаў, каб нікому ні слова пра тое, з а ш т о я страляў у Гаспера. І Міхасю загадаў, каб той маўчаў наконт таго, з а ш т о ён злавіў кулю. Стрэл, маўляў, быў выпадковы, па неасцярожнасці, бо інакш пачнуць цягаць усіх у асобы аддзел, высвятляць, хто што і як гаварыў, ды слухаў. «А Гаспер, — сказаў мне Куканаў, — ну какой он кулак? Темный он, к тому же западник, при советской власти и двух лет не прожил... Не надо, чтобы особый отдел вмешался. И Гасперу плохо придется, и тебя за самосуд по головке не погладят. Так что молчи!»

«Не трэба, каб умешваўся асобы аддзел!» — гэта мяне пераканала. Хоць я і быў у той час, сённяшняй мовай гаворачы, сапраўдны хунвэйбін, фанатычна адданы ўсяму савецкаму камсамольчык, да асобага аддзела, да асабістаў ставіўся гэтак жа, як і амаль усе мае старэйшыя таварышы: нават калі ты ні ў чым не вінаваты, лепш не трапляць у іх поле зроку, не пападацца туды не тое што на допыт, а нават на размову («на беседу» — па далікатнаму асабісцкаму вызначэнню). Асобы аддзел — гэта было нешта сапраўды асобае, небяспечнае для кожнага, таямнічае і злавеснае, як для дзіцяці казка пра Бабу-Ягу. І, вядома, я даў слова Куканаву, што буду маўчаць. Але наконт таго, кулак Міхась Гаспер ці не кулак, застаўся пры сваёй думцы. Супраць калгасаў — значыць, кулак. Ва ўсякім разе — падкулачнік. І жалю да яго ў мяне не было, не было раскаяння за свой учынак. Гарадскі хлапчук, да таго ж далёка не рабоча-сялянскага паходжання, што я ведаў пра вёску, пра селяніна, пра яго думы і спадзяванні, пра яго працу, урэшце? Літаральна нічога. Але галава мая была нашпігавана лозунгамі класавай барацьбы, адназначнымі класавымі вызначэннямі, якія падзялялі свет толькі на два колеры: чорны і белы. І ніякіх адценняў! З гэтай чорна-белай пазіцыі я і страляў у Міхася Гаспера, з усё яшчэ гэтай пазіцыі ледзь не біцца кідаўся з яшчэ адным «кулаком», якога сустрэў ужо не на вайне.

Было гэта недзе ў 1952 годзе, калі я вучыўся ва універсітэце. Пачынаўся новы навучальны год, але не ва аўдыторыях, а на калгасным бульбяным полі: як заўсёды ў верасні, студэнтаў пасылалі «на бульбу». Наш курс завезлі некуды ці то пад Стоўбцы, ці то пад Смалявічы — не памятаю, як, на жаль, не памятаю ні назвы вёскі, ні прозвішча дзядзькі, у хаце якога апынуўся пастаяльцам разам з некалькімі сваімі аднакурснікамі. Шкадую, што забыўся, бо не ў кожнай вёсцы можна было сустрэць у тыя часы такога дзядзьку.

І дзядзька той, і гаспадыня прынялі нас як сваіх. Цётка гатавала нам ежу — з тых прадуктаў, што выдзеліў на студэнтаў калгас, але не толькі: і свайго малачка дабаўляла, і сала, і яек не шкадавала для яешні. А дзядзька час ад часу частаваў нас добрай самагонкай, сам любіў выпіць, і за чаркай раскрываўся, гаварыў тое, што думаў.

Спрэчка мая з ім пачалася з яго расказу пра каня, які хадзіў у поле разам з калгаснымі коньмі, але стаяў не ў калгаснай стайні, а ў дзядзькавай. Конь гэты быў крыху кульгавы на адну нагу, звалі яго Фрыц. «Чаму Фрыц?» — неяк пацікавіліся мы за чаркай. Дзядзька і расказаў, што конь — нямецкі, дзядзька знайшоў яго параненага асколкам у пярэднюю левую нагу, знайшоў на дарозе, у ліпені 1944 года, калі адступілі немцы. «Яшчэ пры немцах, — сказаў дзядзька, — хадзіла чутка, што пасля вайны, як вернуцца нашы, — калгасаў не будзе, людзям аддадуць іх зямлю, кожны зноў сам будзе гаспадарыць, як да гэтай... калехтывізацыі. Таго каня мне сам Бог паслаў! Коней жа пасля вайны амаль не засталося на вёсцы, пазабіралі і немцы, і партызаны. Ну, вось, думаў, аддадуць мне маю зямельку, а я пры кані! І сваё ўзару, і людзям памагу. А як жа! Конь, праўда, кульгавым застаўся, і — смех! — камандаў доўга не разумеў, акрамя «тпру!» Таму і Фрыц». «Дык што? — спытаў я. — Конь гэты і цяпер ваш? Ці калгасны?» Дзядзька сказаў, што н і б ы т а калгасны, а на самай справе — ягоны. Вядома, пакуль існуюць калгасы, пакуль ён калгаснік, ён не мае права мець свайго каня. Але ў калгасную стайню ён яго не аддаў і не аддасць. Хай конь лічыцца калгасным, — дагледае яго толькі ён, хоць з яго і смяюцца, што ён усё чакае, калі распусцяць калгасы і аддадуць яму ягоную зямельку. «А вы ўсё чакаеце?» — спытаў я. «Чакаю, сынок, — шчыра адказаў дзядзька. — Калі-небудзь павінна ж скончыцца гэтае глупства! Ты ж сам бачыш, як людзі працуюць у калгасе! Калі б не студэнты, усё б гніло штогод...» «Дык вы, дзядзька, кулак? — напаўжартам, напаўсур'ёзна спытаў я, бо мяне ўжо пачаў злаваць гэты чалавек, які нясе чыстую антысаветчыну. «Кулак! кулак! — здзекліва сказаў дзядзька. — Прыдумалі: як гаспадар, дык кулак! Лайдакам царства зрабілі!» І тут я горача пачаў чытаць дзядзьку цэлую лекцыю, вываліў на яго ўсю тую марксісцка-ленінскую прамудрасць, якой мяне нашпігавалі і ў школе і ва універсітэце, усю газетную лухту, якую я, вядома, лічыў сваімі ў л а с н ы м і думкамі. Так я думаў, не заўважаючы, як сляпы, той «практыкі», якая была пад носам: «палачкі», якімі адзначаліся дзядзькавы працадні, на якія ён не атрымліваў літаральна нічога, жыў са сваіх сотак, з чвэрці таго, што яны давалі, бо астатняе высмоктвалі падаткі; ад пачаткаў, як напісаў некалі Рыгор Барадулін, гнуліся і трашчалі галіны садоў, і дзядзьку прыходзілася пускаць сад пад сякеру, каб не плаціць за яго тыя ненажэрныя падаткі; а дзіравыя калгасныя свірны і гумны? А ледзь жывыя калгасныя коні, шкілеты ў параўнанні з тым канём, якога дагледаў дзядзька, бо лічыў яго сваім? А калгасныя каровы, кожная з якіх давала малака ў тры разы менш, чым цётчына? А поўная абыякавасць да бульбы, да буракоў і морквы, што выраслі на калгасным полі, і, калі б не студэнты, так і пайшлі б пад снег? А тое, што цётка вымушана ездзіць па хлеб у райцэнтр ці нават у Мінск? Сялянка купляе хлеб у горадзе!

Вядома, я ўсё гэта бачыў. І — не бачыў «ва ўпор»! Жывая рэчаіснасць засланялася ўяўнай, якой тут не было, але якая павінна была быць, і недзе, як мне здавалася, ёсць — у іншых, сапраўдных калгасах, накшталт таго калгаса, які паказвалі ў кінафільме «Кубанскія казакі». Міраж пераконваў больш, чым рэальнае



Фота А. КЛЕШЧУКА.

жыццё, бо я глядзеў на яго праз бельмы «вялікага вучэння Маркса», якое «ўсемагутнае таму, што яно правільнае». І ніколькі не бянтэжыла абсалютная бяздоказнасць гэтага ленінскага пастулата. Правільнае, і ўсё тут!

Бельмы гэтай «правільнасці», ва ўсякім разе — у дачыненні да «кулакоў», пачалі знікаць, калі лёс звёў мяне з сям'ёй сялянскага паходжання, калі я ўвайшоў у гэтую сям'ю зяцем. Спачатку ведаў толькі тое, што мае цесць і цешча родам з вёскі Вадапой (гэта недалёка ад Мінска, за Калодзішчамі), у горадзе жывуць з трыццатага года. Але вось аднойчы паехаў з жонкай у тую вёску, па суніцы, і павяла яна мяне ў дужа багаты на ягады сунічнік, на тую мясціну, якую ў вёсцы называлі «Кудзінава», і ў тым сунічніку паказала схваныя высокай травою рэшткі падмурка сялянскай хаты — белыя, нібы абгладаныя часам чарапы нейкіх волатаў, вялізныя круглыя камяні. І расказала, што тут стаяла некалі сядзіба яе дзеда з боку маці — Сымона Кудзіна, раскулачанага ў трыццатым годзе, бо меў спраўную гаспадарку, некалькі коней, некалькі кароў і цялятак, некалькі кабаноў, статак авечак, — быў «эксплуататарам». І хоць парабкаў у гэтага эксплуататара ніколі не было, а было шасцёра сыноў — Павел, Уладзімір, Мікола, Кастусь, Антон, Аляксей, і пяцёра дачок — Анюта, Юля, Вольга, Марыя, Наталля, ягоная рабочая сіла, — ўсё роўна залічылі ў кулакі і выслалі. Вольгу Сямёнаўну — маю цешчу — ўратаваў ад Салаўкоў сельскі актывіст Зміцер Бакуновіч, ажаніўся з ёю і тым «прыкрыў», замужам былі Юля і Анюта, Павел і Уладзімір жылі ў Ленінградзе — бацька яшчэ ў дваццатыя гады паслаў іх туды вучыцца. Астатніх разам з бацькамі павезлі на Салаўкі. Старая памерла па дарозе — у цягніку, не даехаўшы да салавецкага раю. А тыя Кудзіны, што даехалі, неўзабаве адтуль уцяклі. Стары з Марыяй і Наталляй падаўся ў Ленінград, да старэйшых сыноў, малодшыя хлопцы вярнуліся на Беларусь, аднак не ў родную вёску, а ў Смольніцу, дзе ўладкаваліся пастухамі. Ды нехта пазнаў іх, пачаў звягаць, што яны — кулацкія дзеці, і прыйшлося хлопцам таксама падавацца ў Ленінград. Там яны і засталіся на ўсё жыццё — у той вірлівы час можна было «растварыцца» ў вялікім горадзе, знайсці прытулак і працу, рабочыя рукі патрабаваліся на кожным кроку — індустрыялізацыя!..

Лёс Сымона Кудзіна быў трагічны. Аднойчы ён пайшоў з дому і не вярнуўся, знік назаўсёды, і ёсць падстава думаць, што ён скончыў жыццё самагубствам, кінуўся ў Няву, бо надта ж сумаваў па роднай вёсцы, па сваёй гаспадарцы. З Кудзінавых хлопцаў ніхто не прапаў, акрамя Аляксея, але і той, дзякуй Богу, не за калючым лагерным дротам загінуў, а на фронце Вялікай Айчыннай. Павел і Антон вывучыліся на інжынераў, Мікола стаў геолагам, прыдбалі сабе някепскія прафесіі і малодшыя Сымонавы сыны, знайшлі сваё месца ў жыцці і Марыя з Наталляй. І ўсе яны ніколі не забывалі Беларусь, не забывалі бацькаву сядзібу, куток свайго маленства, юнацтва, маладосці, не забывалі, што зрабіла з іхняй сям'ёй сталінская калектывізацыя. Не забывалі і не даравалі. Помню, як за год-два да сваёй смерці прыязджаў у Мінск Павел, каб наведаць Вадапой, як, наведаўшы, плакаў, журыўся, пакутваў: «Што яны зрабілі?! Што зрабілі?! Навошта? У імя чаго? Каб зарасло быллём бацькава поле? Каб здзічэў сад? Каб рыкалі на брудных фермах галодныя каровы? Каб здзекаваліся з мужыка заўсёды п'яныя брыгадзіры? Каб мужыцкая краіна купляла хлеб у «Канадзе?» І хоць я быў яшчэ даволі «заканапачаны» малады чалавек, ідэйны журналіст-звяздовец, у маналіце майго светапогляду даўно паявілася трэшчынка сумнення ў правільнасці не толькі палітыкі партыі ў той ці іншы перыяд, але і ў правільнасці марксісцка-ленінскіх догмаў наогул, паявіўся разлад паміж тым, што я

# ПАКЛОН ЧАЛАВЕКУ І ПАЭТУ

За сваё доўгае творчае жыццё я напісаў нямала юбілейных артыкулаў. І рабіў гэта заўсёды з творчым уздымам, радасцю. Сапраўды гэта прыемна — павіншаваць настаўніка (Крапіву, Лынькова, Броўку), ці свайго равесніка з 50, 60, 70-годдзем, сказаць добрае слова, пажадаць здароўя — у першую чаргу і новых творчых здабыткаў.

Адзначыць юбілей— гэта не проста традыцыя, рытуал, гэта праява павагі і ўвагі да мастака, імя якога вядома тысячам, а то і мільёнам чытачоў, гледачоў.

І вось мушу прызнацца: цяжка пачынаю слова пра Максіма Танка, якога даўно люблю, без малога паўсотню гадоў захапляюся і паэзіяй яго і незвычайнымі чалавечымі якасцямі.

Прабач мне, дарагі Яўген Іванавіч, за гэтае прызнанне. Не магу крывіць душой: сапраўды цяжка. Што віной таму? Твае гады, дружа, і час, павароты і перавароты, якія так абяздолелі нашу старасць. Не такой мы яе ўяўлялі. Калі Паэт, імя якога вядома паўсвету, мусіць думаць пра скарынку хлеба — тут не да скокаў, не да ўдзячнасці партакратам, дэмакратам і роднаму ўраду.

І гады... 80 ёсць 80, не будзем ханжаствваць — «сярэдні век». Віншаваць з імі, з гадамі, — не паварочваецца язык. Але ў гэты дзень, знамянальны не толькі для цябе, тваіх блізкіх, колькі для роднай літаратуры — няхай не забудуць гэтага гісторыкі! — для нас, сяброў тваіх і чытачоў, хачу нізка пакланіцца табе за твой подзвіг Чалавека, Паэта, Грамадзяніна.

У жніўні я сказаў гэтыя словы Янку і Пімену і сказаў іх з такой жа шчырасцю, з якой кажу сёння табе, Максіме (так мы да цябе заўсёды звярталіся).



Сустрэча на Віцебшчыне.

Каб я, празаік, успомніў усе твае кнігі, а іх добрая сотня — арыгінальных, перачытаў бы паэзію, то напісаў бы не проста юбілейны артыкул, а цэлае даследаванне. Але крытыкі, паэты рабілі гэта і — не сумняваюся! — зробяць у будучым лепш, чым я.

Не буду гаварыць высокіх слоў, што паэзія Максіма Танка — мора, акіян. Але адно паэтычнае параўнанне, якое прыйшло мне, калі я хадзіў па тых мясцінах, якія некалі таптаі босыя ногі Жэні Скурко, не магу не згадаць і не выказаць.

Паэзія Максіма Танка —гэта Нарач, перліна беларускай зямлі, глыбокая, чыстая, празрыстая, непаўторна прыгожая ў любое надвор'е — калі ззяе сонца і калі плывуць цяжкія хмары з захаду ці ўсходу.

Суровай прозай можна дадаць: паэзія Максіма Танка — летапіс барацьбы народа, бед яго і радасцей. Былі і радасці — і ў Народа і ў Паэта. Не будзем закрэсліваць і чарніць нашу гісторыю, далёкую і блізкую, як нельга яе і прыхарошваць, што мы ўжо рабілі ў недалёкім мінулым — і чарнілі і прыхарошвалі. Але Паэт заўсёды заставаўся Сынам Народа і Вяшчальнікам свайго часу.

Інакш і не было ў гісторыі ўсіх літаратур: Пушкін, Міцкевіч, Шаўчэнка, Купала, Колас...

Просяцца яркія выгрымкі з вершаў Максіма Танка розных гадоў. Але стрымліваю сябе ад гэтага. Лепш скажу колькі слоў пра Яўгена Іванавіча — Чалавека.

Пазнаёміліся мы ў снежні 1945 года на першым пасляваенным пленуме Саюза пісьменнікаў. Які пленум! Сход! З 43 членаў саюза, што засталіся жывыя ад рэпрэсій і вайны, прысутнічала 42, Пімен Панчанка не дабраўся з Ірана. І мы, маладыя чалавек 20. А гаварылі чатыры дні! Было што сказаць! Я пісаў ужо, што на Коласа, Крапіву, Лынькова, Танка, Броўку, Глебку, Куляшова глядзеў, як на Апосталаў таго Неба, на якое і я памкнуўся ўзабрацца. Прывучаны за пяць гадоў да армейскай субардынацыі, я баяўся загаварыць з «генераламі літаратуры». І во шчасце! — у час абеду Максім Танк сеў за наш стол. І — божа мой! — як ён зачараваў нас сваёй дэмакратычнасцю, народнасцю, дасціпнасцю. Мы плакалі і рагаталі з яго расказаў. Помню, што на пытанне аднаго з нас Яўген Іванавіч адказаў: «Як я пішу? У мяне ж двойня, хлопцы! Дзве дзяўчынкі — Іра і Вера. Адну я трымаю на правай руцэ, другую на левай, а ззаду на шыі вісіць Максім, сын. Побач жонка грыміць каструлямі і тазамі — пакой адзін. І я пішу... нагой, левай».

Так жартаваў вялікі Жыццялюб.

# У МАКСІМА ТАНКА ЁСЦЬ УСЁ...

У Максіма Танка ёсць усё: ёсць і таму, што было, і таму, што ёсць, — ёсць і будзе — для роднай літаратуры і Паэзіі, дзеля сцвярджэння і ўзнясення нацыянальнай паэзіі, нацыянальнага гонару і дзеля розгаласу яе, нашай паэзіі, у самым шырокім свеце. Вялікі Нацыянальны паэт, паэт еўрапейскага, усечалавечага маштабу. Прызнаны, гларыфікаваны: прызнаваны, як у былой Заходняй Беларусі, так і ў сённяшняй суверэннай, плынямі грамадска-палітычнымі самымі рознымі; гларыфікаваны ледзь не кананічна ва ўмовах распасцірання сваіх крылаў над намі сацрэалізмам як спараджэннем таталітарызму, дагматызму. І ён, Максім Танк, не мог не быць не прызнаваны, не мог не быць не гларыфікаваны, як і не можа не быць не вылучаны і не падзіўляны і сёння, і заўтра, і заўжды, бо ў Максіма Танка ёсць усё.

Жыццё, гісторыя, перыпетыі развіцця XX стагоддзя і асабліва паяднанасць лёсу Паэта з лёсам свайго краю, свайго народа далі Паэту тое ўсё, пра якое гаворка. Тое ўсё было і ёсць розным, разнаякім і разнастайным, як само жыццё ў сваіх складніках, сама гісторыя ў сваіх перыпетыях разгортвання. З розных пунктаў гледжання можна акідаць здабыткі Паэта, такі шматцерапалосны і шматфарбны, шматтэмны і шматнастраёвы. Але так, як дасюль, а больш канкрэтна — да перабудовачных гадоў, сярэдзіны 80-х гадоў у ацэнцы напісанага Паэтам развівалася яго даследаванне, даваліся яго ацэнкі пераважна толькі з аднаго пункту гледжання, то цяпер самая надзённая задача беларускага, ды не толькі беларускага літаратуразнаўства зірнуць на Паэта і па-новаму — з і выбарам самых розных пунктаў назірання і доследу, пры несумненнай неабходнасці і пераасэнсавання дасюдных ацэнак Паэта, дасюднага агульнага бачання і разумення яго ў рэчышчах развіцця нацыянальнай і ў цэлым сусветнай паэзіі. Задача з нялёгкіх, прычым, можа, і не з пастаноўкі яе трэба было б пачынаць юбілейны артыкул пра Паэта. Але ж ніхто, здаецца, дасюль аб неабходнасці новага адкрыцця нашага наймагутнейшага Паэта не гаварыў, а калі пра гэта не гаварыць, то гэтым як бы сама цераз сябе пацвярджаецца не лепшая выснова, што нібыта Паэт застаецца ў былым і толькі з былым, як які-небудзь рыцар на гадзіну, ілюстратар, трубадур, рупар ідэй. Каго, чаго ілюстратар, трубадур і рупар, тлумачыць няма ніякай неабходнасці. І што Максім Танк, як і ўся беларуская паэзія доўгага часу, уся шматнацыянальная савецкая паэзія былі і трубадурнымі, і ілюстратарскімі, і рупарнымі таксама неаспрэчна. Але пры гэтым і ў цэлым наша беларуская нацыянальная паэзія ва ўсе тыя часы была шырэй таго, што ад яе патрабавалі догмы і адміністрацыйна-камандная сістэма і асабліва шырэй іх была наша паэзія ў яе найпершых прадстаўніках — у Паэтаў самых шырокіх гарызонтаў.

Кажуць, маланка не ў пні б'е, а ў вяршаліны дрэвы. Абпальваны маланкамі быў і Максім Танк. Мілаваны то мілаваны, але мілаваннем тым колькі разоў і тут, і там, і тады, і сяды склапочаны, стурбочаны, — і не за сябе ж — у цэлым за пісьменніцкую арганізацыю, за лёс кожнага з тадышніх яе сяброў, за лёс роднай паэзіі і роднай мовы. А паэты ж, пісьменнікі не ўсе ж па адной струнцы хадзілі, не ўсе ж у струнку перад высокім начальствам цягнуліся, бо сярод іх былі і тыя, каго ўжо нямашака — Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Аляксей Карпюк, Еўдакія Лось, Антон Бялевіч, Міхась Стральцоў, і тыя, хто сёння поплеч з Максімам Танкам — Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, усе людзі непакладзістыя, не з ціхамірных, не з утаймоўных. І, паверце, не раз гэта было, калі бегучы з філфака, што так доўга размяшчаўся на Чырвонаармейскай вуліцы, каля вялізнага дома, я не, не ды перастраваў Яўгена Іванавіча — нешматмоўнага ў тыя хвіліны, не, як звычайна, радаснага табе, гучнагалосага ў вітанні, усміхнутага ўсёй душой, ашчадраўшага цябе, а нейкага, як сам не свой: з цяжкім кіўком у бок вялікага дома, з коратка выдыхнутым: «Зноў!.. Зноў!..» Больш нічога не гаварылася — не гаварылася, але шмат разумелася. Свой сэнс укладваў у тыя «Зноў!.. Зноў!..» Яўген Іванавіч, свой, вядома, я — можа, не такі разгорнуты, не цалкам адэкватны, але цалкам паразумеечы: калі сонца было над намі не ў зеніце, то поруч былі і мы ля вялікага дома і нашы цені...



М. ТАНК з жонкай Любай і ўнукам Максімам.

Яўген Іванавіч любіць успамінаць свае сустрэчы з Янкам Купалам. І нават голасам ён мастак удаваць тон, інтанацыі Купалы: «Ну як, вызвалены браце?!» Гэта было пасля Верасня 1939 года. На «як?» не адказваў ні «вызвалены брат», ні той, хто пытаўся: «Як?..» Дык як жа, аднак, адзін ужо даўно Народны, а другі — будучы Народны сапраўды разумелі тады сітуацыю? Іронія ці што іншае хавалася тады за купалаўскім пытальным «як»?..

Сам родам, як і Максім Танк, з былой Заходняй Беларусі, васьмігадовым хлапчанём я памятаю Верасень 1939 года і памятаю, як мой бацька перажываў тое ўтрапенне, якое прынеслі на заходнебеларускія землі першыя Саветы, як той перыяд цяпер на Слонімшчыне называюць. «На крылах ляцеў бы!..» — усё казаў мой бацька ў хаце, да 1939 года, як на апастыленае, глядзеў на сваё жыццё ў панскай Польшчы, марачы, каб як хутчэй «пад Саветы». Горкім аказалася ўтрапенне бацькі майго! А ўтрапенне былога вязня Лукішак, найпершага заходнебеларускага паэта-камсамольца, камуніста-рэвалюцыянера? Было яно, ці не было яго?.. Я пра тое ж у сённяшняга Паэта не пытаюся, не інтэрв'ю бяру. Я пытаюся пра гэта ў самога сябе, як пытаўся пра тое ж, па сутнасці, у самога сябе і тады, калі першы раз адважыўся пра Максіма Танка напісаць.

А пытанне ў мяне да самога сябе было калісьці, больш пятнаццаці ўжо гадоў таму назад, такое: калі паэт — рэвалюцыянер, то дакуль ён рэвалюцыянер, да таго часу, калі яго палітычная платформа застаецца не здзейсненай ці і ў тых сацыяльна-палітычных абставінах, за якія ён, паэт, змагаўся? У падручніках па літаратуры, у хрэстаматыях скрозь стаяла: паэт-рэвалюцыянер. Міф гэта сёння ці дакладная дэфініцыя? Ці, можа, мы маем справу з драмай лёсу Паэта, што выражае і драму лёсу ўсяго народа, усёй Заходняй Беларусі, спакушанай верай і надзеяй у Саветы і так жорстка падманутай рэальнасцю? Народны паэт падзяліў лёс народны, хоць уласна ў матывах паэзіі Максіма Танка ні даваеннага, ні ваеннага і пасляваеннага часу пра тое, пра што ў нас гаворка, ні слова няма, незаўважна. Пісалася пра ўсё іншае, але не пра гэта пісалася на сацыяльны заказ, тым усё і тым, хто камандаваў музыкай. Значыць, штосьці аказалася замоўчаным,—замоўчаным і спаняверанаым, ды вось выплывае,



М. ТАНК. 1934 г.

І вось няма ўжо адной з равесніц Перамогі — Веры. У адзін год Максім пахаваў дачку, я — сына. Такі наш лёс — пахаваць дзяцей. Горкі лёс. Большага болю, большай бяды ў чалавека няма, як смерць дзяцей. Падкасіла гэта здароўе і Любові Андрэеўны, і Марыі Філатаўны, і наша з ім.

Наведваю Максіма ў бальніцы, куды ён цяпер часта трапляе. Гаворым так шчыра і доўга, што разоў колькі ўрачы выстаўлялі мяне: хіба можна так стамляць хворага чалавека? Але каб яны ведалі, якая прага ў Паэта ўсё абмеркаваць — усе падзеі, усе публікацыі пра жыццё, літаратуру, культуру! Мяне ўражвае, як многа чытае стары хворы чалавек. Больш, чым я, аднавокі. І якая яснасць розуму, глыбіня і праніклівасць, далягляд! І народная мудрасць. Так аб сённяшніх сумных падзеях гаворыць народ. Паэт і на бальнічным ложку чуе голас народа. І прадказанні яго бываюць працкімі, яны неаднойчы здзіўлялі мяне, хоць, можа, у пачатку я і не прымаў іх. Дай Бог, каб споўнілася яго галоўнае прароцтва, якое — не для юбілейнага слова.

Такі ён, Максім Танк, напярэдадні свайго 80-годдзя. Гора, не толькі асабістае — народнае сагнула яго, але не зламала. Не, не зламала! Ён яшчэ Змагар. Змагаецца яго паэзія— крыніца народнай мудрасці, з якой дзеці нашы і ўнукі чэрпаюць мудрасць беларусаў, яго ёмкае Слова, якога так не хапала ды і цяпер не хапае, але якое выбілі «на камні, жалезе і золаце» Янка Купала, Максім Багдановіч, Максім Танк і ўсе мы, беларускія пісьменнікі, што ў самыя горкія часы русіфікацыі трымалі матчына слова і даносілі яго да кожнага, хто не рабіўся манкуртам, Іванам, які не помніць роду свайго і племені.

Пачалася рэвалюцыя адраджэння, якую ўсе мы віталі. Пачалася... Але ці не захлынулася? Калі паэты ў такім стане, у якім знаходзіцца гонар нацыі —Максім Танк, Пімен Панчанка, то як адродзімся, на чым узнімемся — на амерыканскіх дэтэктывах, што, навадніўшы рынак, душаць беларускую кнігу?

Пачуй крык душы сваіх паэтаў, наш мудры народ! Пачуй нас, Вярхоўны Савет і ўрад! З кім вы будзеце будаваць Незалежную Дзяржаву і незалежную культуру? Зберажом жа тое, што ўжо стала здабыткам агульначалавечай культуры!

Адхіліўся я ад юбіляра. Але гэта нашы з Максімам агульныя думкі, пра гэта мы многа гаварылі, і я не мог не выказаць іх хоць бы так коратка.

А юбіляр... Не, не на бальнічным ложку бачу я яго. Перада мной стаіць той даўні і не вельмі даўні Максім — чалавек незвычайнай сапраўды народнай дасціпнасці, весяльчак, рагатун — душа любога неафіцыйнага збору ў рэдакцыі «Полымя», у Саюзе пісьменнікаў, дзе мы разам рабілі многа гадоў. Працаваць з Яўгенам Іванавічам было лёгка і весела.

Што ж пажадаць табе, дружа, у памятны дзень 17 верасня?

Дай Бог дажыць нам да таго шчаслівага дня, калі ўбачым прамень шчасця для дзяцей нашых, унукаў, праўнукаў і пераканаемся, што гэта ўжо пэўна пачатак новага жыцця, без пaваротаў, без падманаў — без любых «ізмаў».

Мужайся, дарагі Яўген Іванавіч. Найлепшыя пажаданні Любові Андрэеўне, дзецям, унукам. Абдымаю цябе.

**Іван ШАМЯКІН.**

---

як асэнсаванне, можа, найпершай драмы Паэта і Народа...

Рэвалюцыянеру ў камандзе нерэвалюцыянераў, перараджэнцаў, перахрышчэнцаў, дэмагогаў, камандзіраў не было мёду, ды і не стала ўжо і самога рэвалюцыянера. І, думаецца, хопіць ужо сёння пра тую рэвалюцыйнасць. Ці не лепш успомніць Адама Міцкевіча. Як у кожнага вялікага паэта, маладосць, зазвычай, яна — «górna i durna» — у Вашым перакладзе Яўген Іванавіч: «...Юнацтва час... шумны, неразумны». Паверым вялікаму паэту з Наваградскай зямлі; не ў заслугу ці незаслугу Паэту будзем ставіць яго партыйную дзейнасць, бо іншыя крытэрыі першасныя для Паэзіі — уласна эстэтычныя, звязаныя з магутнасцю дару, сілай вычування, валодання словам, пранікнення ў дух і душу народа, цераз сваё, запаветнае, нікім не раскрытае выказанае...

У паэзіі Максіма Танка сапраўды ёсць усё. Няма паэта без біяграфіі, — у Максіма Танка ёсць біяграфія. Няма паэта без Божага дару, — у Максіма Танка ўсеабдымны Божы дар. Няма паэта без фанатычнай думкі, — у Максіма Танка скразная фанатычная думка любові да роднага. І ён жа. Максім Танк — паэт і традыцыйны і мадэрнісцкі, і класічна-ямбічны і верлібравы, і сантыментальна-пачуццёвы і «рацыяналістычна - інтэлектуальны (рацыяналістычны ў сэнсе «сухаваты»). Песенна-народныя інтанацыі ў яго суседнічаюць з гекзаметрамі, формы японскай паэзіі з формамі польскай фрашкі, а ўжо разгалінаванасць тэм і матываў, яна проста неймаверная ў сваім ахопе жыцця, гісторыі, ды не толькі свайго народа, культуры, духу, зноў жа не толькі свайго народа, не толькі народаў Еўропы, але і няблізкіх перш за ўсё народаў Азіі, Блізкага Усходу, кантыненту Лацінскай Амерыкі.

Асобна хочацца сказаць яшчэ аб адным — аб польскай літаратуры, праз якую, як бы праз акно, у самы шырокі свет яшчэ са сваёй паэтычнай віленскай маладосці пачаў глядзець Паэт. Паэтам высокай культуры еўрапейскага маштабу, на мой погляд, Максім Танк стаў праз



М. ТАНК з Н. Вылчавым (Балгарыя).

сваю далучанасць да польскай паэзіі XX стагоддзя, праз сваю любоў да яе і запрыязненасць з яе творцамі. Хто ў нас першым сотнямі перакладаў паэтаў іншых нацыянальнасцяў, падаючы прыклад іншым? Максім Танк. Хто ў нас здзіўляе абачнасцю ў сусветнай паэзіі, не баючыся, як Максім Багдановіч, эпіграфамі з яе пераносіць сваю творчасць? Максім Танк. І хто ў любы час не дазваляў сабе проста адпісацца ад чагосьці, прамямліць нешта з паперкі з той ці іншай нагоды, а заўжды насычаў сваё прамоўніцкае, публіцыстычнае слова новым абагульненнем, мудрай цытатай сабратоў па пяры ці з класікаў літаратуры? Максім Танк...

Гэта праўда, што ў Максіма Танка як паэта ёсць усё, як праўда разам з тым і тое, што таго-сяго ў Танка-паэта і няма: няма, напрыклад, літаратурных ворагаў. І я не ведаў і не ведаю чалавека, каторы меў бы на Танка крыўду, і каб нехта яму зайздросціў. Ні крыўдавальнікаў, ні зайздроснікаў у Максіма Танка няма і пра тое ўсім заўсёды сведчылі так шматлікія ў свой час у Саюзе пісьменнікаў Беларусі галасаванні, — заўсёды для Максіма Танка аднагалосныя. Бо такі ўжо ён і Паэт, і Чалавек — Максім Танк.

Усё ёсць у Максіма Танка, а цяпер у яго ёсць ужо і свае 80. Пяцьдзесят, помніцца, Паэт адзначыў у «Полымі» нізкай пяцідзесяці вершаў, шэсцьдзесят— шасцюдзесяццю вершамі. Чакаю вераснёвы нумар сёлетняга «Полымя»...

Не любіць паэзіі Максіма Танка нельга. Не быць удзячным яму за веліч яго духу і натхнення нельга. Нізкі паклон Вам і ў добры час моўленыя пажаданні здароўя і памыснасці, дарагі Яўген Іванавіч!

**Алег ЛОЙКА.**

---

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# РОДАМ З МАЛЕНСТВА




Шмат у якіх творах Івана Навуменкі ажывае перадваеннае і ваеннае маленства і юнацтва герояў, аднагодкаў пісьменніка. У асобных з іх угадваецца ён сам. Ды, бадай, ні ў адным так не адчувальны аўтабіяграфічны момант, як у новай аповесці «Дзяцінства», выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура» асобнай кнігай. Усё ў гэтым творы адтуль, дзе за смугой часу паўстаюць такія ўжо далёкія і гэткія складаныя трыццатыя гады.

Галоўны герой аповесці хлопчык Васіль паказаны аўтарам у момант, калі сама ўваходзіць у жыццё, прыглядаецца да акаляючага свету і людзей, задумваецца, хто ён на гэтай зямлі і дзеля чаго з'явіўся. Развагі Васі шмат у чым наіўныя, але менавіта ў гэтай дзіцячай непасрэднасці і хаваецца свая вабнасць, паўстае тое, што сведчыць аб адкрытасці душы юнага героя, яго жаданні да ўсяго дайсці самому.

«З якога часу Вася сябе памятае?» — гэтым пытаннем І. Навуменка і пачынае аповесць, адразу ўводзячы ў свет, з якога выйшлі мы ўсе і ў які рана ці позна абавязкова хочацца вярнуцца кожнаму зноў. Уласна кажучы, «Дзяцінства» — твор хутчэй за ўсё не для дзяцей, хоць, думаецца, з ім з цікавасцю пазнаёмяцца старшакласнікі, а пра дзяцей. Пра тое, як яны становяцца пакрысе маленькімі грамадзянамі, як, вырастаючы са сваіх штонікаў, шукаюць адказ на многае, і часам, на жаль, не знаходзяць, бо дарослым з-за пастаяннай занятасці не да іхніх пытанняў.

Вася І. Навуменкі не знаходзіцца ў баку ад сацыяльных працэсаў, таму ён не можа не адчуваць несправядлівасці. Цяжка зразумець хлапчуку, чаму гэта ў мястэчку працавітых людзей, без ніякіх падстаў на тое, называюць кулакамі. Становіцца ён сведкам таго, як член сельсавета Сцяпан Бохан, кульнуўшы адну-другую дармовую чарку, адразу забываецца пра свае «прынцыпы», хоць перад гэтым папярэджваў аб адказнасці за тое, што кабана смалілі, а не знялі скуру, каб здаць дзяржаве, як таго патрабавалі тагачасныя ўстаноўкі. Бачыць Вася, як гасцюе ў іх сям'і начальнік станцыі Тупікаў — усё робіцца, каб задобрыць яго.

Няцяжка здагадацца, які адбітак знаходзіць усё гэта ў свядомасці хлапчука. Тым больш, што па натуры ён — чалавек уражлівы: «Вася — летуценнік. Ён заўсёды пра што-небудзь марыць. Таго, пра што Вася думае, яшчэ няма, можа, нават ніколі не будзе на свеце, але гэта не перашкаджае Васю маляваць бясконцыя прыгожыя карціны і самога сябе ўяўляць у розных выдатных становішчах».

Ёсць у аповесці яшчэ адзін эпізод, які быццам пераварочвае душу хлапчука. Спачатку па сваёй даверлівасці Вася ідзе на адкрытасць. Калі ўжо згаданы Бохан патрабуе, каб Васеў бацька здаў дзяржаве трыста кілаграмаў бульбы, хлапчук нагадвае, што «бульбы поўны падпол. У чыстай хаце. Маці ў грубцы паліць, каб бульба не памерзла». Прывык Вася пра ўсё гаварыць сумленна. А пасля... Бацьку выклікаюць у сельсавет, папярэджваюць, «калі не адвядзе каня ў калгас, будзе абкладзен падаткам як аднаасобнік». Звальняюць з пасады малодшага кандуктара.

Аднак гэта зусім не значыць, што пісьменнік скіроўвае ўвагу толькі на падобныя сацыяльныя аспекты. Зусім не. Нездарма ж аповесць названа — «Дзяцінства». Ды і абедзве яе часткі маюць адпаведныя ўзросту героя назвы — «Птушкі» і «Кнігі». Свет Васі — свет хлапчука ўражлівага, здатнага заўсёды знайсці для сябе пэўную радасць. Асабліва любіць ён прыроду: «Да птушак у Васі прагная цікавасць. Да ўсіх, якіх ведае: вераб'ёў, сініц, чакунцоў, галак, варон, шызых галубоў і галубоў-туркалікаў, удодаў, жаваранкаў».

Пасля ж таго, як ідзе ў школу, адкрываецца для яго свет, не менш вабны —ведаў, кніг. І разам з тым новае, важнае адкрыццё: «Беларуская мова— звычайная. Нават тая, якой напісаны кнігі, газеты, вельмі падобна на мясцовую, мястэчковую гаворку. Таму Вася нібы адкрыццё зрабіў, дазнаўшыся, што звычайнай мясцовай гаворкай могуць быць напісаны кнігі. І вельмі ўзрадаваўся, устанавіўшы, што ён беларус. Усё роднае блізка ляжыць да душы, сэрца. Таму мала сказаць, што Васю падабаецца беларуская мова. Ён яе любіць, зачараваны ёй, бязмежна ў яе закаханы».

Нямала ў аповесці старонак, на якіх жыве, прысутнічае, як бы дыхае ўсё гэта беларускае. Па-майстэрску расказвае І. Навуменка пра тое, як Вася адкрывае для сябе прыцягальнасць народных святаў. У мястэчку ж захаваліся і зберагліся даўнія традыцыі, таму дзеці разам з дарослымі адзначаюць каляды, вялікдзень... Кожным разам у дзіцячую душу, свядомасць уваходзіць тое непаўторнае, нерушавае, з чаго і пачынаецца любоў да радзімы, бацькоўскай зямлі.

Увогуле, за знешняй стрыманасцю творчай манеры пісьменніка (а перад намі аўтарская споведзь аб найбольш блізкім, дарагім, якая сама па сабе і вымагае нягучнасці, але пранікліваи шчырасці) — неабсяжнасць самога свету маленства. Свету, які для кожнага, хто б ні ўваходзіў у яго, пастаянна вялікі і неабсяжны. Дзяцінства Васі — гэта дзяцінства многіх (ці не ўсіх!) з тых, хто сёння набліжаецца да свайго 70-гадовага рубяжа, тым самым нешта і падрахункоўвае. Калі ж гэта робіцца таленавіта (як у дадзеным выпадку), значыць, асабістая споведзь набывае і грамадскі рэзананс.

**А. М.**

Праўда, перад смерцю абое нібы адумаліся, перадавалі праз дачку грошы, прасілі дараваць — Жэня ці то адчапнога, ці то падарункаў не ўзяла, але, калі іх хавалі, на могілкі хадзіла.

Жэня ішла адна: рашылі з Косцем не змушаць Юлю ісці сюды супраць яе волі. Няхай падумае, сама разбярэцца, што ў яе на душы і, можа, зойдзе пазней. Яна і так узрушылася сёння, што не пайшла ў клуб, распранулася і легла ў пасцель. Здаецца, нават з павышанай тэмператураю.

У Бусловай хаце трапіла якраз на вячэру. Рая борздзенька падхапілася з-за стала, пачала памагаць распранацца, падала тапачкі, а дзеці, сямікласнік Пятрок, выліты бацька, і пяцікласніца Люся, падобная на маці, сумеліся, паапускалі галовы — яны, змалку пра ўсё ўведаўшы, заўсёды саромеліся яе і Юлі, стараліся не трапляць на вочы.

Буслова хата была вялікая — ажаніўшыся і стаўшы лесніком, Васіль да трохпакаёўкі прыбудаваў яшчэ два прасторныя пакоі і веранду. Жэня ішла ўслед за Раяю па калідоры і пакоях, вельмі не прыглядалася, але міжволі бачыла: на падлозе і на сценах шмат дарагіх дываноў, усюды нямала новай мэблі, люстраў, аж два тэлевізары — малы, мусіць, чорна-белы і вялікі, відаць, каляровы.

Васіль ляжаў у бакавым пакоі на шырокім драўляным ложку, накрыты коўдраю ў бялюткім чахле і, можа, ад гэтай белі сам таксама быў вельмі ж бледны. Яна, які ўжо час не бачыўшы яго нават здалёку, цяпер аж разгубілася: які зблажэлы! Не мужчына, а цень ад яго! Злямчаныя валасы, нібы васковы лоб, запалыя вочы і шчокі, тонкая шыя і белыя, лічы, кастлявыя рукі.

Рая моўчкі падала ёй крэсла, а сама, не сказаўшы і слова, выйшла з пакоя.

— Садзіся,— прамовіў ён зліплымі сухімі і патрэсканымі вуснамі, а калі яна апусцілася зусім непадалёку, квола ўсміхнуўся: — Што — не пазнаць?

— Змяніўся,— шчыра адказала яна, адчуваючы нейкую няёмкасць, што яна цяпер такая папаўнелая, ружовашчокая і, можна сказаць, маладзей сваіх гадоў.

— А дзе Юля? — схмурыўся.— Не захацела прыйсці?

— Можа, і не варта настойваць, каб яна вось так адразу ўзяла і прыйшла сюды...— апускаючы голаў і абцягваючы на круглыя калені ў цёплых панчохах спадніцу, адказала яна.

— Можа,— згадзіўся.— Хоць папрасіць яе дараваць, развітацца хочацца...

— Ты што — некуды пераязджаеш?— нібы нічога не зразумеўшы, запытала яна.

— Думаю пераехаць. За вёску, да бацькі і маці...— ціха прамовіў, і ў яго патухлых, нібы шкляных вачах нагарнуліся слёзы.

— От выкінь дурное з галавы! — знарочыста сярдзіта сказала Жэня.— І сам трымайся, і сям'ю не мардуй.

— Не, Жэня,— прамовіў, пазіраючы не на яе, а ў столь.— Не жылец ужо я. Пракляты рак стачыў мяне, дык з кожным днём слабею і слабею. — На хвіліну замаўчаў, выцер рукавом белай кашулі скупыя, але адчайныя мужчынскія слёзы.— Думаў: сто гадоў пражыву. Век буду малады, здаровы, дужы. Аж не. Знянацку нешта падсекла. І паратунку, душой адчуваю, няма.

— Кажу, выкінь абы-што з галавы,— паўтарыла яна тое, што найперш магла сказаць цяпер.— Пра другое думай. Пра тое, як жыць далей ды каб дзяцей падняць на ногі.

— Цяпер то я ўжо ведаю, як трэба жыць...— уздыхнуў і глыбока ўвабраў у сябе свой цяжар.— А некалі гарачы, легкадумны і бесталковы быў. Якраз з-за гэтага зламаў табе маладосць. Ты мне падабалася, вабіла, але я, выбачай, не думаў браць цябе замуж. Думаў: пагуляю — і ўсё... Сказала ты мне са слязьмі, што зацяжарыла, а я не толькі раззлаваўся. Зненавідзеў цябе, нібы найперш ты ва ўсім вінаватая. Таму і з Раяю ажаніўся лёгка, жыў без турбот. Але ішоў час і штосьці само па сабе пачало лезці ў галаву, грызці душу: не, даражэнькі ветрагон, не цеш сябе, ты не цаца, а падманшчык, двудушнік і мярзотнік! Заліваў няпрошаныя думкі і згрызоты гарэлкаю, бывала, піў ледзь не да смерці, на іншых жанчын кідаўся, звярэў, дзічэў, а лягчэй не было. Наадварот, станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Калі ты выйшла замуж, акрыяла, нават расцвіла, я адчуў: зусім дабіты. Я табе такога не даў бы. Я змучыў бы цябе, як вось замарнаваў жыццё Раі...

Жэня не перапыняла, слухала і, глушачы растрывожаныя пачуцці, боль, ціха плакала. Васілёвы словы не крыўдзілі, не абуджалі гнеў — не, яны супакойвалі, нават радавалі, што чалавек нарэшце зразумеў тое, што павінен быў ведаць даўно. Такой бяды, што гэтае пакаянне позняе.

— Які не цяжкі мой грэх перад табою, але я сябе магу суцешыць: ты не прапала, зажыла так, як трэба,— спавядаўся Васіль далей.— А вось перад Юляй няма мне даравання. Не за тое, што з-за юру, незнарок даў ёй жыццё, што жыве без бацькоўскай ласкі. Я не магу дараваць сабе адзін жудасны выпадак, які і яна мне ніколі не даруе. Як цяпер помню: яна, маленькая, харошанькая, чысценькая, ідзе са школы, а я лячу насустрач на матацыкле, бачу яе — і ўва мне, п'янага дзікуна, падымаецца, расце нейкая сляпая злосць. Не збочваю, а наўмысна наязджаю на лужыну і абліваю дзіця з ног да галавы...

— Я ўсё, Васіль, разумела, а вось гэтае — не,— пахітала яна галавою.— Я — адно, а вось невінаватае дзіця ды яшчэ ў такі для яго дзень — зусім другое...

— І, ведаеш, найбольш пад'юшчыла тое, што Юля якраз на мяне падобная... — Прызнаўся, памаўчаў крыху, выціраючы рукавом спацелы лоб, а пасля дадаў: — Да гэтага вёска адносілася да мяне яшчэ больш-менш нармальна: што ж, і такое бывае... Але вось пасля гэтага я адчуў: усё, людзі мяне не любяць. Амаль ніхто, апроч маці і бацькі, мне нічога не сказаў, але ўсе нібы адмяніліся... Каб ты ведала, як мяне пранізаў гэты іхні холад! Але я, ёлупень, не стаў на калені перад усёй вёскай, перад Юляю, а яшчэ болей зацяўся...

Жэня змаўчала, выцерла хустачкаю слёзы.

— Даруйце...— ціха, з просьбаю прамовіў Васіль, зноў, як і на пачатку сустрэчы, замыліў вуснамі.— А я сабе ніколі гэтага не дарую...

— На мне таксама віна ляжыць,— сказала яна, трохі суцешваючы яго.— Не паслухала старых людзей, не шанавалася. Не падпусціла б цябе — усё зусім іначай было б...

— Даруйце,— зноў папрасіў ён.— Бо якраз я ўсё гэта натварыў. — Павярнуўся, пасунуў руку пад падушку і дастаў адтуль невялікі згортачак. — Жэня, Юля налета канчае дзесяць класаў і, відаць, паедзе ў горад. Я хачу тое-сёе падарыць ёй на абновы.— Падаў дрыготкаю рукаю.

— Не трэба, Васіль,— шчыра сказала. — Па-першае, яна не возьме гэтых грошай, а па-другое, мы цяпер не без капейкі. Косця любіць Юлю, нічога ёй не шкадуе. Як і для свайго дзіцяці.

— Я разумею,— засаромеўся, нават нездароўча паружавеў.— Але хай бы была ёй памяць.

— Тое, што ты сказаў нядаўна, найлепшая памяць,—адказала Жэня. — А грошы аддай Петраку і Люсі.

Васілёва рука аслабела, апусцілася на коўдру. Жэня, адчуваючы, што настала хвіліна развітацца, паднялася, падышла і пацалавала яго ў шчаку. Ад нечаканасці ён нават не варухнуўся.

— Ну, будзь здароў,— прамовіла.— Гані прэч хваробу, думай пра жывое.

— Дзякуй табе, добрая душа,— усміхнуўся, пазіраючы на яе з любасцю.— Пагаварылі — і мне стала нашмат лягчэй.

— Ну то і добра,— падбадзёрыла яна, махнула рукой і хуценька, глытаючы салёныя слёзы, падалася з пакоя.

4

Неўзабаве, калі выпаў першы малады снег, Васіль памёр.

Разам з іншымі адпраўлялі яго ў апошні шлях Жэня і Юля. Спачатку яна, Юля, была пахмурная, блізка не падыходзіла да труны, да нябожчыка, нават чужанілася людзей, але на могілках, калі труну з бацькам апусцілі ў глыбокую сырую яміну, прытулілася да маці і заплакала. Ужо не дзіцячымі, а сталымі слязьмі. Ад страты нялюбага, але роднага чалавека.

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ



# З кнігі «Краса дзён»

## Прыйшлі...

Усім ахвярам і героям Чарнобыля

Як верыў я вяснова і ашчадна,
мая Айчына верная, табе!..
Сягоння перад памяццю нашчадкаў
схіляюся ў жалобе і жальбе.

Не сон, не сон!.. Не прывідныя жахі.
Не міражы... ў акне і на сцяне —
аблокі, як атрутныя вужакі,
сівыя птушкі ў чорнай сіняве.

А за сцяною — боязна спазніцца! —
гарлае зноў чарговы «марафон».
Ад стадыёна да маёй бальніцы
запаланіў усе дарогі ён.

...Яны ж прыйшлі, яны прыйшлі аднойчы,
прыйшлі і сталі ля маіх дзвярэй
агні і цені той злачыннай ночы,
аблічча ўсіх ашуканых людзей.

Яны ішлі тым палыновым шляхам,
які не зарасце і праз гады,
які не стане дабрадзейным прахам, —
бацькі і дзеці, сёстры і браты!..

І вось яны, героі і ахвяры,
спыніліся натоўпам у дзвярах.
Пякельна ззяюць попельныя твары,
нямы дакор у спаленых вачах.

Палескі край, Пасожжа, Прыдняпроўе!
Пытацца буду, бо не спыніш час,
якою — грэшнай ці нявіннай! — кроўю,
хто апраўдае ў будучыні нас.

Ды верыцца надзейна і вяснова,
як гэтай вечна нерушнай траве,
што залатое слова Багаслова
ланцуг хлусні-маўчання разарве;
што гора адбаліць, боль адпалае,
сустрэнуць рэха нашы галасы...

Нядарма па-над Прыпяццю кувае,
канаючы — зязюля — ад расы...

## Хараство

У. МАЛЕЕВУ

Заўжды хараство нас натхняе і радуе:
то сонцам ліецца яно, то ліўнямі...
Любуемся мы сяміколернай радугай
і адчуваем сябе шчаслівымі.

Сем фарбаў — сем радасцяў дорыць
прырода.
Яны немаўля і дарослага вабяць.
О, як ты прыгожа, суквецце народа,
дзе тысячы радуг, дзе тысячы фарбаў!..

## Веліч Максіма

I

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок...
М. БАГДАНОВІЧ.

Пра што ні думаю цяпер,
пра што ні гавару, —
край благаслаўлёны,
да цябе
схіляю галаву.

Тут — ані сябра, ні радні,
у галасах адчай;
мігцяць халодныя агні
ў расхрыстаных вачах.

З грашамі ты — сам д'ябла друг!
Хоць у трубу трубі —
ляцяць жыўцом з наіўных рук
рублі, як вераб'і.

Няма рублёў — глухі, нямы,
каціся ў бруд і пыл...
Тут нават кветкі, як дамы, —
ўсе на адзін капыл.

Усе кудысьці — угрунём!
Куды, каму нясуць
свой тлум бязладны,
бляск і гром,
бяссонна-сіні сум!..

Пра што ні думаю цяпер,
пра што ні гавару, —
мой родны краю,
да цябе
схіляю галаву!

II

Паломаны жыццём, чакаючы магілы...
М. БАГДАНОВІЧ.

Як ні чакаем смерці мы,
яна заўжды прыходзіць рана.
І думкі аб магіле раняць,
як ні чакаем смерці мы...

Таму што жыць наканавана,
шапчу-пішу сярод зімы:
«Як ні чакаем смерці мы,
яна заўжды прыходзіць рана».

III

...Хай судны час настане, —
Спакойна Музе ён і проста ў вочы
гляне.
М. БАГДАНОВІЧ.

Прыслухайся, Маці-краіна,
як скрушна — каторы ўжо год!..
Зямля прыняла свайго сына,
Зямля блаславіла ў палёт.

Максімаву веліч мусова
нам словам азначыць — якім!
Ды слоўнік бяссільны, бо слова
няма адпаведнага ў ім.

Ёсць «вечная бухта» ў паэта,
спакою паэту няма...
Нябесным агнём абагрэта
ягонае Музы імя.

## Пра сціпласць

Самалюбства чынушы, слава,
махляроў кіраўнічы сверб
нас чамусьці хвалююць слаба:
«Ах, не трэба! Не наша справа...»
Тыя ж лезуць настырна ўверх.

Забаўляюць жартоўным глупствам,
мякка ляпаюць па плячы...
Самалюбства не самагубства,
слава іхняя не распуста —
мы як быццам тут ні пры чым.

І спрытняк-гаварун асіплы,
і лагодненькі кар'ерыст
драбязою навокал сыплюць;
мы ж рахманыя, мы — за сціпласць;
нам — хоць сціплая, ды карысць!

Хіжакі наступаюць дружна,
нажываюцца пакрысе...
Наша сціпласць — сястра двурушша,
тое ж самае раўнадушша,
костку ўдачы чужой грызе.

Беларусь, як бязлюдна-млосна
ад тваіх забаронных зон!..
Ашуканаму спіцца моцна.
Праўдзейнае паўнамоцтва —
сёння самы злачынны сон.

Безгалосыя ці нямыя,
на падставе якіх заяў
будуць нашы сыны — чыімі;
што мы ў спадчыну ім пакінем,
каб дашчэнту народ не звяў!

Вораг вытне знянацку ў спіну,
здраднік можа прадаць за грош...

Ну, а сціпласць, якою слынны
суайчыннік і ўнук Скарыны,
ненавіджу ў сабе найбольш!

## Натоўп

О, як мне страшна прычакаць той дзень:
я стаў шматком бязлікае істоты,
што ў судны час дрыжыць, маўляў —
лістота...
Я ўжо не чалавек, я — нечы цень!

І мысль мая, падхопленая ветрам,
як дыму слуп, — развеяна ў паветры...

Узбударажыць, апантае кроў
ідэя страху... Як агонь па дрэве,
яна памкне мой клопат без патрэбы;

бо чым шчыльней раз'ятраны натоўп, —
прастору больш жаданням ваяўнічым
і лік ахвяр нявінных павялічан...

Не ў час пагас маіх надзей экран:
ні плахі, ні сярмягі, ні адвагі...
Не так, не так паранены арлан
глядзеў увысь, канаючы ад смагі!

Да аблачыны, з лёду і завей,
цягнуўся ён упартымі вачамі...
А я ж, нібы вясёлы салавей,
спяваў, хоць быў дазвання развянчаны.

Ды час мінуў! Стамлёнаму арлу
няма жадання лётаць над Басфорам...
Мне ж — вольны вецер цвеліць галаву,
свавольны птах кіруецца па зорах!

Крыляць яму ў бок светлай стараны —
на покліч-гук мелодыі зямное,
дзе цень — ад жаўруковае струны,
напятай між Айчынаю і мною.

# Чацвёрты сярод першых

**Рыскі да партрэта Расціслава ЯНКОЎСКАГА**

Трохі дзіўнаватае спалучэнне — чацвёрты сярод першых — тлумачыцца зусім проста. Я гавару пра артыста Рускага драматычнага тэатра Беларусі Расціслава Янкоўскага. Прызнаннем ён карыстаецца шырокім! Можна сказаць, Расціслаў Іванавіч даў жыццё славутай сучаснай дынастыі Янкоўскіх — у тэатры і кіно. Дастаткова прыгадаць ягонага брата Алега, які ўзрушае сусветнага кінагледача ў «Крэйцаравай санаце» і ў «Настальгіі», альбо збірае аншлагі ў маскоўскім Ленкоме М. Захарава. Ды і Расціслаў Янкоўскі колькі год сваімі ролямі ўпрыгожвае рэпертуар рускай сцэны ў Мінску.

Я не буду затрымлівацца на тых ролях артыста, якімі ён заваёўваў сімпатыі мінчукоў, хоць спектаклі «Двое на арэлях», «Варшаўская мелодыя», «Антоній і Клеапатра» заслугоўваюць самых высокіх водгукаў тэатрала. Растлумачу, чаму я называю яго «чацвёртым». Раней на рускай сцэне Беларусі бліскуча выступалі тры ягоныя папярэднікі. Незабыўны Уладзімір Кумельскі, мастак з вулканічным тэмпераментам Аляксандр Кістаў і таленавіты майстар псіхалагічна-карункавых малюнкаў на падмостках Дзмітрый Арлоў. Маю на ўвазе акцёраў-мужчын. Вядома, да памянёных імёнаў я мог бы дадаць вельмі таленавітых Яўгена Карнавухава і Алега Шкапскага, Георгія Някрасава і Рыгора Качаткова, Яўгена Палосіна і Юрыя Сідарава... Але мушу падкрэсліць: маштаб мастакоўскай адоранасці і высокая асабістая патрабавальнасць да кожнага свайго выхаду на сцэну ў Р. Янкоўскага нагадвае тое, што мне запомнілася толькі па трох вяршынях артыстычнага мастацтва, што названы вышэй.

Адну ролю я магу параўноўваць па розных яе выканаўцах такой адметнай сілы — Ягора Булычова. Гэты вобраз У. Кумельскі ўвасабляў у той ідэалагічнай атмасферы, што панавала ў мастацтве ў 30-ыя гады. Сакавіта і з вялікім душэўным болем раскрываў дзіўнае для самога Ягора Булычова адчуванне, што жыве гэты заможны купец «не на сваёй вуліцы», што нібыта чужы ён свайму класу і пыніць свае мільёншчыкавыя справы амаль насуперак сваёй волі і свайму прызначэнню! Сам ён цягнецца ў іншы класавы лагер — да дачкі Шуркі, да дзівака Трубача, да бунтаўшчыкоў... Атрымлівалася гэта і маляўніча, і зразумела...

Глядзеў «Ягора Булычова і іншых» М. Горкага ў Рускім тэатры Беларусі. Быццам бы тэкст п'есы той самы, як і абставіны сцэнічнага жыцця героя, як і паводзіны людзей з Ягоравага асяроддзя. Ды ён нешта нейкі... «не такі». Я сказаў бы так: Ягор Булычоў Р. Янкоўскага пільна прыслухваецца да тых удараў грамадскага землятрусу, якіх пакуль што ніхто так востра не адчувае. Хваравіта і дапытліва ўглядаецца ў людзей, якія мітусяцца вакол яго, адны — чакаючы ягонай смерці (і спадчыны), другія — спадзеючыся на яго сілы і адраджэнне, трэція — адкрыта змагаючыся за ягоныя сімпатыі. Дзе ж яго ўласнае месца? У чым сэнс ягоных пакут і намаганняў? Ягоных выбрыкаў правінцыяльнага грашовага дзялка і гарэзлівых учынкаў чуллівага самадура?

А мо гэта толькі прывід сапраўднага жыцця?

То амаль па-юнацку лёгка, то па-старэчы цяжка Булычоў узыходзіць па прыступкі лесвіцы, блукае па пакоях вялікага дома, падоўгу застаецца сам-насам з сабою — і ўсё думае трывожную думу. Патрэбны рускім людзям цар ці ён і ёсць галоўны паразіт? Патрэбны... Гаспадар... Начальнік... Правадыр?.. Без цара яны ж усе тут перасварацца і паб'юцца ў хаосе і суцэльным скандальным вэрхале!

Гарыць ягоны позірк, калі герой Янкоўскага ўглядаецца ў Мяланню або ў Паўліна, бо гэтыя нібыта служаць Богу, а Бог — ці ведае Ён, што такія ягоныя служкі вытвараюць тут, на грэшнай зямлі? Сам Ягор Булычоў ужо не верыць ім, бо ведае іхняе агіднае прыстасаванства і прагавітую сквапнасць...

І наўрымсліва вядзе спрэчку з людзьмі і з самім сабой гэты неардынарны купец, каб дайсці да пэўных высноў, каб наблізіцца да ісціны, пакутліва перажывае ад таго, што пасля галаслівага і вясёлага жыцця задумаўся над вечнымі пытаннямі аб сэнсе існавання адной чалавечай істоты ў бязмежным моры людскіх пакаленняў. Мучыцца і не мае сіл адступіцца ад дум.

Мяне вельмі ўразілі некаторыя сцэны спектакля. Асабліва дуэты Р. Янкоўскага з А. Клімавай (Мялання), з А. Ткачонкам (Паўлін), з Глафірай (З. Асмалоўлоўская), з Ксеніяй (В. Краўчанка), з Шуркай (А. Цвяткова). У адных ён шукае суцяшэння і спачування, у іншых спрабуе абудзіць сумленне, да трэціх ставіцца адкрыта пагардліва, як да канчаткова сапсаваных грашыма і ашуканствам.

Адзін у родным доме. Адзінокі да жудасці... Гэткі правінцыйны кароль Лір, што настроіў самога сябе на неадчэпнае жаданне пазнаць праўду, якой ён не разумее на схіле свайго зямнога жыцця.

Маляўнічы і самабытны атрымаўся Булычоў у Мінску на пачатку 80-х гадоў.

«Макбет»...

Глядзеў спектакль з Р. Янкоўскім двойчы. Спярша ён мяне захапіў і ўразіў парадаксальнай натуральнасцю памкненняў гэтага ўладалюба, апантанага неадольным імкненнем узняцца на каралеўскі трон. Было такое ўражанне, быццам Р. Янкоўскі ўпэўнены, што прырода дала нешта незвычайнае ягонаму герою і абуджае ў ім адчуванне свайго законнага права на пасад. Гэта асабліва адчувалася, калі ў першым акце трагедыі Макбет пасля перамог над ворагамі караля Дункана нечакана сустракае на дарозе старых вядзьмарак і тыя прадказваюць будучыню, прарочаць яму, пераможцу, каралеўскі сан. Павагаўшыся, Макбет пачынае верыць у сваё вышэйшае прызначэнне.

Прасветлены пераможца, ён у другім акце трагедыі амые рукі крывёю караля Дункана, нібы выконваючы загад лёсу, загад з неба. Не, то не «загад», то першы крок злачынцы, апанаванага дэманам уладалюбства. Макбет паглыбляецца і паглыбляецца ў жахлівыя лабірынты душэўных пакут, робячы злачынства адно за адным.

Калі ледзі Макбет, натхніцелька і першы дарадчык ужо караля Макбета, вар'яцее, дык сам герой Янкоўскага побач з ёю толькі выглядае «нармальным» чалавекам. Па сутнасці ж памкненняў і ўчынкаў ён у палоне сваёй маньяцкай прагі бязмежнай улады.

Палонны натуральнага для яго пачуцця ці таксама вар'ят?

Вось пытанне, на якое артыст разам з Шэкспірам і рэжысурай Б. Луцэнкі шукае адказу, зацягваючы залу ў вір супярэчлівых і страшных страсцей, што спакушаюць таленавітую ад прыроды асобу.

А ці можа таленавітую асобу апанаваць усемагутнае зло?

У чым яно?

Герой Р. Янкоўскага зайздросціць па-свойму шчасліваму на троне Дункану. Зайздросціць бездакорна сумленнаму сябру Банко. Зайздросціць моцнаму духам Макдуфу... Тым самым зайздроснік ужо выносіць гэтым людзям асабіста канчатковы прысуд: ім не жыць...

А сам ён? Ці ж можа ўсцешыць Макбета тое, што ў фінале жыцця яму адкрыецца не надта светлая выснова: нібыта наогул жыццё людское — гэта казка, якую пераказвае дурны або блазан... І тым дурным або блазнам лёсу зрабіў сябе сам Макбет.

Калі я паглядзеў «Макбета» другі раз, нешта ў спектаклі змянілася. Што ж менавіта? Гутару з маім сябрам Б. Бур'янам, які добра ведае творчае аблічча Р. Янкоўскага. Прыходзім да згоды: Расціслаў Іванавіч пасталеў. Жывую прагу ўлады, з якой ён жыў у спектаклі раней, цяпер змяніў страх перад сапернікамі-спадчыннікамі, перад спаборнікамі. І тыя ж Дункан, Банко або Макдуф больш уяўляюцца Макбету Р. Янкоўскага надакучлівымі перашкодамі да шчаслівага панавання ў каралеўстве, на якое адзін ён мае права. Зацята і паслядоўна бойны баярын знішчае гэтыя «перашкоды». Падман і крывадушша, правакацыя і забойства «з-за вугла», паклёп і крывавая помста — які жудасны арсенал Макбетавай прагі ўлады! І ўсё — каб паспець, пакуль ёсць сілы, каб хутчэй дамагчыся мэты, каб утрымаць здабытае. Бо гады няўмольныя і неўзабаве нават такому разумнаму і пачварна вынаходліваму венценосцу надыдзе час ісці ў іншы свет, як і кожнаму з зямных смяротнікаў...

Цікава! І вельмі па-мастакоўску распрацавана, магчыма, самая складаная роля з напісаных Шэкспірам. Гісторыя аб тым, як добры і разумны чалавек спакваля робіцца пачварай-вылюдкам, увасоблена ў жывым і гарачым па сваіх пачуццях тэатральным абліччы.

І яшчэ адна роля Р. Янкоўскага — Пётр Вялікі ў спектаклі паводле рамана Д. Мярэжкоўскага «Хрыстос і Антыхрыст». Нешта сапраўды царскае, сапраўды велічнае ў гэтай імпазантнай фігуры ўспрымаеш адразу ж, як адкрываецца заслона. Нават па вонкавых рысах Р. Янкоўскі ў гэтай ролі блізкі да партрэтнага падабенства да знакамітай гістарычнай асобы. Ды яшчэ большае ўражанне робіць яго ўнутраны свет — не па-царску хісткі і раптоўна рашучы, помслівы і жорсткі.

Шчасліва адораны Р. Янкоўскі здольнасцю інтанацыйна так перадаваць персанальную адметнасць вобраза, што нават пералівы ягонага голасу, тэмпераментнае напаўненне маналогаў і рэплік, фанетычныя фарбы — не адно толькі даніна акцёрскаму пераўвасабленню ў новы вобраз. Інтанацыйная адметнасць робіцца ў Р. Янкоўскага, я сказаў бы, цялеснай гукавой сутнасцю постаці героя. Таго Пятра яшчэ і не бачыш, а толькі чуеш — і ўжо здагадваешся, якім гневам кіпіць ягоная душа, якімі ахвярамі пагражае, што задумала...

Тры такія супярэчлівыя характары зроблены Р. Янкоўскім па вышэйшых эталонах мастацкай творчасці. Асабісты роздум артыста пра рэчаіснасць, пра мінулае і пра сучаснае арганічна пераплятаецца з ягонымі сцэнічнымі ўвасабленнямі. Таму ён вельмі імпануе мне. Самаадчуванне мастака ў прыватных умовах штодзённасці і ў вялікім кантэксце часу-гісторыі заўсёды вылучае сапраўдных буйных талентаў. Такіх, як У. Кумельскі, А. Кістаў, Д. Арлоў і Р. Янкоўскі ў трупе Рускай драмы ў Мінску.

...Калі я зрабіў партрэт Расціслава Іванавіча, каля яго разгарэліся спрэчкі. Адны кажуць, што такім сумным ад перажытага яны Янкоўскага ніколі не бачылі. Іншыя пагаджаюцца, што такім ён бывае толькі ў хвіліны адзіноты, у інтымнай атмасферы, але гэта не варта «выносіць» на публіку. Трэція такім яго бачылі толькі зрэдку на сцэне.

Усе яны кажуць нешта справядлівае.

Я ж у супольных з ім гадзінах размоў і ўспамінаў адчуў Р. Янкоўскага вельмі засмучаным тым, што наогул чалавек, на яго думку, не такі ўжо і варты любові. Як жа тады мож-

# Сунічнік на Кудзінавым полі

(Пачатак на стар. 5).

на свае вочы бачыў, і тым, што вымушаны быў пісаць на старонках «Звязды». Дарэчы, менавіта вопыт работы ў «Звяздзе» быў — у значнай ступені — прычынай гэтых сумненняў, бо пераконваў, што ўся дзейнасць гэтага галоўнага органа ЦК КПБ заснавана на хлусні, і не проста на хлусні, а на хлусні натхнёнай, на нейкім істэрычным самазахапленні журналістаў сваёй адданасцю партыі, — узяць хоць бы прыклад, звязаны з «разанскім цудам». Калі Разань здзівіла ўсю краіну шматкратным павелічэннем вытворчасці мяса і першы сакратар Разанскага абкома Ларыёнаў атрымаў за гэта званне Героя Сацыялістычнай Працы, «Звязда» накіравала ў Разанскую вобласць свайго спецыяльнага карэспандэнта, журналіста Сідара Конанава — для пераймання вопыту і яго прапаганды на старонках газеты. Сідар Арцёмавіч вярнуўся з Разані глыбока ўзрушаны, з выпуленымі вачыма: «Хлопцы, гэта сапраўды «цуд!» У тым сэнсе, што ўсё гэта — туфта, грандыёзная авантура! На самай справе ніякага рэальнага павелічэння вытворчасці мяса няма — яны там проста пусцілі пад нож усё пагалоўе, у вобласці засталіся пустыя хлявы, у тры разы ўзрослы статак існуе толькі на паперы! Жах!» Але гэты жах не перашкодзіў Сідару Конанаву напісаць пра разанскі «цуд» цэлы газетны разварот — дзве паласы ўзнёслай, пафаснай маны, падмацаванай рознымі выкладкамі, графікамі, дыяграмамі, якія адлюстроўвалі «нечуваныя дасягненні разанскіх калгаснікаў у галіне жывёлагадоўлі, чарговы трыумф калгаснага ладу». Вядома ж, «пад мудрым кіраўніцтвам камуністаў вобласці, яе абласнога камітэта на чале з таварышам Ларыёнавым!» А калі маладыя, яшчэ не вышколеныя як след звяздоўскія журналісты спыталі ў Сідара Арцёмавіча, як ён мог напісаць нешта зусім адваротнае тэму, што бачыў сваімі вачыма, ён толькі ўздыхнуў: «Я —салдат партыі».

Я ўжо не хацеў быць «салдатам партыі», прыйшоў да думкі, што не буду ў яе ўступаць. Душа і розум, адурманеныя ледзь не з пялюх рэлігіяй бальшавізму, прачыналіся, і дзіўна, ніякавата было ўсведамляць, што гэта я быў тым ідэйна-прыпадачным хлапчуком-партызанам, які страляў у Міхася Гаспера за нядобрае слова пра калгасы, тым юнаком, які захлынуўся ад гневу на дзядзьку, сказаўшага: «Твой Ленін мужыка падмануў!» І хоць страшна яшчэ было дадумваць усё да канца, сказаць сабе самому, што не толькі калгасы, а наогул «усё гэта — туфта, грандыёзная авантура», хоць я і спрабаваў яшчэ апраўдваць тое, што казаў, наведаўшы Вадапой, Павел Кудзін, прыходзіла ўжо разуменне таго, што яго вуснамі выказвае сваю думку народ, што народ — гэта не абстракцыя, а менавіта яны: і Павел, і Міхась Гаспер, і той дзядзька, і Вольга Сымонаўна і цётка Анюта, і цётка Юля, і Змітер Іванавіч, і Макар Туронак, — Макар Туронак, пра якога немагчыма тут не расказаць.

Макар даводзіўся сваяком Змітру Іванавічу, быў жанаты на яго роднай сястры Аляксандрыне. Жылі яны ў Вадапоі, дзе я з ім і пазнаёміўся. У той час гэта быў дзядзька ўжо ў гадах, але яшчэ дужы, з маладымі, хітрымі вачыма, чорны, што цыган, хоць і сівы — небагатая яшчэ сівізна толькі падкрэслівала смаляную чарнявасць чупрыны і барады. Вялізныя, цяжкія, парэпаныя рукі з зацвярдзелымі мазалямі, непаспешлівыя, запаволеныя рухі, нібы чалавек робіць усё ў нейкай задуменнасці, нібы з лянотай, аднак атрымліваецца ўсё надзейна, трывала, як мае быць: і касу адаб'е так, што робіцца як агонь, і сякеру на тапарышча насадзіць так, што не зляціць, пакуль тое тапарышча не спарахнее, і нават цыгарку махорачную так скруціць, што і каліўца з яе не высыплецца. Здавалася б, звычайны вясковы дзядзька — руплівы, працавіты, цягавіты, але звычайны. Аднак Макар быў незвычайны. Незвычайны тым, што ніколі не быў калгаснікам. Пад раскулачванне ў гады «вялікага пералому» ён не падпаў, лічыўся не тое каб бедняком, але і не серадняком — недзе на мяжы серадняцтва і беднацтва. Ды кім бы ён там ні быў, уступіць у калгас адмовіўся катэгарычна. І застаўся адзіным калі не на ўсю Міншчыну, дык на ўсю Каладзішчанскую акругу аднаасобнікам. Бог ведае, чаму яго не пасадзілі ні тады, ні нават у трыццаць сёмым. Можа, трымалі для ілюстрацыі невыноснага аднаасобніцкага жыцця: кавалак зямлі быў у яго не той, што да калектывізацыі, а недзе ў чорта на балоце, спецыяльна адвялі як найдалей ад вёскі і найгоршы. І падаткамі душылі, і штрафамі, каб адчуў сябе ваўком, абкладзеным з усіх бакоў чырвонымі сцяжкамі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, каб здаўся нарэшце. А ён не здаваўся. І не зваўчэў. Араў свой няўдзячны надзельчык, гадаваў дзяцей, неяк адкупляўся, адбіваўся ад бязлітаснай дзяржавы. На што спадзяваўся? На тое, што калі-небудзь скончыцца «дурасць гэтая, калгасы гэтыя, чорт іх прыдумаў!» У сорак першым, калі прыйшлі немцы, сустрэў іх без радасці, аднак і не варожа. І хоць ягоную зямлю яму не вярнулі (немцы, як вядома, не дужа спяшаліся распускаць калгасы), Макару ўсё ж удалося прыдбаць добры кавалак каля самых Калодзішчаў, пачаў гаспадарыць пры «новым парадку». Ясна, што і немцам плаціў падатак, і не малы, але галоўны быў наперадзе, той, які давялося заплаціць пасля акупацыі. Дарма, што не быў Макар пры немцах ні старастам, ні «самаахоўцам», ведаць не ведаў ніякай палітыкі, што жыў толькі сваёй гаспадаркай, аднолькава цураючыся і паліцаяў і партызан, — на гэты раз яго «замялі», і апынуўся Макар там, куды цялят не ганяў! Адбухаў «срок» за «суп-

на прысвяціць сябе мастацкаму ўвасабленню аблічча чалавека, спытаў я ў яго. І пачуў у адказ:

— Шчыра скажу, Заір Ісаакавіч, чалавек — у ідэале — можа і сапраўды створаны падобным да боскага ўзору. У рэчаіснасці ж ён нясе ў самім сабе і дабро і зло. Зайздрасць і помслівасць. Прагавітасць і няўтольную прагу да ўлады, да багацця, да славы... Толькі пэўныя законы і нормы маралі памагаюць яму ўтаймоўваць пажадлівыя памкненні. А ці часта?.. Ці паспяхова?.. Ці з прыемнасцю для сябе?.. Утаймоўвае ён тую ж прагавітасць? Пытанне і пытанне! Азірнёмся вакол сябе, прыгадаем тое, што робіцца цяпер на абшарах нашай краіны. Мы з вамі ніколі раней і не падазравалі, што выхаваны ў духу калектыўнай маралі наш чалавек... партыйны дзеяч... камсамольскі важак.. здольны на такія бесчалавечныя ўчынкі... Як хутка авалодваюць метадамі бессаромнай спекуляцыі шаноўныя спадары!.. А задума Вялікага Творцы і сапраўды была прыгожай: стварыць чалавека, каб само імя «Чалавек» гучала ганарова... Пакуль што такое здараецца надта ж рэдка...

Што яшчэ падахвочвае мяне гаварыць пра гэтага артыста ўзрушана, дык гэта ягонае стаўленне да пэўнай таямнічасці чалавечай душы. Каго б ён ні выводзіў на сцэну, заўсёды штосьці дарэшты неразгаданае ў самім феномене чалавека застаецца. У адных выпадках жудасна - таямнічае (той самы Макбет), у другіх — прываблівa-загадкавае, прыцягальнае і прыхаванае ў глыбіні сэрца (у многім такі яго Пётр Першы). Як сказаў некалі славуты рымлянін Пліній Старэйшы, адзінае, што бясспрэчна, што няма нічога бясспрэчнага і што чалавек — самая нікчэмная і адначасова самая цудоўная з усіх існуючых істот. Мабыць, прапусціўшы «праз сябе» каля двухсот роляў, жывучы жыццё кожнага з персанажаў, артыст такога таленту сам робіць сумныя і ў значнай ступені слушныя высновы. Прынамсі, пасябраваўшы з Р. Янкоўскім, я ў гэтым пераканаўся.

Што ж, і гэтыя разважанні дапытлівага мастака могуць спрыяць творчым адкрыццям. Прыклад Р. Янкоўскага — яркі прыклад гэтага. Асабліва ў трох сцэнічных вобразах — Ягора Булычова, Макбета і Пятра Першага.

Я пакінуў у скульптурным партрэце сумнаваты выраз твару ў задуменнага артыста.

**Заір АЗГУР.**

**МУЗЫКА**

# НАСТАЎНІКІ, ВУЧНІ, ПРАБЛЕМЫ...

У творчым жыцці баяннай школы Беларусі — падзея. Асаблівасць яе ў тым, што шматлікія дасягненні нашых выдатных выканаўцаў прадоўжылі дзеці. Гэта чатырнаццацігадовы Аляксандр Пылік з Брэста (клас выкладчыка В. Шыманоўскага) і выхаванцы Музычнага ліцэя пры БДК — вучань 5-га класа Павел Неўмяржыцкі (клас дацэнта І. Атраднава), васьмікласнік Дзмітрый Атраднаў (клас дацэнта В. Чабана) і вучань 7-га класа Іван Каламыцаў (таксама выхаванец І. Атраднава).

Аляксандр Пылік і Павел Неўмяржыцкі сталі лаўрэатамі, а Дзмітрый Атраднаў ды Іван Каламыцаў атрымалі званне дыпламантаў на Міжнародным конкурсе баяністаў і акардэаністаў у Клінгенталі (ФРГ). Як вядома, гэта вельмі прэстыжны штогадовы конкурс, спаборніцтвы на якім праводзяцца па чатырох узроставых катэгорыях. Прадстаўнічае журы, у складзе якога былі аўтарытэтныя музыканты-педагогі ды выканаўцы з Расіі, Польшчы, Іспаніі, Францыі, Чэха-Славакіі, узначальваў сёлета прафесар Георг Рэйдзіс (Германія).

Менавіта з Клінгенталя пачынаўся шлях міжнароднага прызнання беларускіх выканаўцаў-баяністаў. Тут у 1982 г. асістэнт-стажор выканаўчага факультэта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ігар Атраднаў атрымаў званне лаўрэата і трэцюю прэмію. Для маладога музыканта, а таксама для ягонага настаўніка, прафесара Міхаіла Рыгоравіча Солапава, перамога была нялёгкай. І ўспрымалася яна на той час як падзея, што зрабіла найвялікі ўплыў на станаўленне і творчую працу многіх беларускіх музыкантаў, асабліва з асяроддзя «народнікаў». Мо і невыпадкова, што сярод сёлетніх юных лаўрэатаў і дыпламантаў двое — Павел Неўмяржыцкі ды Іван Каламыцаў — вучні І. Атраднава.

Уладальнік II прэміі ў другой узроставай катэгорыі (з 12 да 15 гадоў) — Аляксандр Пылік. Яшчэ да конкурсу ён меў пэўныя дасягненні. Стыпендыят Расійскага (былога ўсесаюзнага) фонду «Новыя імёны», стыпендыят Беларускага і абласнога фондаў культуры; займаецца ў сектары педагагічнай практыкі Брэсцкага музычнага вучылішча. Паводле водгукаў дасведчаных слухачоў, яго выканаўчаму амплуа ўласцівыя захопленасць, яскравы тэмперамент.



«Пагартаем» новы твор... Дзіма АТРАДНАЎ з педагогам В. ЧАБАНОМ. Фота А. ПРАКАПЕНКІ.

Дзіма Атраднаў (дыпламант конкурсу) займаецца ў класе Валянціна Чабана амаль тры гады. Адданасць справе, высокі прафесіяналізм Валянціна Аляксеевіча выявіліся ў розных галінах: акрамя педагагічнай працы ў класе па спецыяльнасці, ён кіраваў аркестрам баяністаў, спалучаў дырыжорскую дзейнасць з выканаўчай. Многія колішнія студэнты памятаюць яго выдатнае сола ў «Канцэртным ронда» для баяна з аркестрам М. Чайкіна. Сапраўднай падзеяй было выкананне В. Чабаном Канцэрта М. Чайкіна для баяна з сімфанічным аркестрам (1971 г., дырыжор У. Андропаў). Праца В. Чабана з Дзімам Атраднавым дала плён яшчэ ў 1990 г., калі юны музыкант стаў лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу імя І. Жыновіча.

Сёння адавочны прафесійны рост Д. Атраднава, узровень складанасці ягонага рэпертуару адпавядае патрабаванням ВНУ. На конкурсе ў Клінгенталі ён выканаў трохчасткавы канцэрт «Зіма» з цыкла «Поры года» А. Вівальдзі, арганную прэлюдыю і фугу Сі-бемоль мажор І.-С. Баха, Музычныя ілюстрацыі да рамана Ільфа і Пятрова «Залатое цяля» (у сямі частках) Я. Дзярбенка, Варыяцыі на тэму ўкраінскай народнай песні «Ехаў казак за Дунай» Я. Грыдзіна і абавязковы твор нямецкага кампазітара К. Шваена «Балгарскія ўражанні».

Проста шкада, што толькі нямногія з твораў беларускіх кампазітараў для баяна, зважаючы на іх мастацкі ўзровень, можна ўключыць у рэпертуар. А цікавая дзіцячая музыка ў гэтай галіне — увогуле праблема! І гэта пры тым, што многія члены Саюза кампазітараў Беларусі ў мінулым — самі баяністы...

Аднак, нягледзячы на відавочны дэфіцыт беларускага рэпертуару, усе выканаўцы ўключаюць у праграму разам з класічнай музыкай (прынамсі, паліфаніяй і буйной формай) творы сучасных аўтараў, апрацоўкі народных мелодый і абвязковы конкурсны твор, што вымагае выяўлення рознабаковых якасцей у тэхніцы валодання інструментам і, зразумела, інтэлектуальнага патэнцыялу.

Баян — інструмент складаны. Выключна ўсе нашы выканаўцы валодаюць шматтэмбравымі канцэртнымі інструментамі з «выбарнай» сістэмай і чатырох-пяціраднай правай клавіятурай. Ды, на жаль, не ўсе яны маюць магчымасць займацца на ўласных баянах, бо кошт інструмента дасягае на сёння 120 тыс. рублёў і больш. Нават Музычны ліцэй не здатны забяспечыць інструментамі для заняткаў самых лепшых вучняў. Ну, а што датычыць самой паездкі на конкурс — аддадзім належнае энтузіязму бацькоў нашых юных пераможцаў, бо дзяржаўнымі ўстановамі гэта вандроўка не фінансавалася.

Але не хацелася б засяроджваць увагу толькі на праблемах. Выкладчыкі В. Шыманоўскі, В. Чабан, І. Атраднаў ды іх выхаванцы даюць добры прыклад адданасці справе і любові да музыкі, за што ім вялікі Дзякуй! Упэўнена, гэта не апошняя іх перамога.

**Ларыса ЖЫВАЛЕЎСКАЯ,**
**выкладчык МІКа.**

рацоўніцтва з нямецка-фашысцкімі акупантамі». Пра лагер, у якім сядзеў, казаў: «Ат, той самы калгас!» Парадак жорсткі, але ж дурны! Во, глядзі: бушлаты зэкаўскія і боты, ну, тыя, што ўжо мяняць трэба, спісвалі. Але як! Далі мне сякеру, паставілі каля чурбана вялізнага і загадалі, каб я тыя бушлаты сякерай сек, псаваў нават яшчэ і спраўныя, а ў ботаў, каб мысы адсякаў! Не дурасць? Замест таго, каб каму аддаць ці прадаць тое, што яшчэ зусім спраўнае,— сапсаваць усе трэба для спісвання. Во як! Я, праўда, некалькі параў ботаў схаваў, і бушлатаў колькі. Як вызваліўся, прывёз. І цяпер яшчэ ў тых ботах тупаю. Во, бачыш?»

У тыя часы, пра якія тут гаворка, Макар працаваў вартаўніком на саўгаснай плантацыі пацісонаў (здаецца, саўгаса «Волма»),—«пацяфонаў», як ён іх называў. «А дзядзька Макар ці еў гэтыя пацісоны? Смачныя?» «Чорт іх еў!—адказвае. — Але грошы за вартаўніцтва плацяць. Хоць усё адно палова згніе—і пацяфонаў гэтых, і астатняе. Што ў калгасе, што ў саўгасе—дурасць, безгалоўе. Бо ўсё нічыё—ні тваё, ні маё. А калі нічыё, дык гары яно ўсё агнём! Але і тое праўда, што, калі падумаць, дык гаспадары ёсць, гэтыя, з партхвелямі. Ім гэта выгадна, яны ж камандуюць, яны нічыю кашу дзеляць—табе лыжку, а сабе чарпак, табе мяса крышку, а сабе кумпяк!»

Вядома, дзядзька і не падазраваў, што ў гэтай сваёй фармуліроўцы ён паўтарае выказванне югаслаўскага дысідэнта, «рэнегата і рэвізіяніста», як яго ў тыя часы называлі, Мілавана Джыласа, які ў сваёй кнізе «Новы клас» напісаў, што камуністы, прыйшоўшы да ўлады, ставяцца да ўсенароднага багацця так, нібы яно не належыць нікому, але распараджаюцца гэтым багаццем такім чынам, нібы яно належыць толькі ім— размяркоўваюць нічыё ў сваю карысць. І мяне, чалавека, які нядаўна ўпотай прачытаў «Новы клас», не магло не ўразіць, што Макар Туронак, амаль непісьменны, цёмны, як кажуць, селянін, прыйшоў да таго ж вываду, што і высокаадукаваны вучоны марксіст. Што ж, да гэтага вываду дзядзьку падвёў звычайны здаровы сэнс.

Аднойчы я спытаў у Макара, ці спадзяецца ён яшчэ на тое, што калі-небудзь адмовяцца ад калгасаў, аддадуць зямлю ва ўласнасць селяніну? Ён сказаў спакойна: «Я не дажыву. А дзецям маім гэта ўжо і не трэба—яны ж у горадзе даўно. Калі б нават тое і сталася—не вярнуліся б. Ды і не думаю, каб гэтыя, з партхвелямі, тое зрабілі. Яны самі сабе не ворагі».

Не памыліўся Макар Туронак. І я ўспомніў гэтыя яго словы, свае размовы з ім, і Міхася Гаспера ўспомніў, і таго дзядзьку з канём па мянушцы Фрыц, калі — упершыню за шэсцьдзесят год калгаснага ладу—на дзяржаўным узроўні паўстала пытанне аб яго мэтазгоднасці, яго жыццёвасці, калі глядзеў па тэлевізары трансляцыю пасяджэння Вярхоўнага Савета БССР у снежні 1990 года, на якім народны дэпутат СССР, пісьменнік Алесь Адамовіч звярнуўся да дэпутатаў з заклікам, каб яны прынялі закон аб прыватнай уласнасці на зямлю, каб зямля зноў, нарэшце, стала належаць яе спрадвечнаму гаспадару—селяніну. І ўвесь прадстаўлены ў Вярхоўным Савеце корпус старшынь калгасаў, увесь корпус кіруючых сельскай гаспадаркай наменклатуршчыкаў у знак нязгоды падняліся і пакінулі залу пасяджэнняў, паказаўшы Алесю і ўсім нам свае магутныя спіны, свае каменныя патыліцы, свае памешчыцкія каркі. О, спіны, патыліцы і каркі могуць быць больш красамоўнымі, чым словы! Асабліва калі словы абясцэніліся, калі няма ім ніякай веры. Тады—спіной да трыбуны, з якой гучыць голас часу, голас здаровага сэнсу. Так—спіной да здаровага сэнсу, спіной да патрабаванняў жыцця—стаяць яны і па сённяшні дзень, «усе гэтыя, з партхвелямі», і сёння яны ўсё яшчэ гугняць пра «нявыкарыстаныя магчымасці калгасаў», пра іх «усё яшчэ нявыяўленую патэнцыю», пра тое, што «толькі калгасы могуць накарміць народ», «трэба толькі даць ім магчымасць разгарнуцца, праявіць ініцыятыву», а каб яны маглі разгарнуцца, дзяржава яшчэ раз павінна спісаць з іх усе даўгі і забяспечыць сельгастэхнікай. І тады яны за год-два завеляць матухну-Беларусь прадуктамі. Ці не гэтак жа, як некалі Разань завеліла мясам увесь Савецкі Саюз?

Можа, хопіць? Бо няма ўжо ніякіх аргументаў на карысць створанага бальшавіцкімі утапістамі калгаснага ладу, акрамя, хіба што, самага «красамоўнага»—карабіна, за які схапіўся некалі ідэйна-прыпадачны хлопчык-партызан.

Вядома, «за калгасы» не толькі старшынёўскі корпус, не толькі былая камуністычная наменклатура, але і тысячы простых вясковых людзей, якія прызвычаіліся, прыстасаваліся да «гэтай дурасці», навучыліся жыць у асноўным са сваіх сотак, аддаючы калгасу адчэпнае: мы так-сяк пасеем, а горад хай убірае, хай пасылае на жніво і «на бульбу» войска, студэнтаў разам з прафесарамі, урачоў і электроншчыкаў, юрыстаў і камвольшчыкаў, хай дзяржава праз кожныя пяць год спісвае з калгасаў даўгі і дае новыя трактары, каб трактарыст Ваня за бутэльку абганяў і нашыя соткі. Потым, напіўшыся, ён зваліцца разам з трактарам у якую-небудзь яміну, дзе гэты трактар і з'іржавее, але ў нас ад гэтага галава не баліць: не сваё— калгаснае! У тым і жах калектывізацыі, што яна зрабіла абсурд нормай, ненатуральным, алагічным чынам зацікавіла ў рэшце рэшт не толькі гультая і п'янюгу, але і працавітага чалавека, разбэсціўшы яго калектыўнай безадказнасцю за вынікі калектыўнага гаспадарання. І — забіла ў ім селяніна, зрабіла люмпенам.

О, так! Ёсць калгасы-«маякі», бо якая ж імперыя без паказухі, без «пацёмкінскай вёскі»,без штучнага, падсілкаванага шчодрымі сродкамі, кінутымі «на ідэю», разанскага ці бранскага, маскоўскага ці мінскага «цуда»! Ды сёння, калі імперыя ляснула, няма, думаецца, іншага шляху наперад, акрамя вяртання ад калгаснага сялянства да проста сялянства. Да таго сялянства, чые сядзібы зараслі за шэсцьдзесят год, дзе бур'янам, дзе вольхай, дзе сунічнікам. Суніца, вядома, салодкая ягада, але што яна без хлеба і сала, без малака і мяса, без бульбы і грэчкі? Ласункам народ не накорміш...

**У лістападзе г. г. мае адбыцца акадэмічная канферэнцыя па праблемах правапісу. Якімі будуць яе вынікі — цяжка меркаваць. Гутарка, што дагэтуль вялася па розных аспектах развіцця мовы, мела спарадычны характар, не была разлічана на прыняцце канкрэтных дзяржаўных рашэнняў. Пэўныя пытанні таму не высветлены як след, патрабуюць удакладненняў. Артыкул Леаніда ЛЫЧА, у якім разглядаюцца палітычныя ўмовы рэформы правапісу 1933 года, можа запоўніць некаторыя інфармацыйныя прагалы.**

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук.

# МОЎНАЯ РЭФОРМА 1933 ГОДА: ІДЭАЛАГІЧНЫЯ АСПЕКТЫ

**На сёння мы маем даволі багата публікацый па тэме, якую дзесяцігоддзямі не адважваліся закранаць на старонках навуковай літаратуры, у перыядычным друку. Тэма гэта — рэформа беларускага правапісу 1933 года. У друку часцей за ўсё выступалі па ёй вучоныя-філолагі. Так што лінгвістычны аспект больш-менш поўна асветлены. Але ў данай праблемы, на маю думку, ёсць і яшчэ адзін не менш важны аспект — сацыяльна-палітычны, ідэалагічны, без разгляду якога цяжка зразумець, чаму пры рэфармаванні правапісу часам так рэзка разыходзіліся пазіцыі вучоных-філолагаў, майстроў мастацкага слова толькі з-за якой-небудзь адной літары.**

**Гэтыя аспекты рэформы правапісу беларускай мовы не існавалі ізалявана адзін ад аднаго, таму як бы я ні імкнуўся падыходзіць да яе толькі з сацыяльна-палітычнага, ідэалагічнага боку, усё ж даводзілася там-сям закранаць і чыста філалагічныя пытанні. Пішу «закранаць», бо для глыбокага асвятлення і аналізу іх у мяне адсутнічае прафесійная падрыхтоўка: у беларускай мове маю толькі сямікласную адукацыю. Таму загадзя прашу прабачэння ў спецыялістаў за магчымыя памылкі, а чытач хай паставіцца крытычна да тых месцаў, дзе вядзецца, пэўна ж, дылетанцкая гаворка аб унутраным развіцці самой беларускай мовы.**

## Салідны пачатак

Набыццё беларускай мовай неўзабаве пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі статуса дзяржаўнай, афіцыйнае прызнанне, што ёй, як мове пераважнай большасці насельніцтва рэспублікі, належыць самы шырокі спектр сацыяльных функцый, паставілі на парадак дня задачу аб яе ўнармаванні. За час, калі на беларускай мове сталі пісаць мастацкія творы і навуковыя працы, весці службовае справаводства, заняткі ва ўсіх тыпах выхаваўчых і навучальных устаноў, добра высветлілася, што яна, каб найлепш спраўляцца з выкананнем такога шырокага дыяпазону функцый, патрабуе даволі значнага марфалагічнага, фанетычнага і лексічнага ўпарадкавання. У нашай літаратурнай мове існаваў значны разнабой у напісанні слоў, што перашкаджала ёй быць надзейным сродкам зносін між людзьмі, паспяхова спраўляцца з ускладзенымі на яе ў сувязі з ажыццяўляемай палітыкай беларусізацыі сацыяльнымі функцыямі. Рэформа беларускага правапісу станавілася гістарычнай неабходнасцю, да яго рыхтаваліся з усёй сур'ёзнасцю, прыслухоўваліся да кожнай слушнай прапановы.

Першым буйным мерапрыемствам на гэтым шляху стала правядзенне 14—21 лістапада 1926 года ў Мінску па ініцыятыве Інбелкульта акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу. Яна выклікала да сябе вялікую цікавасць не толькі вучоных рэспублікі. У ёй бралі ўдзел рэктар Літоўскага дзяржаўнага універсітэта прафесар Біржышка, латышскі паэт Ян Райніс, прафесары М. Фасмер (Берлінскі універсітэт), Ю. Галомбек (Варшаўскі універсітэт), П. Растаргуеў (Маскоўскі універсітэт), Гарчынскі (Ленінградскі універсітэт), дацэнты Німчынаў (Харкаўскі універсітэт), Е. Блесе (Латвійскі універсітэт). А вось Польшча на канферэнцыю не пусціла нават аўтара першай граматыкі беларускай мовы Б. Тарашкевіча. Пазіцыю ўрада не падтрымалі многія польскія вучоныя, а таксама газета «Кур'ер Віленьскі». У перадавым артыкуле «Мядзведжая палітыка» ад 24 лістапада 1926 года яна пісала, што ў «палітычных адносінах польскі ўрад зрабіў сабе шкоду ў поглядах на нас (палякаў.— **Л. Л.**) Еўропы, а таксама ў поглядах на нас беларускага жыхарства тут (г. зн. у Польшчы.— **Л. Л.**) і за кардонам».

Амаль усе замежныя госці мелі тое ці іншае дачыненне да беларускай мовы. Праўда, ніхто з іх не валодаў апошняю ў такой ступені, каб выступаць на ёй на канферэнцыі. Большасць звярталася да слухачоў па-руску. На рускай мове выступаў нават П. Растаргуеў, які, як вядома, у 1918 годзе чытаў у Беларускім народным універсітэце ў Маскве курс лекцый па беларускай мове.

Хочацца падкрэсліць і такую асаблівасць канферэнцыі, як удзел у ёй вядомых прадстаўнікоў беларускай культуры, што па розных прычынах апынуліся ў іншых краінах. Гэта — рэдактар часопіса «Крывіч» (Коўна) В. Ластоўскі, рэдактар газеты «Голас Беларуса», старшыня Беларускага навуковага таварыства Латвіі К. Езавітаў, старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Літве Галавінскі, рэдактар часопіса «Прамень» (Прага) У. Жылка.

На адрас канферэнцыі паступілі 23 прывітанні, у т. л. з Вільні ад Таварыства Беларускай школы (старшыня Р. Астроўскі), Таварыства палітычных эмігрантаў Заходняй Беларусі (Масква), Беларускага (Крывіцкага) Культурнага Таварыства (Прага), Савета нацыянальных меншасцяў (Масква). Як бачым, патрэба ў навядзенні парадку ў маладой беларускай літаратурнай мове добра разумелася не толькі яе законнымі носьбітамі, але і шырокімі коламі сусветнай грамадскасці.

У працы канферэнцыі бралі ўдзел 69 чалавек. Але не ўсе яны лічылі абавязковым рэформу беларускага правапісу і азбукі. Сярод іх быў і добры знаўца беларускай мовы С. Некрашэвіч. «Наша літаратурная мова,— гаварыў ён,— кансалідаваўшы народныя гутаркі, вырасла ўжо ў сталы арганізм, які не патрабуе над сабой грунтоўных... опэрацый». Такі погляд у пэўнай ступені мог сфармавацца на базе яго сяброўскіх адносін з аўтарам «Беларускай граматыкі для школ» Б. Тарашкевічам, якую якраз і збіраліся рэфармаваць удзельнікі канферэнцыі і перш за ўсё Я. Лёсік, які меркаваў выступіць з асноўным дакладам. С. Некрашэвіч выказаўся за поўнае адхіленне праекта братоў Лёсікаў.

Удзельнікі канферэнцыі паказалі добрае веданне сутнасці праблемы моўнага развіцця ў рэспубліцы ў святле нядаўна абвешчанай беларусізацыі. Цяжкасці яе вырашэння справядліва бачылі ў неспрыяльных умовах далёкага мінулага. «Беларусам,— гаварыў прафесар БДУ В. Дружчыц,— прыпала будаваць сваю навуку, будаваць сваю навуковую мову ў XX стагоддзі, у той час як іншыя народы займаліся гэтым ужо ў XVI—XVII стагоддзях. Беларусь у гэтых адносінах займае бадай што адно з апошніх месц». Аднак такое становішча з беларускай мовай не палохала яе шчырых рупліўцаў. Яны былі ўпэўнены, што шляхам старannай працы па ўнармаванні правапісу можна будзе пастуnова давесці яе да ўзроўню старых літаратурных моў, забяспечваючы гэтым самым росквіт нацыянальнай культуры. Верыў у гэта і Ян Райніс. «Мне здаецца,— гаварыў ён,— што беларускі народ, які меў ужо высокую культуру ў той час, калі ў нас не было яшчэ ніякай культуры, гэты народ хутка дасягне культуры агульнаеўрапейскай і зойме віднае і пачэснае месца ў сям'і іншых народаў. Ваша будучыня самая слаўная». Нямецкі прафесар М. Фасмер бачыў у «канферэнцыі з'явішча, якое вядзе да незвычайнага вырашэння нацыянальнага пытання».

Абгрунтавана паказаў значэнне роднай мовы ў адраджэнні беларускага народа дацэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі Г. Гарэцкі. Падкрэсліваючы вострую неабходнасць стварэння навуковай тэрміналогіі, ён адзначаў: «Факт дзяржаўнага будаўніцтва Савецкай Беларусі павінен быць падмацаваны... утварэннем навуковай беларускай мовы, самастойнай беларускай навукі. Толькі тады будзе цалкам запоўнена гістарычная гама будаўніцтва беларускай фразы».

Непасрэдна сам філалагічны аспект парадку дня канферэнцыі пачаў разглядацца толькі з падрабязнага, аргументаванага выступлення С. Некрашэвіча. Ён не быў прыхільнікам карэннай ломкі моўнай спадчыны, заяўляючы, што ў складзенай Б. Тарашкевічам «Беларускай граматыцы для школ» правільна вызначаны асноўныя законы беларускай літаратурнай мовы». Затое ў сінтаксісе ім бачылася «шмат неўласцівых для беларускай мовы канструкцый пабудовы сказу». Прамоўца выказаў занепакоенасць наплывамі ў беларускую лексіку слоў (асабліва абстрактнага значэння) з іншых моў і стаяў за ўтварэнне такіх на базе ўласнага слоўнікавага матэрыялу з паступовай заменай усяго таго чужога, што набралася ў беларускай мове. «Тэндэнцыя да замены чужаземнай стыхіі сваёю,— гаварыў С. Некрашэвіч,— не ёсць толькі з'явішча беларускай культуры». І з гэтым нельга не пагадзіцца, ведаючы, якая мэтанакіраваная праца праводзілася многімі народамі па ачышчэнні сваіх літаратурных моў ад залішніх запазычванняў. Без такой працы не абысціся і сённяшняму корпусу філолагаў нашай рэспублікі, калі мы жадаем узняць прэстыж беларускай мовы як дзяржаўнай у вачах яе носьбітаў.

Выходзяць на праблематыку сучаснай беларускай мовы і такія словы С. Некрашэвіча: «Патрэбна, каб наша літаратурная мова па магчымасці была блізкай да ўсіх нашых дыялектаў, каб яна з'яўлялася агульнай для іх... Нашым агульным імкненнем павінна быць адзінства беларускай мовы, бо гэты фактар пераважна і азначае адзінства народа». Не сакрэт, што выкарыстаннем у аптымальных суадносінах мясцовых дыялектаў мы не толькі ўзбагацім нашу дзяржаўную беларускую мову, але і зробім яе больш блізкай і зразумелай для носьбітаў такіх дыялектаў.

Яшчэ глыбей унікнуў у сутнасць разглядаемай на канферэнцыі праблемы Я. Лёсік, які азнаёміў прысутных з канкрэтным праектам па рэформе беларускай азбукі. Гэта ўжо было не першае выступленне Я. Лёсіка па дадзенай праблеме. Першы даклад па ёй з'явіўся ў 1923 годзе, з якім меў магчымасць пазнаёміцца і масавы чытач у газеце «Савецкая Беларусь». У адрозненне ад С. Некрашэвіча Я. Лёсік лічыў, што беларуская азбука «не адпавядае ўва ўсіх пунктах гукавому пісьму... не мае ўласнага твару», таму ён прапанаваў набліжаць яе да гукавога пісьма, «каб не абярнуць яго ў такое мёртвае і труднае для навучання, якім з'яўляецца пісьмо французскае або ангельскае».

Апанентаў у Я. Лёсіка аказалася больш, чым прыхільнікаў. Беларускую азбуку вырашылі не кранаць. Цікавым будзе адзначыць, што Б. Тарашкевіч, А. Луцкевіч, І. Дварчанін, Я. Станкевіч, якім польскі ўрад не дазволіў прыехаць на канферэнцыю, пагадзіліся з Я. Лёсікам толькі па двух пунктах: увесці літару «j» і спецыяльны значок для замены афрыкатаў «дз» і «дж». Пра гэта ўдзельнікам канферэнцыі паведаміў С. Некрашэвіч.

Гэтак жа крытычна ішло і абмеркаванне праекта Я. Лёсіка аб рэформе беларускага правапісу. Сутнасць свайго погляду Я. Лёсік выказаў так: «...каб пісьмо было простае і лёгкае, дзеля гэтага яно не павінна разыходзіцца з жывым вымаўленнем слоў». Таму ён не пагаджаўся з Б. Тарашкевічам, што той фанетычны прынцып увёў толькі пры напісанні галосных гукаў. Самыя істотныя папраўкі Я. Лёсіка, якія выклікалі найбольш спрэчак, былі: увядзенне поўнага акання і на чужаземныя словы, адмена напісання «ь» паміж падвойнымі зычнымі (жыцьцё — жыццё), пасля «з» і «с» (зьвер — звер, сьнег — снег). Пасля грунтоўнага абмеркавання напісанне «а» ў ненаціскных складах іншаземных слоў зацвердзілі, што нельга не прызнаць за правільнае рашэнне. Для прыняцця яго, бясспрэчна, важную ролю адыграла цвёрдая пазіцыя сакратара Правапіснай камісіі Мялешкі, што «кожны народ вымаўляе чужаземныя словы згодна сваёй уласнай нацыянальнай акцэнтацыі», і С. Некрашэвіча, які оканне ў замежных словах разглядаў як супярэчнасць адзінству народнай і кніжнай мовы. «Калі запазычанае слова,— гаварыў ён,— дапасуецца да вымаўлення народа, то яно робіцца словам яго мовы». І далей: «Оканне ў чужаземных словах парушае наш асноўны фанетычны прынцып правапісу галосных...»

Затое адразу высветлілася, што ў Я. Лёсіка будзе вельмі мала аднадумцаў у дачыненні да мяккага знака. Першым вельмі цвёрдую апазіцыю ў гэтым заняў С. Некрашэвіч, спасылаючыся, што і ў старабеларускай мове выкарыстоўвалі «ь» у словах снег, звер і інш. «Можна многа павыкідаць значкоў,— гаварыў ён,— і дайсці ўрэшце да кітайскай азбукі, але ж гэта не заслуга азбукі. Азбука і правапіс тады добрыя, калі яны па магчымасці азначаюць кожныя гукі, ва ўсякім выпадку характэрныя з іх. А што нашыя мяккія зычныя, асабліва свісцячыя, гукі характэрныя, аб гэтым і гаварыць не прыходзіцца».

С. Некрашэвіча цалкам падтрымаў П. Растаргуеў, заявіўшы, што «напісанне звер, дзвёх, мядзведзь, свет, цвет, судздзя, жыццё, ралля, чытанне без «ь» будзе мець вынікам усваенне няправільнага вымаўлення падобных слоў. Спасылка на іншыя мовы беспадстаўная; напрыклад, у расійскай мове мае месца мяккае вымаўленне некаторых зычных, але пры адсутнасці азначэння мяккасці пры напісанні яна губляецца ў жывым вымаўленні пісьменных людзей, і ў значнай большасці даводзіцца чуць цвёрдае вымаўленне... Паказанне ў граматыках на вымаўленне гэтых зычных не выратуе становішча». На думку і І. Бялькевіча, ад неўжывання «ь» паміж падвойнымі мяккімі зычнымі траціцца асаблівасць беларускай мовы.

Увагу ўдзельнікаў канферэнцыі прыцягнула правіла напісання «у» і «і» пасля галоснага папярэдняга слова. Вельмі катэгарычным тут быў П. Растаргуеў, сцвярджаючы, што калі ў такіх выпадках зазначаныя літары не пісаць як нескладовыя, «значыць сцерці ў пісьмовай перадачы беларускай мовы адну з найбольш характэрных яе асаблівасцей». З ім пагаджаўся П. Бузук, спасылаючыся тут на ўкраінскі вопыт, дзе нават «і» нескладовае пішуць у пачатку слова, калі папярэдняе канчаецца на галосны. Удзельнікі канферэнцыі не пагадзіліся з такой прапановай у дачыненні да «і».

Пры такой саліднай гаворцы на канферэнцыі аб маючай неўзабаве адбыцца рэформе правапісу беларускай мовы не магло не ўзнікнуць і пытанне аб ужыванні лацінскага алфавіта. Сярод праціўнікаў яго былі і такія выдатныя знаўцы беларускай мовы, як В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, П. Растаргуеў. Так сталася, што першымі бралі слова для выступлення праціўнікі лацінкі. Найбольш рашуча адхіляў яе В. Ластоўскі: «Паложаная ў аснову крывічанскай (беларускай) пісьменнасці кірылаўская азбука... пры рэформе, а не рэвалюцыі не вымагае замены на якую-колечы іншую (скажам, лацінскую) азбуку. Пераход бязмала тысячалетняй крывічанскай пісьменнасці на другую азбуку — гэта «царскае сячэнне», на якое можа наражаць толькі хворы аб'ект, калі ён знаходзіцца паміж жыццём і смерцю. Здаровы арганізм нашай пісьменнасці не можа наражаць на непатрэбную яму «аперацыю», бо гэта аслабіла б малады і поўны энергічнага ўзросту арганізм, прывяло б яго да немінучага цяжкага занападу, і да неаблічальных у выніках камплікацый».

Але дух талерантнасці, які панаваў на працягу ўсёй канферэнцыі, даў магчымасць смела выступіць і ў абарону лацінкі. Пераканаўча адстойваў яе П. Бузук: «...надыходзіць час падумаць аб лацінцы; безумоўна, да гэтага справа дойдзе; мы еўрапізуемся, мы прынялі новы стыль, мы прынялі дзесятковую сістэму мер, нам застаецца зрабіць апошні крок — перайсці да лацінкі».

Асаблівым клопатам удзельнікаў канферэнцыі з'яўлялася ачышчэнне беларускай мовы ад залішніх уплываў з боку рускай. І гэта зразумела: атрымаўшы статус дзяржаўнай, беларуская мова не магла болей заставацца на ўзроўні сапсаванай рускай мовы. На пазіцыях сапраўднага пурытаніна ў гэтым пытанні трывала стаяў В. Ластоўскі. Фанетычныя адступленні ад народнай мовы, на яго думку, выкліканы перш за ўсё запазычаннем рускай абацэды (алфавіта). Датычыла гэта і дыфтонгаў уо (юю-іоу), ые (іе), якія складаюць адну з асаблівасцей беларускай мовы. Замена дыфтонгаў «адной літарай расійскай абацэды,— гаварыў В. Ластоўскі,— з'явішча штучнае і надта шкоднае для захавання натуральнай чыстаты мовы». Дзякуючы такой замене людзі гаворАць па-

крыўску, але з маскоўскім акцэнтам. Яго зусім не задавальняла, што ў беларускім правапісе фанетычная перадача захоўваецца толькі ў канчатках слоў (зрабіў, валоў), а іх карані пішуцца па-расійску (звон замест звуон). «У выніку гэтага наша старая і самабытная мова... выглядае правінцыяльным дыялектам расійскай мовы, а гэтае апошняе з'яўляецца перашкодай адраджэнню нашай пісьменнасці». На яго думку, «не толькі ў слове, як змесце народнай мыслі, але і ў форме гэтага слова, у кожным паасобным гуку яго ці злучэнні гукаў адбіваецца гісторыя народа». Таму трэба «дасягнуць таго, каб нашы словы, формы і гукі на пісьме былі адбіццём гісторыі нашай пісьменнасці, гісторыі крыўскага, а не расійскага ці польскага народаў, сярод моваў якіх наша пісьменная мова выглядае цяпер, як толькі правінцыяльная адмена...»

Спецыяльна не бралі слова на канферэнцыі Янка Купала і Якуб Колас. Але вядома па выніках паіменнага галасавання і іншых крыніцах, што яны былі супраць таго, што канферэнцыя прыняла прапазіцыю С. Некрашэвіча пісаць «я» толькі ў першым складзе перад націскам і пакінула без змяненняў напісанне «не» і «без», калі яны стаяць асобна (г. зн. не падлягалі яканню). Я. Колас стаяў за пашырэнне якання і ў другім складзе пасля націску, за напісанне «німа», «ніхай», быў супроць ужывання «а» замест ненаціскнога «о» ў чужаземных словах.

Адстойваючы свае погляды, удзельнікі канферэнцыі хоць зрэдку, але ж здраджвалі плюралізму, спрабавалі прычапіць адзін аднаму ярлык. Не змогшы абараніць сваю канцэпцыю, Я. Лёсік зусім беспадстаўна завочна дакараў Б. Тарашкевіча, што ён «зрабіў наш правапіс шарадаю, ад якой стогне наша школа». Не меў ён падстаў і на такую заяву: «...калі мы не зробім рэформу ў нашым правапісе і азбуцы... цяпер, то дапусцім праступленне перад маладым пакаленнем».

Усе дні, пакуль доўжылася канферэнцыя, яна была ў цэнтры ўвагі самых розных станаў беларускага народа, што дало падставы старшыні Інбелкульта У. Ігнатоўскаму ў сваім заключным слове заявіць: «Мы не забылі беларускай мовы, чаго баяўся Багушэвіч... Мы павінны вызначыць вялікую зацікаўленасць працамі Канферэнцыі з боку шырокіх рабоча-сялянскіх мас Беларусі. Нашы пасяджэнні заўсёды мелі шмат гасцей, асабліва вечарамі. Некаторыя з іх прасілі нават слова. Газеты нашы, у якіх апісвалася дэтальна праца Канферэнцыі, чыталіся нарасхват і пасля прачытання хаваліся ў прыватных бібліятэках».

## Рэформа — паддаўкі русіфікацыі

З рознымі пачуццямі і настроем пакідалі людзі канферэнцыю. Адных яна радавала сваімі вынікамі, другіх — засмучала. Але як першыя, так і другія добра ўсведамлялі, што наперадзе іх яшчэ чакае вялікая праца, каб ачысціць беларускую мову ад усяго таго, што было не ўласціва яе ўнутранай прыродзе, каб зрабіць яе ва ўсім адпаведнай так нядаўна набытаму статусу дзяржаўнай. І вопытныя беларускія мовазнаўцы актыўна ўзяліся за гэтую высакародную справу. Аднак адчувалася, што з кожным годам рабілася ўсё цяжэй і цяжэй праводзіць карысныя ідэі ў жыццё. З распачатай у канцы 20-х гадоў барацьбой з т. зв. беларускім нацыянал-дэмакратызмам да ходу працы па падрыхтоўцы новага правапісу раптам выказалі вялікую зацікаўленасць асобы, прафесійны статус якіх не меў нічога агульнага з праблемай мовазнаўства. Пэўны ўплыў імкнуліся рабіць яны і на склад вучоных, што павінны былі далей займацца гэтай справай. І трэба думаць, што не абыходзілася тут і без выкарыстання матэрыялаў праведзенай у лістападзе1926 года Канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Па выступленнях на ёй партыйныя органы маглі скласці даволі поўнае ўяўленне аб палітычных пераконаннях кожнага. Асаблівую падазронасць выклікалі тыя, хто быў заклапочаны праблемай ачышчэння беларускай мовы ад русізмаў і ўвогуле ад уплыву на яе з боку рускай. Таму не дзіва, што ў ліку першых адхілілі ад далейшай працы над беларускім правапісам В. Ластоўскага і А. Лёсіка. Ужо ў снежні 1930 года пазбавілі звання акадэміка АН БССР Я. Лёсіка, а ў красавіку наступнага года выслалі за межы рэспублікі. Тады ж падобны лёс напаткаў і старшыню Правапіснай камісіі, віцэ-прэзідэнта АН БССР С. Некрашэвіча.

Можна было б прывесці і яшчэ шэраг фактаў, якія сведчаць, што ў той час адсутнічалі спрыяльныя ўмовы для завяршэння працы па складанні беларускага правапісу. Абмяжуемся хаця б такім. Ці ж маглі вучоныя-мовазнаўцы АН БССР усур'ёз клапаціцца пра захаванне і прымнажэнне народнай лексікі, калі ў выдадзенай у Мінску ў 1931 годзе кнізе «Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» С. Вальфсон пісаў, што ў калектыве гэтай навуковай установы ні чым іншым не займаюцца, як запаўненнем слоўнікаў пакрытымі плесенню вякоў, нікому не зразумелымі архаізмамі. Паводле яго фальсіфікацыі, «Нацдэмы лічылі сваёй важнейшаю задачаю вытравіць з беларускай мовы ўсякія элементы рускай мовы». Зразумела, цяпер ужо кожны, хто быў прыцягнуты да складання беларускага правапісу, імкнуўся — каб толькі не быць залічаным у «нацдэмы» — абавязкова ўнесці штосьці з рускай мовы ў беларускую, не задумваючыся, як гэта стасуецца да яе.

Партыйныя і савецкія органы рэспублікі нават не палічылі патрэбным дапусціць да працы над рэформай правапісу і аднаго з найбольш падрыхтаваных у галіне беларускай філалогіі вучонага Б. Тарашкевіча, «Беларуская граматыка для школ» якога ў 1929 годзе выйшла пятым выданнем. Сам аўтар яе з 7 жніўня 1933 года пасля абмену на Ф. Аляхновіча жыў у СССР, праўда, не ў Мінску, а ў Маскве пад пільным тайным наглядам спецслужбаў НКУС і працаваў у Міжнародным аграрным інстытуце, а не дзе-небудзь на філалагічным факультэце сталічных ВНУ ці ў АН СССР. Вучоны мог бы сказаць сваё аўтарытэтнае слова ў беларускай філалогіі і, не выключана, удалося б хоць крыху зменшыць хібнасць ажыццёўленай рэформы, пазбегнуць узнікнення двухварыянтнасці беларускай мовы ў межах Савецкай і Заходняй Беларусі.

Воляй лёсу дзень 26 жніўня 1933 года вельмі многае змяніў у жыцці беларускай мовы і разам з гэтым істотна паўплываў на агульны стан духоўнай культуры нашага народа. У той дзень СНК БССР без папярэдняга абмеркавання прыняў пастанову «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу», пра мэтазгоднасць якой вось ужо амаль шэсць дзесяткаў гадоў вядуцца спрэчкі. І, як высвятляецца, найбольшую інтэнсіўнасць і востры характар набываюць яны тады, калі ў грамадстве маюць месца працэсы дэмакратызацыі, робіцца крытычная ацэнка пройдзенага шляху ў галіне нашага духоўнага развіцця.

З філалагічнага боку праведзеная ў 1933 годзе рэформа беларускага правапісу, як адзначалася вышэй, даволі падрабязна асветлена, таму яшчэ раз спыняцца на гэтым аспекце няма патрэбы. Калі што і ўпушчана ў публікацыях апошняга часу, дык гэта глыбокі параўнальны аналіз адносна таго, дзе, у чым і як удалося ўрэзаць адметнасць, адмысловасць беларускай мовы за кошт сваімі падгонкі яе пад рускую. А без такога аналізу нельга даць правільнага адказу, чым стаўся для беларускай мовы і не забыты па сённяшні той жнівеньскі дзень 1933 года. Пакідаючы гэтае пытанне для спецыялістаў-філолагаў, скажу толькі ў самых агульных словах, што з увядзеннем новага правапісу беларуская мова была істотна набліжана да рускай, шмат у чым страціла сваю самабытнасць, а галоўнае — магчымасці супрацьстаяць асіміляцыі з боку апошняй. Свядомае, мэтанакіраванае набліжэнне да рускай мовы відаць хаця б з новага напісання наступных слоў: цвет замест цьвет, адпаведна снег — сьнег, з'есці — зьесці, гарадскі — гарадзкі, волжскі — волскі, кольцы — колцы, методыка — мэтодыка, клас — кляс, фізіка —фізыка, універсітэт — унівэрсытэт, комунізма — комунізму, метр — метар, фунт — хунт. У дачыненні да небеларусаў лічылася правільным ужываць толькі Іосіф, Нікалай, а беларусы маглі пры жаданні пісаць свае імёны Базыль і Васіль, Восіп і Язэп, Янка і Іван. Менавіта ад гэтага часу і пачалося перакручванне ў розных асабовых дакументах напісання самабытных, арыгінальных беларускіх імёнаў, у выніку чаго і тут прычынены вялікія страты ў нацыянальна-беларускім.

Фактам набліжэння правапісу беларускай мовы да рускай трэба лічыць дазвол на пашырэнне ўжывання ў першай дзеепрыметнікавых форм, напісанне не пад націскам «о» ва ўсіх інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных словах, напісанне «не» і «без» праз «е» незалежна ад націску наступнага за ім слова.

Асіміляцыйная накіраванасць рэформы 1933 года з'яўляецца яе галоўнай сутнасцю, дамінантай. Усё пазітыўнае ў рэформе — гэта мізэр у параўнанні з прычыненай ёю шкодай беларускай мове. Яна ў значнай ступені згубіла сваю мілагучнасць, стала мала абароненай ад рускамоўнай асіміляцыі.

Ідэалагічныя службы кампартыі не сумняваліся, што з прыняццем вышэйназванай пастановы СНК БССР не спыніцца гаворка пра гэтую зусім не простую для лёсу беларускага народа падзею. У рэспубліканскіх эшалонах улады разумелася, што патрэбны будуць дадатковыя крокі, каб угаманіць, утрымаць людзей ад вядзення далейшых спрэчак, выказвання магчымай незадаволенасці. Было вырашана аўтарытэтам саміх пісьменнікаў утаймаваць страсці непрыхільнікаў новага правапісу. І трэба сказаць, што многае тут удалося. Хаця і пішацца, што па ініцыятыве самога Інстытута мовазнаўства Беларускай акадэміі навук і Аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР навук праводзіўся па вечарах 11, 13 і 15 снежня 1933 года агульны сход пісьменнікаў Мінска, але ж, улічваючы той час і саму праблему, ёсць усе падставы сцвярджаць, што ініцыятыва правядзення такога сходу зыходзіла з больш высокіх інстанцый.

Па тагачаснай завядзёнцы сход мінскіх пісьменнікаў прыняў прывітанне «любімаму правадыру працоўных усяго свету» І. В. Сталіну. Пісьменнікі запэўнілі «правадыра», што будуць «бязлітасна змагацца з усялякімі класава-варожымі элементамі», цалкам пагадзіліся з логікай надта ж ужо папулярных сталінскіх тэзаў, што «праз росквіт нацыянальных культур і моў у перыяд дыктатуры пралетарыята» ўдасца стварыць вялікую «адну агульную сацыялістычную культуру і адну агульную мову перыяду перамогі сацыялізма ва ўсім свеце». Подпісы пад прывітаннем І. В. Сталіну размяшчаліся ў такім парадку: М. Клімковіч, Якуб Колас, Х. Дунец, Міх. Лынькоў, І. Харык, Я. Ліманоўскі, П. Броўка, Я. Браніштэйн, П. Галавач, Б. Мікуліч, М. Хведаровіч, З. Аксельрод, Андрэй Александровіч, І. Гурскі, С. Знаёмы, Ал. Кучар, К. Крапіва, Л. Кацовіч, М. Кульбак, В. Вольскі, Ар. Куляшоў, Я. Маўр, М. Блісцінаў, акад. І. Замоцін, Р. Мурашка, Л. Бэндэ, Г. Жаркі, праф. М. Піятуховіч. Як бачым, адсутнічаў толькі подпіс Янкі Купалы, бо яго не было на самім сходзе: якраз лячыўся ў Кіславодску. Але па прапанове ўдзельнікаў сходу ён 4 студзеня 1934 года накіраваў ліст у Беларускую Акадэмію Навук пад назвай «Што было сном, тое стала явай». Вось найбольш характэрныя вытрымкі з яго:

**«Стары правапіс, у якім не мела засмечанасці нацдэмаўскай «самабытнай» архаічнасці,— трымаў беларускую мову ў палоне правінцыялізма, у рамках нацыяналістычнай абмежаванасці. Рэформа правапіса... мае велізарнае палітычнае і гістарычнае значэнне.**

**Рэформа правапіса,— што я мушу з усёй цвёрдасцю падкрэсліць,— з'яўляецца велізарным, правільным і своечасовым актам барацьбы за культуру беларускай мовы па шляху пралетарскага інтэрнацыяналізма, пад сцягам якога толькі можа быць сапраўдны росквіт беларускай культуры...**

**Мяне зусім не дзівіць тое выццё, якое падняла супроць гэтай так патрэбнай пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына БССР і раз'юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызма, нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі.**

**Як і нацдэмы тут, так і нацыянал-фашысты ў Заходняй Беларусі: Луцкевічы, Станкевічы і г. д. служаць адзінай мэце — адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Союза і кінуць яе ў падняволле — сацыяльнае, нацыянальнае і культурнае — пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандарма, памешчыка, фашыста».**

Ліст Янкі Купалы заканчваўся словамі: «Я з вялікім задавальненнем і радасцю прачытаў прынятае на сходзе нашых пісьменнікаў прывітанне мудраму правадыру, незраўнанаму будаўнічаму новага светлага жыцця тав. Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну, і рад шчыра далучыць свой подпіс да гэтага сардэчнага прывітання».

Здаецца, «мацней» ужо і нельга было сказаць у падтрымку тых, хто распачаў і вёў крывавую барацьбу з найлепшымі, найбольш свядомымі станамі беларускай нацыі. У гэтым жа лісце народны паэт БССР Янка Купала выказаў спадзяванне, што ў нас з'явіцца гісторык, які напіша:

**Як знішчаліся цвёрдай рукою**
**Пралетару варожыя класы,**
**Як на фронтах ішоў бой за боем,**
**Як зброд ворагаў здаўся, не ўстояў**
**У тыя грозныя бурныя часы.**

І ў гэтым беларускі пясняр не памыліўся. Гістарычных прац, як знішчаліся «пралетарыяту варожыя класы», і сапраўды ў нас з'явілася нямала.

Акрамя прывітання І. В. Сталіну, падобныя пасланні ўдзельнікамі сходу былі накіраваны на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Гікалы і старшыні СНК БССР М. Галадзеда, партыйнага і дзяржаўнага кіраўнікоў Украіны С. Касіёра і П. Постышава. У першым з іх адзначалася, што «пастанова СНК аб рэформе беларускага правапіса стварае яшчэ большыя магчымасці для магутнага культурнага ўздыму і росквіту»; зрывае маску з беларускіх нацдэмаў і нацыянал-фашыстаў, якія «ў сваіх контррэвалюцыйных інтэрвенцкіх мэтах увесь час праводзілі шкодніцкую работу на мовазнаўчым і культурным фронце... імкнуліся пабудаваць штучны бар'ер паміж моваі і культурамі брацкіх савецкіх рэспублік РСФСР і БССР»; выказвалася задаволенасць, што Кампартыя рэспублікі «нанесла сакрушальны ўдар па беларускай контррэвалюцыі».

У пасланні на адрас кіраўніцтва суседняй Украіны гучаў заклік да апошняй ісці такім жа шляхам. «Беларускі буржуазны нацыянал-дэмакратызм,— пісалася ў лісце,— здрадні ўкраінскаму». Адсюль няцяжка зразумець, што і яго павінен напаткаць такі ж лёс, як беларускага. А пра яго гаварылася так: «Савецкая грамадскасць Беларусі пры актыўным удзеле сапраўдных савецкіх пісьменнікаў, якія безагаворачна сталі на платформу савецкай улады, пад мужным кіраўніцтвам КП(б)Б разбіла агентуру нацыянал-фашызма ў літаратуры, у мастацтве, у мовазнаўстве. Але вораг недабіты...

Савецкія пісьменнікі БССР добра разумеюць, што барацьба з буржуазным нацдэмакратызмам працягваецца, што абавязак кожнага сапраўды адданага справе пабудовы бяскласавага грамадства пісьменніка сваю зброю, сваю ненавісць абрушыць на рэшткі гібнучага класа, каб дабіць яго.

У тым, што пісьменнікі Беларусі будуць бязлітаснымі ў гэтай барацьбе з рэшткамі гібнучага класа, мы запэўняем працоўных Савецкай Украіны, запэўняем КП(б)У, запэўняем яе ЦК».

Цяжка сказаць, ці падліло гэтае прывітанне алею ў полымя барацьбы з нацыянальна самасвядомай часткай украінскага народа. Але мы ведаем, што і там барацьба была такой жа крывавай і бязлітаснай, як на Беларусі.

На сходзе выступілі ажно 18 пісьменнікаў. Першым узяў слова Андрэй Александровіч, у назве даклада якога «Класавая барацьба на мовазнаўчым фронце і рэформа правапіса беларускай мовы» найбольш за ўсё быў увасоблены сам дух скліканага сходу. Ваяўнічы характар мелі выступленні І. Гурскага «Ніякай літасці ворагу», М. Зарэцкага «Мова — зброя класавай барацьбы», К. Крапівы «Змаганне двух сістэм», М. Кульбака «На фронце яўрэйскай мовы — яшчэ арудуюць класавыя ворагі», А. Куляшова «Ускрыць маскіроўкі ворага».

Кожны з выступоўцаў лічыў сваім абавязкам перад партыяй і ўрадам як мага мацней стукнуць па «нацдэмах». Але найбольш уляцела ім ад Андрэя Александровіча. «Шкодніцтва нацдэмаў,— гаварыў ён,— з асаблівай сілай праводзілася на мовазнаўчым фронце. На гэты фронт беларуская контррэвалюцыя кінула, бадай, ці не самыя лепшыя свае сілы, і мовазнаўчыя ўстановы былі па сутнасці галоўнымі цытадэлямі контррэвалюцыйнай работы...

Нацдэмы ўводзілі ў сучасную беларускую мову архаізмы з літоўскай метрыкі, з слоўніка Берынды, з розных сярэдневяковых дакументаў, змагаліся за адрыў мовы ад жыцця, ад гаворак пралетарыята і працоўнага сялянства, рашуча выганялі з мовы элементы інтэрнацыяналізма, змагаліся супроць савецызмаў — слоў, народжаных пралетарскай рэвалюцыяй, супроць слоў аднародных з рускай моваю».

Вось такімі страшэннымі ворагамі маляваў асноўны дакладчык сходу многіх і з тых, хто па-сапраўднаму клапаціўся пра чысціню і самабытнасць мовы, пра што, дарэчы, дбаюць вучоныя мовазнаўцы ўсіх іншых народаў. Абвінавачванне ж «нацдэмаў», што

(Працяг на стар. 14—15).

(Пачатак на стар. 12—13).

яны былі супроць наплыву і ўжывання ў беларускай мове «слоў аднародных з рускай мовай», ужо да рэформы правапісу беларускай мовы і асабліва пазней было выкарыстана ў якасці падставы не толькі не перашкаджаць, а, наадварот, ва ўсім садзейнічаць гэтаму зусім *неапраўданаму* працэсу ў культурна-моўным развіцці беларускай нацыі. Прыхільнікаў такога працэсу, як пакажа далейшая практыка, найбольш было сярод работнікаў выдавецтваў, рэдакцый газет і часопісаў, якія цалкам апынуліся пад уладай партыйных органаў, а таксама сярод тых пісьменнікаў, журналістаў і вучоных-мовазнаўцаў, што імкнуліся сваімі творамі садзейнічаць збліжэнню беларускай мовы з рускай.

Паводле ацэнкі Андрэя Александровіча вядомы беларускі мовазнаўца Язэп Лёсік — гэта махровы нацдэм, а не менш слынны ў рэспубліцы вучоны В. Ластоўскі — белагвардзейскі нацдэм. Галоўная ж віна С. Некрашэвіча і М. Байкова заключалася ў тым, што яны ў выпушчаным слоўніку «засмечваюць мову архаізмамі, штучнымі словамі, ігнаруюць рэвалюцыйныя наватворы, арыентуючыся на мову шляхецка-кулацкіх колаў, на мову фашысцкай Польшчы». Лішнім было б тлумачыць, якая пагроза расправы навісала над гэтымі вучонымі пасля такога суровага публічнага абвінавачвання.

Моцна, хоць і несправядліва, папала за ўвядзенне ў літаратуру архаічных слоў, непатрэбных правінцыялізмаў, штучна выдуманых слоў У. Дубоўку, Я. Пушчу, А. Бабарэку, М. Лужаніну, Л. Калюзе, Ю. Таўбіну, якога А. Александровіч назваў паўпрэдам у «літаратуры буржуазнай кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі», У. Хадыку, Ю. Віцьбічу, ад мовы якога «нясе пахам сярэдневяковых палацаў».

Добра ўсведамляючы, што ў нацыянальнай палітыцы Цэнтра і падначаленых яму рэспубліканскіх дзяржаўных і партыйных органаў Беларусі ўзяты цвёрды курс на штучнае збліжэнне яе культуры і мовы з рускай, А. Александровіч не мог не падыграць гэтай палітыцы ў сваім дакладзе, менш за ўсё клапоцячыся пра праўдзівасць сваіх слоў. «Са звярынай нянавісцю,— гаварыў ён,— нацдэмы адносіліся да слоў аднародных з рускай мовай і да слоў рускага паходжання, якія ўліліся ў беларускую мову ў выніку пераможнага ходу пралетарскай рэвалюцыі, якія ўвайшлі ў культуру, у быт і сталі інтэрнацыянальнымі словамі, сталі словамі ўсіх народаў Савецкага Саюза. Некрашэвіч распінаўся ў змаганні супраць «рускіх, або складзеных па ўзору рускіх славечак», Ластоўскі заклікаў не ўжываць тых беларускіх слоў, якія маюць аднолькавае значэнне і аднолькава вымаўляюцца і ў рускай мове».

Вышэйшай ступенню контррэвалюцыйнай дзейнасці «нацдэмаў» дакладчык назваў іх прапанову перавесці беларускую мову на лацінскі алфавіт. Затое захаванне па тыпу рускага правапісу «о» ў інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных словах ахарактарызавана як сведчанне, што беларуская «мова ўздымаецца на новую вышэйшую ступень развіцця на шляху пралетарскага інтэрнацыяналізма». Прысутных на сходзе А. Александровіч запэўніў, што «набліжэннем правапісу беларускай мовы да іншых моў народаў Савецкага Саюза» абумоўлены яе далейшы рост; што «сучасны правапіс беларускай мовы з'яўляецца вострай зброяй у руках нашай партыі супроць ворагаў пралетарыята і калгаснага сялянства; што ён «з'яўляецца смяротным ударам па нацыяналістах».

Пачуўшы такое, наўрад ці можна было спакойна, развaжліва гаварыць па сутнасці самой рэформы правапісу ці яе першых выніках. Галоўным для кожнага прамоўцы з'яўлялася, як і заклікаў А. Александровіч, выкрыццё беларускага нацдэмакратызму. Не ўстрымаўся ад гэтай спакусы і Якуб Колас, які ўзяў слова другім. І ён заявіў, што «беларуская мова была тым галоўным плацдармам, той баявой пазіцыяй, з якой вялі свае атакі нацдэмакраты супроць дыктатуры пралетарыята...»

У маладастасаваным да разглядаемай праблемы выступленні І. Гурскага «добра» папала і нябожчыку У. Ігнатоўскаму, які характарызуецца «дэфензіўшчыкам... здраднікам, лютым ворагам дыктатуры пралетарыята». Гурскі не задаволены, што «мы вельмі часта займаемся гуманізмам у адносінах да тых, якія ўсімі мерамі імкнуцца прыцягваць варожыя нам творы», лічыць, што «дэкрэт СНК БССР аб спрашчэнні беларускага правапісу дае новыя небывалыя дагэтуль магчымасці ў справе развіцця беларускай мовы... хоць гэта толькі пачатак вялікай работы ў галіне беларускай мовы».

Мала чым адрозніваліся выступленні ўсіх астатніх удзельнікаў сходу. Пераконваюць у гэтым наступныя цытаты з прамоў:

**«Рашуча змагаючыся і з нацдэмамі, і з вялікадзяржаўнікамі, з вульгарызатарамі,— мы паскорым працэс сваёй мовы» (Кузьма Чорны).**

**«Рэформа правапісу—гэта новы крок у нашым пераможным наступе на стары свет, гэта чарговы ўдар па вольных і нявольных яго абаронцах. Не разумець гэтага, значыць не разумець той велізарнай ролі, якую адыгрывае мова ў класавай барацьбе пралетарыята з буржуазіяй, не разумець значэння мовы, як сродку, як моцнай зброі гэтай барацьбы» (Міхась Зарэцкі).**

**«...пытанне нашага дачынення да новага правапісу з'яўляецца для нас, савецкіх пісьменнікаў, пытаннем аб тым, наколькі мы падтрымліваем платформу савецкай улады» (Кандрат Крапіва).**

**«...пытанне мовы... з'яўляецца адным з вельмі важных сродкаў у нашым змаганні супроць нацдэмаў і нацыянал-фашыстаў.**

**Наша мэта ў справе культурнага будаўніцтва ўсямерна садзейнічаць развіццю культуры ўсіх народаў СССР... з тым, каб падрыхтаваць працэс усеагульнага зліцця ўсіх культур усіх народаў у адзіную культуру камуністычнага грамадства. Гэтай мэце павінна быць падуладна і наша праца над мовай» (Платон Галавач).**

**«Пастанова СНК аб спрашчэнні правапісу ўзбагачае нашу мову... збліжае да моў народаў Савецкага Саюза» (Мікола Хведаровіч).**

**«Новы правапіс... гэта толькі—першы крок да рашучага ачышчэння беларускай мовы ад нацыянал-дэмакратычнага бруду. Рэформа правапісу павінна ісці і надалей» (Аркадзь Куляшоў).**

**«...контррэвалюцыйную нацдэмаўшчыну мы будзем дабіваць рашуча, упэўнена і канчаткова на ўсіх участках культурнага і гаспадарчага будаўніцтва. І даб'ём!**

**Зменамі ў правапісе кладзецца вялікі пачатак для ачысткі беларускай мовы ад усяго нацдэмаўскага рыззя і смецця. Наша задача пачатую пачэсную справу прадоўжыць» (Рыгор Мурашка).**

**«Непрыкрытым убоствам гучаць некаторыя словы, створаны нацдэмамі ў іх звярыным імкненні абасобіць беларускую мову ад рускай» (Міхась Лынькоў).**

**«Мэтай рэформы беларускага правапісу з'явілася знішчыць тую штучную кітайскую сцяну, якую нацдэмы імкнуліся пабудаваць паміж мовай беларускай і мовай рускай...**

**Рэформа беларускага правапісу—буйнейшая палітычная падзея...» (праф. М. Піотуховіч).**

**«Партыя ў рашучай барацьбе разбіла нацдэмакратаў на ўсіх франтах, партыя разбіла іх і на моўным фронце» (Пятрусь Броўка).**

**«Класавы вораг без боя не здаецца. Прадстаіць вялікая жорсткая барацьба. Мы ўпэўнены, што ўся маса сумленных савецкіх пісьменнікаў з пагардай плюне па адрасу Луцкевічаў, нацыяналістаў усіх масцей і іх агентаў...» (сакратар Аргкамітэта ССП БССР Я. Бранштэйн).**

**«...толькі ў барацьбе з нацдэмамі расла наша беларуская культура і толькі ў далейшай барацьбе за іх знішчэнне магчымы далейшы рост беларускай культуры.**

**...мы павінны ўвязваць сваю барацьбу за правапіс з узмацненнем абараназдольнасці нашай краіны. Гэта дзве непарыўныя часткі» (Старшыня Аргкамітэта ССП БССР Міхась Клімковіч).**

Гэтыя выступленні сведчаць, у якім складаным становішчы вялася і завяршылася праца над рэформай беларускага правапісу. Замест сур'ёзнай размовы кожны выступоўца імкнуўся выпусціць па «нацдэмах» як мага больш ядавітых стрэлаў, пасведчыць у сваёй вернасці Камуністычнай партыі і Савецкаму ўраду. Зразумела, найбольш небяспечныя былі выступленні тых, хто не абмяжоўваўся толькі агульнай заявай аб «нацдэмах», а імкнуўся іх персаналізаваць.

Словам, мінскі сход пісьменнікаў — адна з самых змрочных старонак у іх жыцці. Слушныя выказванні гучалі тут вельмі і вельмі рэдка, і гучалі тады, калі ледзь не на карту ставіўся сам лёс беларускай мовы. Пры ўсёй сваёй запалітызаванасці, а мо і адданасці савецкаму рэжыму сёй-той з пісьменнікаў прадбачыў, што «рафінаванне» беларускай мовы, чаму даваў такія шырокія магчымасці дэкрэт СНК БССР ад 26 жніўня 1933 года, можа вельмі трагічна закончыцца для яе і таму спрабаваў хоць эзопаўскай моваю (з-за страху быць абвінавачаным) папярэдзіць надыход такой непажаданай з'явы. Падобнае папярэджанне можна адшукаць у наступных словах Міхася Зарэцкага: «...мы павінны мець на ўвазе магчымасць небяспекі свядомага вульгарызатарства, калі пад выглядам барацьбы з архаізмамі, мёртвымі правінцыялізмамі і г. д.» памкнуцца «змагацца супроць усякага пашырэння лексікона...» Ён раіў «чула прыслухоўвацца да жывой мовы беларускіх рабочых і сялян... браць і ўводзіць у літаратурную мову ўсё тое, што сапраўды ўвалье ў яе здаровы свежы струмень...»

Яшчэ далей у папярэджанні магчымага збяднення лексікі беларускай мовы, а не дык і поўнага адрачэння ад яе, пайшоў Кандрат Крапіва, заявіўшы, што «мы павінны змагацца з усялякімі праявамі вульгарызацыі, з тымі «тэарэтыкамі», якія паспрабуюць даводзіць, што настаў ужо момант адмовіцца ад далейшага развіцця беларускай мовы, што пара перайсці да мовы інтэрнацыянальнай. Мы ім павінны цвёрда напомніць аб тым, што да інтэрнацыянальнай культуры і па змесце і па форме мы прыдзем толькі праз поўнае і ўсебаковае развіццё культур нацыянальных па форме і сацыялістычных па змесце».

У тым жа годзе Інстытут мовазнаўства Беларускай акадэміі навук выдаў кнігу «Пісьменнік і мова». Збор артыкулаў, прысвечаных барацьбе за культуру мовы. У ёй усё тая ж набіўшая аскоміну гаворка пра барацьбу «за ачыстку мовы ад класава-шкодных плыняў, ад нацдэмізмаў, архаізмаў, ад штучна ўтвораных па нацыяналістычнаму тыпу слоў». Звяртае на сябе ўвагу апошні абзац з прадмовы да кнігі дырэктара Інстытута мовазнаўства А. Александровіча: «Калі кнігай «Пісьменнік і мова» нам удалося нанесці яшчэ адзін скрышальны ўдар па недабітых рэштках нацдэмаўшчыны... пастаўленую перад сабою задачу... мы выканалі». А адкрываў кнігу ягоны ж артыкул пад назвай «Вырваць з корнем пустазелле». Арганізатар мовазнаўчай акадэмічнай навукі заклікаў «...максімальна глыбока ўскрыць подлую атрутную работу нацыяналістаў, ускрыць іх метады і формы работы на моўным фронце, паказаць змест тых формул, якія мы прывыклі даваць па адрасу іх работы (паланізатарства, насаджэнне архаізмаў і неалагізмаў». Барацьбу супроць засмечвання мовы неабходна пераплятаць «з барацьбой супроць нацыяналізма, супроць беларускага контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызма, таму што гэтаму засмечванню нацыянал-дэмакраты прыдалі дадатковую класавую функцыю — змагацца супроць партыі і пралетарыята на фронце будаўніцтва нацыянальнай культуры».

Выдаўцы кнігі «Пісьменнік і мова» былі зацікаўлены ў прыцягненні да яе напісання самых аўтарытэтных пісьменнікаў, каб з іх дапамогай наносіць руйнуючыя ўдары па беларускіх «нацдэмах». Пра мову М. Лынькова ў рамане «На чырвоных лядах» піша тут Якуб Колас. Праўда, аддаўшы невялікую даніну змаганню з нацыяналізмам у моўным пытанні, народны пясняр павёў гутарку ў плане абароны роднага слова, з якога чынілі здзек праціўнікі беларускага Адраджэння. «Трэба надзвычай пільна і востра сачыць, каб пад відам змагання за чыстату беларускай мовы не прылажыў свае рукі і класавы вораг (даруем аўтару ўжыванне такога моднага ў той час азначэння,— Л. Л.). Пад сцягам змагання з нацдэмізмамі ён можа павесці работу ў плане дыскрэдытацыі, вынішчэння і абяскроўлення самой мовы... Усё гэта змушае нас, савецкіх пісьменнікаў, вельмі ўважліва і дбайна ставіцца ў дачыненні да мастацкага слова». Якуб Колас не быў праціўнікам разумнага ўжывання правінцыялізмаў. Толькі калі да іх пісьменнік звяртаецца «без пэўнай мастацкай апраўданасці, то яму справядліва можна зрабіць закід як чалавеку, які не ідзе ў ногу з сваім часам...»

Затое не задавальняўся толькі закідамі аўтар артыкула «Даволі «шындзёліць» і «скогліць»» С. Куніцкі. Выкрыццё правінцыялізмаў у беларускай мастацкай літаратуры ён зрабіў праз аналіз творчасці канкрэтных пісьменнікаў і паэтаў, чым толькі пасадзейнічаў будучаму абвінавачванню іх адпаведнымі спецслужбамі. Ужыванне правінцыялізмаў, дыялектызмаў і архаізмаў С. Куніцкі тлумачыў шкодным уплывам на літаратараў ідэалогіі нацыянал-дэмакратызму і таму патрабаваў жорсткай барацьбы з гэтай з'явай. «Для савецкага пісьменніка, для савецкага паэта,— пісаў ён,— павінна быць ясна адно, што мова нацдэмаў, як і мова мяшчан, нам варожа, што гэтай абмежаванай, архаічнай, саладкаватай мовай яркіх карцін, жывых людзей, пераканаўчых вобразаў стварыць нельга». За такую мову найбольш за ўсё папала ад аўтара Ул. Хадыку, А. Казлоўскаму, В. Маракову і Ал. Зарыцкаму.

Шмат бруду на «нацыяналістаў» выліў Эд. Галубок у артыкуле аб стылі беларускай савецкай драматургіі. Апошняя, паводле яго меркавання, прыйшла да свайго мастацкага росту толькі «ведучы пад кіраўніцтвам партыі напружаную барацьбу з нацыянал-дэмакратамі, якія імкнуліся захапіць пазіцыі ў галіне тэатра і ў прыватнасці драматургіі».

Заканчваў кнігу артыкул П. Юргілевіча «Моўныя тэорыі і практыка контррэвалюцыйных лідэраў «Узвышша»». На думку аўтара, самыя галоўныя сілы «нацдэмаў» былі сканцэнтраваны на мовазнаўчым участку і сярод іх, вядома, у першую чаргу Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, В. Ластоўскі, М. Гарэцкі і П. Бузук.Гэта яны зрабілі «мовазнаўчыя інстытуцыі... цытадэлямі сваёй падрыўной контррэвалюцыйнай работы», далі ўстаноўку на «стварэнне штучнага бар'ера паміж беларускай мовай і мовай рускага пралетарыята і набліжэнне беларускай мовы да мовы фашысцкай Польшчы». Варожасць, антысавецкую накіраванасць дзеянняў «нацдэмаў» П. Юргілевіч бачыць літаральна ва ўсім: замене кірыліцы лацінкай, каб толькі не быць падобнай да рускай азбукі, ва ўвядзенні ў беларускі алфавіт некаторых новых літар і асабліва ў тым, як складаліся імі слоўнікі, распрацоўвалася тэрміналогія, у выніку чаго нібыта не знайшлося ўжытку для сотняў, тысячаў агульных для беларускай і рускай мовы слоў. Ужо сам факт ужывання П. Юргілевічам выразаў «агалцелы нацдэм» (В. Ластоўскі), «ахвосце недабітага нацдэмакратызму» (М. Лужанін, Л. Калюга, Ю. Таўбін), «словаблудны ідэолаг» (А. Бабарэка), «арганізатар белых банд» (А. Гарун) сведчыць, што сур'ёзнага аналізу мовазнаўчых праблем ён не стане ці не жадае зрабіць.

Аб'ектам самай злоснай крытыкі стаў «збраяносец нацдэмізму» Уладзімір Дубоўка, які, як вядома, шмат зрабіў для ўзвышэння прэстыжу беларускай мовы ў грамадстве, вывучэння шляхоў яе развіцця. П. Юргілевіч не пагаджаецца з яго поглядамі, што нацыянальная мова з'яўляецца нечым спрадвечным і арганічна звязаным з самім народам, што ў XII—XVI стагоддзях беларуская мова дасягнула найвялікшага росквіту. Адмаўляе вучоны-філолаг і сцвярджэнне Дубоўкі, што «ў склад беларускага лексікона ўваходзяць у пераважнай большасці словы агульнаславянскія і самабытна беларускія». Няцяжка зразумець чаму: адсутнічае залежнасць развіцця беларускай мовы ад рускай, не дае падстаў разглядаць першую як дыялект другой. У такім жа святле разглядаюцца тут «нацдэмаўскі трубадур» Язэп Пушча, мова якога гэтаксама «перасыпана нацдэмізмамі», «махровы нацдэм» Язэп Лёсік і абаронца «нацдэмаўскай лініі ўзвышанцаў» Адам Бабарэка.

Усё, што рабілася напярэдадні і пасля прыняцця пастановы СНК БССР аб рэформе беларускага правапісу, не магло не хваляваць і прадстаўнікоў небеларускай творчай, навуковай інтэлігенцыі. Цікава выказаўся на нарадзе літоўскіх савецкіх пісьменнікаў Беларусі (праходзіла ў 1933 г.) В. Сербента: «Хорошо или плохо новое белорусское правописание, покажет будущее. Нечего спешить с подобным сложным вопросом». А вось сакратар Аргкамітэта ССП БССР Я. Бранштэйн назваў выступленне В. Сербенты рэакцыйным і нацыяналістычным.

## Сплаціць даўгі

**Як няцяжка было заўважыць, вышэй у мяне гаворка вялася пра погляды на рэформу беларускага правапісу 1933 года асоб і перш за ўсё пісьменнікаў, якія ўжо на той час паспелі знайсці сабе месца (хтосьці і даволі прэстыжнае) у грамадскім жыцці, інтэгравацца ў дзяржаўна-партыйныя структуры, стаць іх даволі актыўнымі абаронцамі. Зусім іншых поглядаў на рэформу прытрымліваліся літаратары, што знаходзіліся ў самым нізе ўзведзенай на Беларусі дзяржаўна-партыйным апаратам сацыяльнай піраміды, не мелі аніякіх званняў і ўзнагарод. Вось, да прыкладу, думка наконт гэтага пісьменніка і пасляваеннага эмігранта Янкі Золака, якога на пачатку 30-х гадоў мо ведалі толькі на роднай Магілёўшчыне: «Наша пакаленне выхавана ў час беларусізацыі. Мы паспелі ўвабраць нацыянальны дух. І калі пачалася змена правапісу, успрынялі гэта адмоўна, але нічога не маглі зрабіць. Пазнейшыя пакаленні ўжо адыходзілі ад нацыянальнай самасвядомасці... Мы з трывогай назіралі, як трымаюцца нашы пісьменнікі». А трымацца ім было ой як нялёгка. Таму было б несправядліва вельмі ўжо строга асуджаць тых з іх, хто ўсхваляў, стаў на абарону рэформы правапісу, ці бачыць у кожным іх слове шчырую праўду. У тагачасным жыцці ўсё было намнога больш складана, чым пра яго гаварылася нават самымі паважанымі намі і сёння пісьменнікамі, навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі.**

А вось што рэформа правапісу была з'явай штучнай, навязанай народу зверху партыйна-дзяржаўнай наменклатурай, сведчыць адсутнасць усялякай падтрымкі яе з боку саміх носьбітаў беларускай мовы, а таксама больш нізкіх паводле сацыяльнага статусу, але затое самых масавых катэгорый майстроў пяра, педагагічнай інтэлігенцыі. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна і Беларусь апынулася пад фашысцкай акупацыяй, ад увядзення новага правапісу мінуў ужо і не такі малы тэрмін. Каб рэформа была ў многіх адносінах станоўчай з'явай, за гэты час яна магла б пусціць даволі глыбокія карані ў душы і сэрцы беларусаў. Не, такіх каранёў яна не пусціла. Пераважна па ініцыятыве вышэйпералічаных катэгорый інтэлігенцыі, а не па загадзе акупацыйных уладаў на старонкі перыядычнага друку, у навучальна-выхаваўчы працэс школ, службовае справаводства і іншыя сферы жыцця пачала адразу ж вяртацца беларуская мова дарэформеннага ўзору і пярэчанняў з такой нагоды нідзе не назіралася.

Добра ўсё гэта памятаю і я. У першы год акупацыі я вучыўся ў шостым класе. Наведванне школы было абавязковай справай для ўсіх, хто не меў няпоўнай сярэдняй адукацыі. А маю старэйшую сястру, якая да вайны закончыла сем класаў, абавязалі нават яшчэ раз пахадзіць у сёмы клас, бо ёй не споўнілася на той час 16 гадоў. Дзеці адразу заўважылі, што занятнкі з імі вядуць на трохі непадобнай да даваеннай беларускай мове. Адмоўнай рэакцыі на гэта не было. Сказалі настаўнікі, што пры напісанні слоў трэба больш кіравацца тым, як яны вымаўляюцца, і пайшлі-паехалі ў нашых сшытках: «сьнег», «насеньне», «вадкасьць»... Трошкі цяжэй было прызвычаіцца пісаць «кляс», «плян», бо вельмі ж трывала ўсталяваліся да вайны вымаўленне і напісанне іх праз «а».

А вось мой бацька (1901 г. нарадж., да рэвалюцыі закончыў чатырохкласную прыходскую школу), пачуўшы і пабачыўшы, як мы, дзеці, размаўляем паміж сабой і пішам у сшытках, як цяпер памятаю, сказаў: «У вашай школе нейкая наццдэмаўская беларуская мова». І толькі праз дзесяткі гадоў я дапяў да сутнасці гэтага тэрміну і падумаў, якую ж трэба было правесці добраарганізаваную і масавую барацьбу з «наццдэмаўшчынаи», прадумана распрапагандаваць гэтае слова, каб яно дайшло да свядомасці простага селяніна, захавалася ў яго памяці да пачатку вайны з фашысцкай Германіяй.

Міналі гады... Не адна генерацыя вучняў паспела закончыць сямігадовыя і дзесяцігадовыя школы па правапісе 1933 года, але таго, хто ведаў беларускую мову да яе рэфармавання, не-не дый агортвала настальгія. Зразумела, такіх людзей найбольш было сярод настаўнікаў-мовазнаўцаў. Траплялі і такія, што спрабавалі давесці адпаведным структурам пра найбольш істотныя хібы ў правапісе 1933 года, якія выяўляліся ў ходзе практыкі выкладання беларускай мовы ў школе. Але ніхто ў вярхах не збіраўся слухаць такіх руплівцаў роднага слова. Вось пазіцыя па гэтым пытанні аднаго з высокіх кіраўнікоў Міністэрства асветы рэспублікі С. Умрэйкі, выкладзеная ім у юбілейным артыкуле «30 год савецкай школы ў БССР»: «Прынятая ўрадам БССР у 1933 годзе пастанова аб рэформе беларускага правапісу нанесла вялікі ўдар па беларускаму нацыяналізму і яго стаўцы на знішчэнне ўсяго таго, што збліжала беларускі народ з вялікім рускім народам». І ўсё ж, як бы ні абаранялі праведзеную ў 1933 годзе рэформу правапісу беларускай мовы, недахопы яе выпіралі на паверхню, станавіліся відавочнымі, і асабліва для тых, хто прафесійна быў звязаны з выкарыстаннем роднага слова. Хацелі таго афіцыйныя структуры ці не, але пад напорам самога жыцця ім давялося ў канцы 50-х гадоў пайсці на пэўныя ўдакладненні беларускага правапісу, што можа быць тэмай спецыяльнага артыкула. Адзначу толькі, што ў выдадзеных у 1959 годзе «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» ненаціскныя «о» і «э» ў іншаземных словах належала, за рэдкім выключэннем, перадаваць праз «а», за што так настойліва выступалі многія ўдзельнікі лістападаўскай (1926 г.) акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу.

Чарговая хваля за перагляд рэформы 1933 года прыпадае на другую палову 80-х гадоў, калі ў сувязі з аб'яўленай у былым Саюзе перабудовай пачалі па-новаму пераасэнсоўвацца многія неардынарныя падзеі і факты з нашага эканамічнага, палітычнага і сацыяльна-культурнага жыцця. Характэрна, што з крытыкай рэформы 1933 года першымі выступілі не вядучыя вучоныя-мовазнаўцы, масцітыя літаратары, а іх маладыя калегі У. Арлоў, А. Асташонак, Л. Баршчэўскі, А. Бяляцкі, П. Васючэнка, Л. Дранько-Майсюк, А. Сідарэвіч і інш., невялічкі допіс якіх у газету «Літаратура і мастацтва» (18 верасня 1988 г.) даў моцны штуршок для несціханай і па сёння гаворкі па даным пытанні.

З усяго таго, што мне ўдалося прачытаць па ім у перыядычным друку, значна пераважаюць публікацыі крытычнага характару ў дачыненні да рэформы беларускага правапісу 1933 года. І з іх аргументацыяй проста нельга не пагадзіцца. Перакананы, што нягледзячы на ўсялякага роду эканамічныя цяжкасці ў сувязі з пераходам да рынкавай эканомікі, мы не можам пакідаць сваю мову ў тым стане, у які яна трапіла ў выніку дапушчаных свядома і падсвядома хібаў у рэгуляванні нацыянальна-культурнага развіцця беларускага народа. Адхілены ад роднага слова, ён ледзь не паглаоўна стаў ахвярай рускамоўнай асіміляцыі. Можа, такой мэты і не ставілі перад сабой рэфарматары беларускай мовы 1933 года, але іх яўныя спробы наблізіць апошнюю да рускай паводле марфалагічных і фанетычных значэнняў не маглі ў будучым не паспрыяць рускамоўнай асіміляцыі карэннай нацыі БССР. Вядома ж, што гэтыя працэсы адбываюцца найбольш «паспяхова», калі справа датычыць блізкароднасных паводле сваіх моў народаў. Прыгадаем адносна хуткае выцясненне беларускай мовы з афіцыйнага жыцця ў часы Рэчы Паспалітай, як толькі наваднілі яго польскай мовай, а затым і зусім увялі яе ў ранг дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Менавіта блізкароднасць моў, а не які-небудзь іншы фактар быў узяты пад увагу і царскай адміністрацыяй, якая з другой паловы XIX стагоддзя ўзмацніла перш за ўсё моўную асіміляцыю беларусаў, а не ўкраінцаў, у мове якіх было больш адметнага з рускай, чым пад той час у беларусаў. Так што ў гэтай далёка не гуманнай справе ініцыятары рэформ беларускай мовы ў 1933 годзе не былі наватарамі, бо яны ішлі добра вядомым і да іх шляхам асіміляцыі.

Не выключана, што многім сённяшнім беларусам, якія чуюць і размаўляюць, пішуць толькі на сучаснай роднай мове, дарэформенная мова можа здацца ў чымсьці нават трохі горшай, больш складанай для аваладання. Але ўсё гэта не так. Тая мова па мілагучнасці перасягае сучасную. Нездарма добры знаўца і руплівец роднага слова Кузьма Чорны так сказаў пра мову, што дасталася нам ад дарэвалюцыйнага часу: «Вялікая беларуская моўная стыхія не толькі не загінула за час шматвяковага нацыянальнага паднявольвання Беларусі, не толькі не была праглынута моцнымі культурамі суседніх народаў, а захавала сваю чыстату, скрышталявалася ў надзвычайнае багацце арыгінальных формаў, служачы нават багатым матэрыялам для суседніх моўных культур. Беларуская мова—мова беларускіх казак і песень, фразеалогія народнае гутаркі—гэта найглыбейшая самабытнасць і характво».

Пра сучасную беларускую мову мне не даводзілася чуць ці чытаць такое. Наадварот, сёй-той пра яе гаворыць, як пра дыялект ці кальку з рускай. І, відаць, мае пэўную рацыю, бо ад таго часу, як была праведзена рэформа правапісу, з лёгкай рукі работнікаў выдавецтваў, рэдакцый газет і часопісаў ды і саміх вучоных-філолагаў у беларускую мову трапіла процьма паасобных слоў і выразаў з рускай, што першая стала ў многім вельмі падобнай да другой, не здабыўшы, аднак, ад гэтага аніякага хараства. Парушылі мы слушны наказ Кузьмы Чорнага:«Літаратурная мова павінна быць моваю чыстаю, беларускаю». Не сумняваюся, што большасць з тых, хто прыклаў руку да правапісу 1933 года, не знайшоў бы ў сучаснай беларускай мове многага з таго, на што тады разлічвалі яе рэфарматары. Мы пайшлі значна далей, чым імі задумвалася, у шмат разоў павялічыўшы памылку 1933 года.

Незалежна ад таго, як будзе адбывацца ў нас рэформа беларускай мовы, трэба ўжо сёння весці санацыю яе лексікі ад русіцызмаў і вельмі асцярожна, удумліва ставіцца да аднаўлення ці новага запазычвання паланізмаў, бо сям-там мы ўжо перагінаем кій. Можа, не ў такой катэгарычнай форме, але ўсё ж трэба прыслухацца да таго, што пісаў у 1924 годзе В. Ластоўскі ў прадмове да свайго «Расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка»: «...кождае чужое слова, занесенае ў мову, асымілюе, збліжае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высьцерагацца ўжываць сходныя з суседзкімі словы, хоць-бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў...»

Акрамя лексікі, за пасляваенныя гады моцна далася ў знакі русіфікацыя марфалогіі і фанетыкі беларускай мовы. Асабліва бязлітасна зрусіфікавалі мы родны склон адзіночнага і множнага ліку. Цяпер у нас у параўнанні з тым, што было да 1933 года, вельмі мала слоў, у якіх у канчатку роднага склона адзіночнага ліку пішуць «у» ці «ю». Патакаючы рускаму правапісу, не хочам у родным склоне множнага ліку пры збегу ў словах на канцы зычных гукаў пісаць «аў», «яў»: норм замест нормаў, форм—формаў і г.д. Думаецца, лішнім будзе тлумачыцца, як усё гэта негатыўна адбіваецца на мяккасці і мілагучнасці беларускай мовы. У шмат якіх словах накшталт рускага напісання канчатак роднага слова множнага ліку «яў» замянілі на «ей» (народнасцей замест народнасцяў). Дужа пакрыўдзілі і само слова «мова» ад таго, што ў родным склоне множнага ліку пішам «моў», а не «моваў». У першым выпадку пра заканчэнне яго вымаўлення проста не ведаеш, што рабіць з губамі, а ў другім жа яны так мякка і рытмічна змыкаюцца.

Паколькі з наданнем беларускай мове статуса дзяржаўнай будзе непазбежна расці лік яе носьбітаў, дапамагчы апошнім здзейсніць гэтую гістарычную місію магло б пашырэнне фанетычнага прынцыпу ў правапісе, пазіцыі якога цяпер значна слабей, чым у дарэформенны перыяд. На раней разгледжанай намі мовазнаўчай канферэнцыі В. Ластоўскі гаварыў: «А як цяжка вучыцца мове тады, калі напісанае не адпавядае таму, як трэба чытаць»: Ці ж не сутыкаемся мы сёння з такой цяжкасцю, калі гаворым «сьмех», «насеньне», а пішам «смех», «насенне»?

Трэба ўсё рабіць так, каб максімальна наблізіцца да выказанай у 20-я гады гэтым жа вучоным думкі: «Тая пісьменнасць, знадворныя формы якой (гукі, словы, склад і правапіс) найбольш адпавядаюць УНУТРАНАМУ боку народнай мовы (зместу і фанетычным асаблівасцям), лічыцца самай ідэальнай». Што сучаснай беларускай мове да гэтага вельмі далёка, мала хто сумняваецца. І далёка толькі таму, што «знадворныя формы» яе доўгі час падцягвалі спачатку да польскай, а затым да рускай моў.

Хочацца паразважаць і адносна такога пытання. Не паспеўшы як след схіліць пераважную большасць беларусаў да роднага слова, мы ўсё часцей уздымаем на старонках перыядычнага друку і праблему лацінскай азбукі. Для беларусаў гэта не навіна. З ёю яны даўно знаёмыя, але адносіны да такой азбукі не заўсёды былі паважлівымі. А што датычыць увядзення яе ў 1929-30 навучальным годзе ў беларускія і польска-беларускія школы Заходняй Беларусі, дык увогуле такі акт многімі прагрэсіўнымі дзеячамі і педагогамі быў расцэнены як грубае апалячванне беларускіх дзяцей. Вось што пісаў з гэтай нагоды вядомы педагог Заходняй Беларусі Сяргей Паўловіч: «Замена гэтая касуе ўсе здабыткі нашага пісьменства, якое грунтуецца выключна на кірыліцы і пазбаўляе нашу азбуку свайго нацыянальнага твару... Кірыліца зраслася з усім укладам нашага жыцця, з усімі нашымі навуковымі і літаратурнымі дасягненнямі, яна—спадарожнік нашага культурнага адраджэння. Адным словам, кірыліца—нацыянальная беларуская азбука».

Дапушчанае Сяргеем Паўловічам перабольшванне ролі кірыліцы можна зразумець як рэакцыю на хітра задуманую ўладамі Рэчы Паспалітай спробу ўзмацнення паланізацыі беларускага насельніцтва т. н. «усходніх крэсаў». Цяпер гэты фактар нас не палохае і таму да лацінкі можна ставіцца больш аб'ектыўна. Цалкам адмаўляць яе няма аніякіх падстаў, бо яна вельмі паспяхова спраўляецца са сваімі функцыямі ў шэрагу славянскіх моў. І калі б не нашае жабрацкае эканамічнае становішча, востры папяровы дэфіцыт, можна было б паспрабаваць далучаць дзяцей да беларускіх тэкстаў на лацінскай азбуцы ў год, калі яны пачынаюць вывучаць замежную мову. Пакуль эканоміку не паставім на цвёрды грунт, думаецца, не варта спяшацца з лацінкай, бо сёння галоўнае не ў гэтым, а ў тым, як перайсці ад фармальнага да рэальнага статуса дзяржаўнасці беларускай мовы.

Улічваючы важнасць задуманага на сёння перагляду і ўдасканальвання беларускага правапісу, нам варта было б да прыняцця канкрэтнага рашэння склікаць канферэнцыю педагогаў-мовазнаўцаў, якія выкладаюць беларускую мову ў агульнаадукацыйных школах, тэхнікумах і інстытутах, бо ніхто, як яны, не ведае станоўчых і адмоўных бакоў сучаснага правапісу. Нагадаю, што да правядзення раней разгледжанай мною акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі адбылася ў Мінску ў верасні 1926 года Усебеларуская літаратурна-лінгвістычная канферэнцыя настаўнікаў, з думкамі якой часта даводзілася лічыцца навукоўцам у час гарачых спрэчак. Датычыла гэта і напісання «ь», бо, як заяўлялі настаўнікі, дзеці вельмі добра засвойваюць правіла ўжывання яго пасля «з», «с», «ц» і «дз», якія стаяць перад мяккімі зычнымі, а таксама напісання «ь» паміж падвойнымі зычнымі. Цяпер жа калі «ь» у падобных выпадках не пішацца, карысна было б пачуць ад настаўнікаў, як гэта адбіваецца на вымаўленні і пісьме.

Запланаваная на лістапад сёлетняга года канферэнцыя па праблемах беларускага правапісу прынясе большую карысць тады, калі да яе адкрыцця будуць надрукаваны з мэтай шырокага абмеркавання асноўныя даклады і выступленні, што дасць магчымасць улічыць слушныя крытычныя заўвагі і пажаданні людзей, якія заклапочаны не толькі праблемай адраджэння беларускай мовы, але і вяртаннем гвалтам забраных у яе чысціні і самабытнасці.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# Масты дружбы давайце будаваць разам!

## Кіеўскі універсітэт чакае дапамогі з боку беларускай культурнай грамадскасці

Глыбокія карані дружбы і братэрства яднаюць украінскі і беларускі народы на працягу многіх стагоддзяў. Украінцы здаўна любяць сваю сінявокую сястру Беларусь, радуюцца яе поспехам і сумуюць, калі ў вас нешта не так, ведаюць яе цудоўныя літаратуру і мастацтва. Ва ўмовах здабыцця незалежнасці ўзаемаінтарэс да дзяржаўнага і культурнага будаўніцтва ў нашых краінах узрастае. Не будзем забываць і таго, што для сотняў тысяч грамадзян Украіны Беларусь з'яўляецца роднай маткай (толькі ў сталічным Кіеве беларусаў — больш чым 25 тысяч). Шматнацыянальная Украіна дбае і клапоціцца пра ўсіх сваіх дзяцей. Для далейшага ўмацавання палітычных і культурных сувязей паміж Украінай і суседнімі краінамі і для больш поўнага задавальнення культурных запытаў нацыянальных меншасцей Украіны, сярод усякіх іншых мерапрыемстваў, пры Кіеўскім універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі створана кафедра моў і літаратур народаў Украіны, на якой рыхтуюць спецыялістаў па венгерскай, румынскай, яўрэйскай (ідыш), навагрэчаскай і беларускай мовах (традыцыйная падрыхтоўка спецыялістаў па польскай, чэшскай, балгарскай і сербахарвацкай мовах праводзіцца на аддзяленні славянскай філалогіі ўжо на працягу многіх дзесяцігоддзяў). Усе гэтыя мовы павінны стаць, нараўне з украінскай, другой спецыяльнасцю з адпаведным запісам у дыпломе.

Беларуская мова вывучаецца ў Кіеўскім універсітэце ўжо трэці год. Стаць беларусістамі рыхтуюцца 17 студэнтаў другога, чацвёртага і пятага курсаў украінскага аддзялення філалагічнага факультэта. А найбольш таленавіты студэнт V курса Алесь Скапненка ўжо другі год праходзіць стажыроўку пры Беларускім дзяржуніверсітэце, пасля заканчэння якога ён мяркуе быць выкладчыкам беларускай мовы ў родным універсітэце.

Быць першапраходцам у гэтай справе ва ўмовах адсутнасці праграмы, падручнікаў і дапаможнікаў па беларускай мове для ўкраінскіх студэнтаў нам было нялёгка. Але спадзяваліся на кіеўскую кнігарню «Сузір'я», у якой можна было набыць мастацкую і публіцыстычную літаратуру на мовах усіх колішніх рэспублік СССР, у прыватнасці, і на беларускай мове, а таксама на беларускія перыядычныя выданні, якія яшчэ зусім нядаўна можна было свабодна выпісаць у Кіеве. Некаторы час нам шанцавала ўсё гэта рабіць. Але развіццё рыначных (ці, хутчэй, псеўдарыначных) адносін прывяло да таго, што кнігарня «Сузір'я» аказалася не рэнтабельнай і яе ліквідавалі, а паштовае ведамства ашаламіла нас непраўгоднай сенсацыяй: аказваецца, на 1993 год на Украіне можна выпісаць толькі беларускамоўную «Звязду». Такім чынам, даўнія і шчырыя прыхільнікі «Літаратуры і мастацтва», «Нашага слова» і многіх беларускіх часопісаў упершыню застануцца без любімых выданняў, а нашы студэнты - беларусісты — без вучэбнага матэрыялу. У такіх умовах **падрыхтоўка спецыялістаў па беларускай мове ў Кіеўскім універсітэце становіцца немагчымай** і ў бліжэйшай будучыні **яе прыйдзецца прыпыніць.** Каб гэтага не здарылася, **мы звяртаемся да праўлення Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Саюза пісьменнікаў Беларусі, да беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў навукі і культуры, літаратуры і мастацтва, усіх беларусаў-патрыётаў, неабыякавых да беларускай мовы,** з просьбай дапамагчы стварыць навучальную базу для вывучэння беларускай мовы ў Кіеўскім універсітэце. Нам патрэбны беларускія газеты і часопісы, зборнікі вершаў, апавяданняў і нарысаў, у тым ліку маладых аўтараў, і любыя іншыя выданні, напісаныя сучаснай беларускай літаратурнай мовай згодна з дзеючым правапісам, **і не ў адным экземпляры, а па 7—10 штук кожнага выдання** з тым, каб іх меў кожны студэнт групы для калектыўных практычных заняткаў.

Усіх, хто знойдзе магчымасць адклікнуцца на наш крык душы, прашу прысылаць адзначаную літаратуру непасрэдна аўтару гэтага артыкула на адрас:

**252115, Кіеў-115, вул. М. Краснова 12, кв. 33 (тэл. 450-53-43).**

**Рыгор ПІЎТАРАК,**
**доктар філалагічных навук, прафесар кафедры моў і літаратур народаў Украіны Кіеўскага універсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, прэзідэнт Украінскай нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў.**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Мы выконваем просьбу нашага ўкраінскага сябра і друкуем ягоны ліст-зварот. Друкуем з крыўдай і сорамам за нас, за нашую дзяржаву, за наш урад. Няўжо гэтак вось, самадзейна, на такім узроўні павінны вырашацца падобныя праблемы?

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Івану Шальманаву з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці ЖОНКІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне сакратару Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Івану Аношкіну з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БРАТА.

